УДК 719.025.4 (476.6-25) (082)
ББК 79.0 (4Беи)я43
Г67

Выдаецца пры ўдзеле Таварыства Беларускай школы і Беларускага гістарычнага таварыства



У афармленні вокладкі выкарыстаны малюнак Алеся Сурава (Гродна)

**Горад Святога Губерта:** альманах лакальнай гісторыі. Выпуск 7 (2013) / рэдкал. А.Смалянчук [і інш.]. – Гродна, 2013. – 166 с.: іл. – (Гарадзенская бібліятэка).

Чарговы выпуск альманаха, прысвечаны 150-годдзю вызвольнага паўстання 1863 г. Большасць матэрыялаў звязаныя менавіта з гэтай падзеяй у гісторыі горада. Апроч таго традыцыйна разглядаюцца малавядомыя старонкі гісторыі Гродна і гістарычнай палітыцы. Разлічаны на шырокае кола чытачоў.

**УДК 719.025.4 (476.6-25) (082)**
**ББК 79.0 (4Беи)я43**
**Г67**

# Прадмова

Чарговы выпуск нашага зборніка прысвечаны падзеям паўстання 1863 г. Вызвольны чын «За вольнасць нашу і вашу», які адбыўся 150 гадоў таму, і сёння застаецца арыентырам для многіх гарадзенцаў. Горад Святога Губерта – гэта горад свабодных людзей, якія заўсёды ганарыліся Каліноўскім і Урублеўскім, Траўгутам і Серакоўскім. Яны пагарджалі тымі, хто прамяняў уласны гонар на пасаду лёкая ды ласку чарговага «начальніка» і шанавалі суайчыннікаў, для якіх словы «Вольнасць» і «Айчына» спалучаліся з сэнсам уласнага жыцця.

Чытач атрымае мачымасць даведацца пра тое, як расейскія ўлады лавілі Каліноўскага (А.Кайрыс), прайсці апошнім шляхам разам з паўстанцамі, якіх каралі смерцю ў Горадні (А.Радзюк), наведаць гарадзенскія адрасы паўстання (В.Швед, Ф.Ігнатовіч, А.Крой, І.Буднік), разам з англійскім святаром Фартэск'ю Андэрсанам правесці некалькі дзён у гарадзенскай турме ў верасні 1863 г.

Апроч таго на старонках зборніка можна пазнаёміцца з варыянтамі рэканструкцыі Старой гарадзенскай Ратушы і «Фары Вітаўта» (І.Лапеха), прачытаць апісанне Каложскай царквы, зробленае французскім даследчыкам баронам Жозэфам дэ Бае ў 1905 г., задумацца разам з нямецкім гісторыкам Феліксам Акерманам пра ролю Элізы Ажэшкі ў памяці нашага горада і перанесціся ў міжваенную і ваенную Горадню, дзякуючы запісаным вусным успамінам гарадзенцаў.

...Чытаючы старонкі кнігі Ф.Андэрсана пра Горадню ўвосень 1863 г., пра ягоныя кантакты з мясцовым чынавенствам, якія ледзьве не закончыліся для настаўніка ангельскай мовы ў сям'і Аляксандра Біспінга «падарожжам» у Сібір, нявольна адчуваеш пэўную пераклічку эпохаў. Інтрыгі і падман чыноўнікаў, іхні страх перад чалавекам, які не хавае сваіх думак, лёкайства перад начальнікам – усё гэта вельмі знаёмае таксама гарадзенцу XXI стагодзя. Можа ў Горадні спыніўся час?

Але ж не! Можна прыгадаць канец 80-х – пачатак 90-х гг., калі панаваў дух разняволення. Знікнуў страх, адрадзілася цікавасць да ўласнай мінуўшчыны і беларускай культуры. Шанавалі навукоўцаў і сярод іх гісторыкаў, бо, нарэшце, прыйшло разуменне, што калі мы без гісторыі, то і Гісторыя без нас!..

Шмат зменаў адбылося з таго часу... І вось ужо сучасны гарадзенскі «губернатар» 4 сакавіка 2013 г. публічна з гонарам заяўляе, што менавіта ён звольніў з універсітэту гісторыка Андрэя Чарнякевіча за ўдзел у падрыхтоўцы кнігі «Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада» (Гародня-Вроцлаў, 2012), ён жа запалохвае прафесараў і выкладчыкаў заявай пра тое, што ва універсітэце «выявлено 16 человек, призывающих сменить действующую власть» і г.д. (http://s13.ru/archives/54878. Доступ 8.03.2013 г.). Амаль праз месяц Навуковая Рада ГрДУ імя Янкі Купалы не абрала іншага аўтара «Гродназнаўства» доктара гістарычных навук і прафесара Вячаслава Шведа на пасаду прафесара універсітэту. Цалкам зразумела, чый загад выконвала Рада, якая год таму прычынілася да ўзнагароджання В.Шведа медалём «За заслугі перад універсітэтам». (http://www.t-styl.info Доступ 2.04.2013 г.)

...У 1863 г. гарадзенскія чыноўнікі і вайскоўцы, якім вельмі хацелася асудзіць англійскага святара за тое, што нібыта «ўзбройваў паўстанцаў», падманвалі яго, бо саромеліся ўласных гнюсных учынкаў. Сёння пачуццё сораму паступова памірае. Гэта, хіба, адзін з найбольш важкіх вынікаў сучаснай «стабільнасці». Але на шчасце для горада і краіны гэта не стала агульным законам жыцця.

Менскія калегі пры сустрэчы рэгулярна задаюць пытанні: «Што ў вас у Горадні адбываецца? Адкуль такая нянавісць адміністрацыі да інтэлігенцыі?» На самой справе нічога асаблівага не адбываецца. Ідзе звычайнае жыццё, якое зноў робіць актуальным лозунг «За вольнасць нашу і вашу!»

***Алесь Смалянчук***

# Рэканструкцыя і памяць

**Ігар Лапеха (Гродна)**

## Як выглядала “Фара Вітаўта”?

Выраслі ўжо два пакаленні гродзенцаў, якія не бачылі касцёла Унебаўзяцця Панны Марыі (“Фары Вітаўта”), першага і найбольш адметнага касцёла нашага горада. Мы быццам ужо прызвычаіліся да яго адсутнасці, але ўсё роўна адчуваем сябе няўтульна на галоўнай плошчы Гродна, бо падсвядома перакананыя, што адзіны ў Беларусі горад вузкіх вулачак не павінен мець у гістарычным цэнтры “гуляй поле”.

Ужо дваццаць год вядуцца размовы аб мажлівай адбудове галоўнай дамінанты горада. Але справа далей намераў не зрушылася. Хтосьці хоча бачыць храм, які ён памятае з перадваеннага дзяцінства, а хтосьці імкнецца пацвердзіць уласную прысутнасць на “заходнім рубяжы” купаламі-цыбулінамі маскоўскага стылю… І мала хто без эмоцый, па-навуковаму можа падыйсці да адраджэння Храма.

Звычайна, у сучаснай еўрапейскай практыцы захавання гісторыка-культурнай спадчыны адбудова рэплікі страчанага архітэктурнага аб’екта не вітаецца. Як правіла, руіны гэтага тыпу спадчыны перажываюць музеяфікацыю, афармляюцца дадаткова нейкімі сучаснымі сродкамі, альбо увогуле месца аддаецца пад нейкі новы “шэдэўр”. Так, напрыклад, у Празе замест знішчанай у апошнюю вайну камяніцы пачатку ХХ ст., што месцілася ў ансамблі падобных мадэрнавых даходных дамоў, узвялі “танцуючы дом”, а месца пражскай ратушы да цяперашняга часу толькі пазначанае тратуарнай пліткай. Але і ў еўрапейскай практыцы дапускаецца адбудова страчаных архітэктурных аб’ектаў, калі іх разбурылі нядаўна, калі ёсць дастаткова інфармацыі для адбудовы, і калі гэтыя аб’екты вельмі важныя для ўтрымання ансамбля, духа горада або гістарычнай памяці народа. Прыклады – Старое места Варшавы, Міхайлаўскі і Успенскія саборы ў Кіеве, Уваскрасенскі і Успенскі храмы ў Віцебску.

Гродзенскі Фарны касцёл (“Фара Вітаўта”) – важная дамінанта горада і зрэз усёй гродзенскай гісторыі. Яго адбудова можа быць эканамічна выгадным праектам для заказчыкаў. І, калі рашэнне пра адбудову храма будзе прынятае, то большасць

з ім бясспрэчна пагодзіцца. Пытанне толькі адно, што адбудоўваць? За сваю шасцісотгадовую гісторыю цэнтральны каталіцкі храм Гродна шмат разоў мяняў сваё аблічча і прызначэнне.

**Вось асноўныя этапы яго трансфармацый:**

XIV – XVI стст. – драўляны касцёл фундацыі Вітаўта (першапачатковы выгляд невядомы, адлюстраваны на панараме горада Цюндта ў 1568 г.);

1587 – 1751 гг. – мураваны рэнэсансны храм фундацыі Стэфана Баторыя (выгляд можна рэканструяваць па выяве Макоўскага 1600 г., абмерных чарцяжах 1803 г., малюнках і фотаздымках сярэдзіны XIX ст.);

1751 – 1782 гг. – рэканструяваны пасля пажару ў стылі барока (добра прамаляваны на абмерных чарцяжах 1803 г. за выключэннем купала);

1807 – 1892 гг. – храм, рэканструяваны ў стылі класіцызму пад праваслаўны Сафійскі сабор (падрабязна адлюстраваны на праектных планах, малюнках і фотаздымках);

1898 – 1920 гг. – рэканструяваны пасля пажару Сафійскі сабор у псеўдарускім стылі (падрабязна адлюстраваны на праектных планах, малюнках і фотаздымках);

1936 – 1961 гг. – рэканструяваны пасля пажару "Гарнізонны" касцёл у псеўдараманскім стылі (падрабязна адлюстраваны на праектных планах і малюнках і фотаздымках).




**Мураваная "Фара Вітаўта" на малюнку Т. Макоўскага (каля 1600 г.).**



**Выгляд "Фары Вітаўта" ў XVII ст. Рэканструкцыя А. Квітніцкай.**



**"Фара Вітаўта" на малюнку канца XVIII ст.**



**"Фара Вітаўта" і Ратуша ў кампазіцыі Рынка. Рэканструкцыя Ю. Кішыка.**




**"Фара Вітаўта" 1803 г.**

Калі прааналізаваць храналагічны спіс, то становіцца відавочным, што ўсе перабудовы Храма пасля 1751 г. – гэта толькі эклектычныя пераробкі рэнэсанснага касцёла, якія былі абмежаваныя памерамі, формамі і прапорцыямі першаснай задумы і не заўсёды ўдала ўпісваліся ў іх. Калі зараз аднаўляць “Фару Вітаўта”, то варта звярнуцца да першакрыніцы – храма канца XVI ст., а не капіраваць пераробкі, да таго ж замешаныя на капіраванні (эклектызме) іншых узораў.

У такім выпадку паўстае пытанне, а ці ведаем мы, як дакладна выглядала “Фара Вітаўта” напрыканцы XVI ст.? Абмерныя чарцяжы касцёла 1803 г. дазваляюць нам убачыць асноўныя прынцыпы архітэктуры храма, але не адказваюць на пытанні, што было зменена ў сярэдзіне XVIII ст. Гравюра Макоўскага 1600 г. паказвае нам пэўныя адрозненні, але гэтая выява досыць схематычная, бо з’яўляецца толькі невялікай часткай панарамы ўсяго горада. Тым не

менш яна дазволіла стварыць даследчыкам праекты рэканструкцыі храма на XVI ст. Сцвярджаецца, напрыклад, што прасценкі паміж контрафорсамі-пілястрамі не былі атынкаваныя, што карніз быў вышэйшы і ў форме ніш-машыкуль (па аналогіі з Сынкавіцкай царквой). Усё гэта грунтуецца на невыразнай штрыхоўцы, якая на гравюры Макоўскага магла паказваць фактуру муроў, матэрыял сценаў, цені ў сонечны дзень і шмат чаго яшчэ.

Давайце самі пройдзем шляхам даследчыка і паспрабуем аднавіць першасны выгляд касцёла.

Базай для даследавання з'яўляецца дакладны чарцёж 1803 г., які адлюстраваў стан Храма пасля капітальнага рамонту 1751 г. і разбурэнняў 1782 г.

Стрэльчатыя вокны? – Так.

Контрфорсы-пілястры з капітэлямі і лучковымі аркамі злучаныя? – Так, бо таксама прамаляваныя ў Макоўскага і з'яўляюцца базай канструкцыі, якую немэтазгодна і цяжка было б змяняць пры барочных пертрубацыях 1751 г.

А вось тэзіс, што "сцены цалкам маглі былі быць атынкаваныя толькі ў сярэдзіне XVIII ст.", не даказаны. Наогул, паўстае пытанне, ці быў уласцівы кантраст неатынкаваных муроў для стылю італьянскіх дойлідаў, якія будавалі Фару? Думаю, абапірацца на аналогіі з Мірскім замкам і цэрквамі-крэпасцямі не зусім правільна.

Маё глыбокае перакананне – прасценкі паміж контрфорсамі былі атынкаваны і пакрыты рустам, падобным на той, што затынкавалі ў часы барока на званіцы Бернардынскага касцёла (равесніка Фары), падобным, і на той, што так часта сустракаецца на рэнесансных прыкладах творчасці італьянцаў па ўсёй Еўропе. Менавіта той руст, які праглядаецца на фота задняй сценкі асноўнага аб'ёма Сафійскага сабора ўзору 1898 г. (сумняваюся, што будаўнікі змаглі зрабіць такі глыбокі руст толькі тынкам, хутчэй за ўсё, яны падкрэслілі руст старажытнай кладкі на самым шырокім прасценку, там дзе няма вакна).

Капітэль пілястраў-контрфорсаў. На першы погляд пытанняў тут не існуе. Звыклая прафіляваная капітэль, якая адлюстраваная на выяве 1803 г., спецыяльна адзначаная Макоўскім у 1600 г. Усё б было б добра, калі б не два моманты:

1) На малюнку А. Патоцкай-Тышкевіч канца XVIII ст. капітэлі выглядаюць больш па-рэнэсанснаму, хоць і розныя на кожнай з пілястраў,



**"Фара Вітаўта" ў пачатку XVII ст. Рэканструкцыя Ігара Лапехі.**

2) Збераглося фота 1920-х гг., дзе бачны капітэлі ўнутраных пілястраў Храма (херувімы, серафімы, раслінны арнамент), на абмерах 1803 г. гэтыя ж капітэлі простыя, як і знешнія…

На фота згарэўшага храма 1892 г. добра праглядаюцца капітэлі, якія хутка будуць дэмантаваныя пры рамонце. Яны цямнейшыя, чым суседні тынк мuroў. Такімі ж цёмнымі яны адзначаны і ў Макоўскага, і на чарцяжы 1803 г. Мажліва гэта пыл і копаць, а таксама асаблівасць чорна-белай графікі, а мажліва – цэльныя вапняковыя блокі зарубленыя на капітэлі і пацямнелыя ад часу. Я больш схіляюся да другога варыянта.

Здаецца, з тым, што ніжэй за лучковыя аркі, мы разабраліся (руст у прасценках, вапняковыя прафіляваныя капітэлі пілястраў-контрфорсаў). Гэта не было складана зрабіць, бо захавалася дастаткова інфармацыі. Значна цяжэй вызначыць, як Храм выглядаў вышэй за аркавыя пралёты.

Канструкцыя фрыза. Алена Квітніцкая і большасць іншых даследчыкаў пры рэканструкцыі Храма на канец XVI ст. пускаюць па перыметру ўсяго будынка замест паддашнага прафіляванага

карніза аркатуру з гіркамі-кансолямі (аналаг можна убачыць на апошнім захаваўшымся поясе званіцы ў абмерах 1803 г.). Пры гэтым даследчыкі абсалютна ігнаруюць на чарцяжы 1803 г. магутны прафіляваны карніз, які непасрэдна праходзіць над лучковымі аркамі. Лічыцца, што гэты карніз сфарміравалі пры рамонце 1751 г., панізіўшы сцены і разабраўшы контрфорсы па кутах вежы-званіцы. Гэтае меркаванне базуецца выключна на суб'ектыўным аналізе невыразнай выявы Макоўскага.

Такі варыянт не можа быць прыняты, бо не ўласцівы для архітэктуры Рэнэсансу, не прапарцыянальны і не прыгожы. Ніжні прафіляваны карніз над лучковымі аркамі існаваў у першапачатковай задуме і быў ніжняй граніцай шырокага фрыза. Калі прымаць варыянт з аркатурай, то ён быў падобны на такія беларускія прыклады, як паясы на кальвінісцкіх зборах у Смаргоні і Заслаўі.

Ці існавала аркатура як паддашны карніз Фары Вітаўта? На карысць існавання гэтага дэкарацыйнага элемента сведчыць своеасаблівая штрыхоўка, якая падзяляе дах і муры на панараме Макоўскага, а таксама заросшы травой вадасцёк і рэшткі арак на лірычнай гравюры Патоцкай-Тышкевіч. Але самым важкім аргументам з'яўляецца прыгажосць сугучнасці паддашнага карніза з аркатурай верхняга пояса званіцы. Супраць аркатурнай арганізацыі фрыза сведчыць таксама яе нетыповасць для гродзенскай школы рэнэсанснай архітэктуры. Хутчэй за ўсё фрыз Фары Вітаўта быў арганізаваны так, як паддашны пояс Брыгіцкага касцёла, а менавіта – прафіляваны карніз, чорна-белае сграфіта, прафіляваны карніз. Але ніякіх доказаў гэтай версіі не існуе, толькі аналогіі).

Канструкцыя даху. Дах быў высокі двухскатны прапарцыянальны таму, што занатаваў Макоўскі. Пакрыты дахоўкай, рэшткі якой знайшлі археолагі. На тарцах дах не навісаў над сценамі і прыкрываўся фігурнымі шчытамі. У існаванне шчытоў мяне пераканала арганізацыя вуглоў асноўнага аб'ёма Храма. Яны, дзякуючы контрфорсам і аркам, маюць шматгранную канструкцыю. Адсутнасць шчыта прывяла б да прыступак на краю даха. ("Рваны" дах – гэта не прыгожа і не ўласціва аналагам).

Якой формы былі шчыты можна судзіць толькі па аналагам (напр., Бернардынскі касцёл) і рэштках шчытоў алтарнай часткі, якія праглядаюцца на фотаздымку да 1892 г. Аднавіць іх можна з вялікай доляй верагоднасці, бо ад шчыта нам патрэбны толькі крылы. Цэнтральныя часткі закрытыя вежай альбо схілам даха апсіды.

Дах над апсідай таксама просты двухскатны. Шматграннасць муроў не павінна была паўтарацца ў канструкцыі даха (“рваны” край схілу хавае шчыт атык).

Вежа-званіца. Гэта асноўная дамінанта Храма, добра прамаляваная Патоцкай-Тышкевіч, занатаваная Макоўскім, зафіксаваная на чарцяжах 1803 г. Ніжнія ярусы паўтараюць дэкарацыйную аздобу асноўнага аб’ёма: рытм пілястраў і фрызавы пояс (сграфіта альбо аркатура). Контрфорсаў няма. Аб’ём вежы змяншаецца пасля фрызавага пояса з кожным ярусам. Форма і колькасць вокнаў досыць стойкая катэгорыя (новыя вокны не рабілі), таму іх можна вывучаць не толькі па аднабокім рысунку 1803 г., але таксама па пазнейшых фотаздымках (нават па перабудове 1935 г.).

Куты верхніх ярусаў на выяве 1803 г. аздоблены пілястрамі, і хутчэй за ўсё гэтак і было ў XVI ст., але сумненні засталіся дзякуючы малюнку Патоцкай-Тышкевіч. Яна на вежы прамалявала над вокнамі і па кутах ці то руст, ці то шчыліны на тынку. Верхні ярус і купал фігуруе толькі ў Макоўскага. Застаецца прыняць на веру яго напрацоўкі.

Вежа з лесвіцай параднага фасада. Вежа першапачаткова была цалкам квадратная і накрытая адным схілам даха, паралельна схілу асноўнага аб’ёма. Яна не мела пілястраў і прапускала праз сябе фрызавы пояс. Доказам такой формы вежы з’яўляюцца і абмеры 1803 г. і гравюра Патоцкай-Тышкевіч (а круглая надбудова 1935 г. была толькі псеўда-раманская фантазіяй рэканструктараў).

Вежа з лесвіцай на паўночным фасадзе. Вежа падобная на вышэй апісаную праглядаецца на папярэчным разрэзе 1803 г. да паддашнага карніза, апроч страчаных верхніх ярусаў, якія хутчэй за ўсё завяршаліся невялікім купалам, сугучным з асноўным купалам. На выяве Макоўскага над дахам прыхадскога касцёла праглядаецца невялікі купал, лічыцца, што гэта вежачка на даху Фары, але Макоўскім яна яўна намалявана за аб’ектам а не на ім, да таго ж канструкцыя даха ніяк не паказвала наяўнасць купалка (хаця лёгкі драўляны купал мог быць). Хутчэй за ўсё гэта завяршэнне паўночнай вежы, якое праглядаецца з-за даха з паўднёвай кропкі, альбо купал Троіцкага касцёла, перспектыву на які ў 1600 г. для Макоўскага засланяла “Фара Вітаўта”.

Варта яшчэ раз задумацца над знешнім выглядам Храма...

**Ігар Лапеха (Гродна)**

# Старая гродзенская ратуша (XVI – XVII стст.): да праблемы рэканструкцыі знешняга выгляду

Першапачаткова аўтар гэтага артыкула меў намер рэканструяваць знешні выгляд старой гродзенскай Ратушы. Гэты аб'ект не існуе з 1655 г. Ён не даследаваўся археолагамі і не пакінуў пасля сябе ні інвентароў, ні праектных чарцяжоў. Засталіся толькі лічаныя панарамныя выявы і сляды на пазнейшых планах і картах горада. Аднак, чым больш паглыбляўся аўтар ў тэму, тым менш заставалася амбіцый. Адпаведна, атрымаўся артыкул не столькі пра канкрэтную рэканструкцыю Старой ратушы Гродна, колькі пра метады даследавання гэтага пытання. Але пры гэтым усё ж хачу прапанаваць уласны варыянт таго, як выглядала гродзенская Ратуша ў першай палове XVII ст.

## Месцазнаходжанне Ратушы

*На падставе аналізу гравюраў Ёгана Адэльгаўзера і Маціяса Цюндта (1568), Тамаша Макоўскага (1600) як тапаграфічных сістэм, а таксама аналізу схем горада сярэдзіны XVIII – пачатку XIX ст.*

Склалася так, што аўтар артыкула непасрэдна займаўся вывучэннем гравюраў Т.Макоўскага і Ё.Адэльгаўзера – М.Цюндта як крыніцаў навуковай інфармацыі. У артыкуле "Лакалізацыя архітэктурных дамінант…"[1] аўтар зрабіў дапушчэнне (базавую аксіёму), што мастакі на гравюрах намалявалі дамінанты з фатаграфічнай дакладнасцю іх размяшчэння ў прасторы, але гэтая дакладнасць мела пэўны "люфт", што прывяло да разбежкі ў месцазнаходжанні аб'ектаў.

У гэтай працы месцазнаходжанне Ратушы лакалізуецца на ўсход ад новых гандлёвых радоў, якія існавалі ў 1809 – 1946 гг. Яе паўночна-ўсходні кут знаходзіцца прыкладна ў 15 – 20 метрах на захад ад паўночна-заходняга кута будынка, які прынята называць "Баторыеўкай". Але іншыя крыніцы ўказваюць, што Ратуша знаходзілася на 20 – 25 метраў на захад і заходзіла на комплекс новых гандлёвых радоў (гэта не супярэчыць прыдатнасці гравюры Т.Макоўскага). У артыкуле "Лакалізацыя архітэктурных

дамінант…” не былі ўлічаныя ўсе акалічнасці, пра што яшчэ будзе гаворка.

Пісьмовыя крыніцы тычацца больш позняга часу і сцвярджаюць, што руіны Старой ратушы да сярэдзіны XVIII ст. былі аблеплены крамкамі. Графічныя крыніцы таксама пазнейшыя. Асабліва цікава выглядае схема з г.зв. “Дрэздэнскага архіва”, дзе паказаныя схілы дахаў на будынках, што дазваляе ўбачыць руіны, не пакрытыя дахам (акурат паўднёва-ўсходні кут гандлёвых радоў). На ўсіх больш-менш дакладных схемах Гродна пачатку XIX ст. можна бачыць выступ, які “выпірае” за простакутнік новых гандлёвых радоў з паўднёва-ўсходняга боку.




**Мал. 1. Ратуша на малюнку Т. Макоўскага**



**Мал. 2. Ратуша на дрэздэнскім плане 1753 г. Бачны не пакрыты дахам пусты аб'ём.**



**Мал. 3, 4. Магчымы выгляд Ратушы ў 1600-1655 гг.**

**Памеры Ратушы**

На падставе

1. *Параўнання памераў Ратушы на гравюры Т.Макоўскага з вядомымі нам памерамі іншых архітэктурных дамінантаў (Фара Вітаўта, Бернардынскі касцёл, Стары замак),*
2. *Вымярэння па сектару кола агляду, якое прыпадае на Ратушу, у гравюры Т.Макоўскага,*
3. *Вымярэнне той часткі гандлёвых радоў на схемах горада XIX ст., якія, як мы лічым, узведзены на парэштках Ратушы,*
4. *Параўнанне з аналагамі і памерамі функцыянальнага здаровага сэнсу.*

Спосаб нумар адзін. Да гэтага спосабу прыдатная толькі гравюра Т.Макоўскага (на малюнку Ё.Адэльгаўзера яшчэ не існуе дамінантаў з дакладна вядомымі нам памерамі). Ад кропкі агляду Т.Макоўскага, якая знаходзілася ў адлегласці 15 м на ўсход ад краю верхняга плато над помнікам палітруку Гарнавых, што каля Старога мосту[2]) праводзіцца акружнасць з радыусам: кропка агляду Т.Макоўскага – паўднёва-ўсходні кут новых гандлёвых радоў.

На гэтай акружнасці вектарамі, працягнутымі ад кропкі агляду да крайніх кропак дамінантаў з дакладнымі памерамі, адсякаюцца сегменты, якія паказваюць, якіх памераў былі б гэтыя дамінанты, калі б знаходзіліся на роўнай адлегласці ад кропкі агляду (памеры праекцый дамінантаў на перпендыкуляр вектару агляду). У гэтым выпадку, напрыклад, Бернардынскі касцёл стаяў бы на месцы дома па вул. Сацыялістычнай № 45 і замест даўжыні ў 54 м меў бы 86 м, а “Фара Вітаўта” стаяла б на месцы Палаца тэкстыльшчыкаў і мела не 56, а 48 м даўжыні.

Далей параўнаем памеры Бернардынскага касцёла з памерамі Ратушы на малюнку Макоўскага, затым атрыманы каэфіцыент выкарыстаем адносна праекцыі Бернардынскага касцёла на вул. Сацыялістычнай № 45 і атрымаем памеры доўгага фасада Ратушы. Але гэты метад мае недахопы. Усё ж такі будынкі аднолькавых памераў на малюнку Т.Макоўскага выглядаюць непрапарцыянальна. Бернардынскі касцёл, які знаходзіцца бліжэй, і па ўсіх законах оптыкі павінен на малюнку выглядаць большым, чым Фарны касцёл, на самой справе выглядае меншым за яго.

Другі спосаб, сапраўды, дасць дакладныя памеры Старой ратушы. Т.Макоўскі маляваў з краю верхняга плато левага берага Нёмана,

і ўсё, што месціцца на малюнку паміж апсідамі Каложскай царквы і Бернардынскага касцёла, знаходзіцца на сваіх месцах. Праводзячы вектары ад кропкі агляду Т.Макоўскага да крайніх кропак будынкаў на дакладным плане горада, параўноўваючы памеры адрэзкаў на малюнку Т.Макоўскага з перпендыкулярнымі вектару агляду адсечкамі на адвольнай акружнасці, якая пранізана вектарамі і намаляваная з кропкі агляду, атрымліваем, што Бернардынскі касцёл ды большасць іншых аб'ектаў на малюнку Т.Макоўскага не выклікаюць пытанняў адносна іх прапарцыянальнасці.

Выключэнне складаюць толькі палац Старога замка і "Фара Вітаўта". Памеры апошняй на гравюры болей чым у два разы перавышаюць рэальныя. Карэкцыя вылічэнняў, зробленая ў згаданым артыкуле "Лакалізацыя архітэктурных дамінант…", сведчыць пра месцазнаходжанне Старой ратушы на захад ад "Баторыеўкі" не на 15 – 20 м, а на 30 – 35 м. Вектарны метад вызначэння памераў дазваляе сцвярджаць, што доўгі фасад Ратушы складае 54 м, у Бернардынскага касцёла – 48 м.

Калі параўнаць выявы Ратушы на малюнках Адэльгаўзера і Макоўскага, то здзіўляе дакладнае супадзенне прапорцый будынка, а канкрэтней, прапорцый паміж памерамі вежы і памерамі асноўнага будынка. Памеры вежы можна вызначыць з дапамогай механізму ратушнага гадзінніка. Зараз гадзіннік знаходзіцца на вежы Паезуіцкага касцёла. Даўжыня бакавіны яе квадрата – 8 м. Месца для абслугоўвання гадзінніка ўнутры вежы досыць мала, але для яго абслугі дастаткова было прасторы 7 х 7 м. Зразумела, што вежа магла быць і значна большай.

Давайце прааналізуем гродзенскія аналагі ратушнай вежы. Званіца Брыгіцкага касцёла – 8 м, Бернардынскага мужчынскага – 8 м, Бернардынскага жаночага – 6 м, "Фары Вітаўта" – 8 м, Базыліанскага – дзве вежы па 6 м. Такім чынам, можна сцвярджаць, што бакавіна квадрата ратушнай вежы мела 8 м. У такім выпадку прапорцыі паміж вежай і даўжынёю другога паверха Ратушы ў Адэльгаўзера і Макоўскага аднолькавыя – 8/35 м.

Вока ў Т.Макоўскага было, бясспрэчна, дакладным. Аднак, хацелася б убачыць дакладныя тапаграфічныя вымярэнні, зафіксаваныя на картах-схемах Гродна. На жаль, картаў з перыяду існавання Старой ратушы папросту няма, а больш-менш дакладныя схемы паходзяць з больш позніх перыядаў. На іх можна ўбачыць гіпатэтычныя сляды Ратушы і па іх паспрабаваць вызначыць дакладныя памеры аб'екта.

Але гэта можна зрабіць толькі пасля высвятлення планіровачных асаблівасцяў аб’екта.

## Планіроўка комплексу Ратушы

*Параўнанне выяваў абедзвюх гравюраў, аналіз пісьмовых крыніцаў, аналіз функцыянальнай прыдатнасці.*

Юрый Кішык у кнізе “Градостроительная культура Гродно (Минск: Белорусская наука, 2007) размясціў панарамную рэканструкцыю Рынкавай плошчы на 1600 г. (с. 103). Пры гэтым Ратуша на ёй атрымала галоўныя доўгія фасады з заходняга і ўсходняга бакоў будынку, а вежа далучана з усходняга боку. Гэта не адпавядае рэчаіснасці, бо на гравюрах Т.Макоўскага і Ё.Адэльгаўзера Ратуша мае доўгія паўночны і паўднёвы фасады, а вежа знаходзіцца з паўночнага боку. У зман Юрыя Кішыка ўвяла схема горада 1753 г. з г.зв. “Дрэздэнскага архіва”. На гэтай схеме відаць руіны Ратушы, дзе найбольш доўгая ацалелая сцяна працягнулася з поўначы на поўдзень, а з усходу да яе прылеплены квадрат падобны на вежу.



**Мал. 5. Схема Ратушы з Дрэздэнскага архіва (зялёная) з нанесенымі жоўтым фонам і сінімі абрысамі комплексу новых гандлёвых радоў, чырвоным – абрысаў Старой ратушы, гадзіннікавай вежы, і старых гандлёвых радоў.**

Як жа ва ўсім гэтым разабрацца? Давайце накладзем выяву комплексу крамаў і руін Ратушы з схемы 1753 г. на самую падрабязную карту Гродна, дзе яшчэ фігуруюць гандлёвыя рады, а менавіта на карту 1932 г. Для аналізу ў гэтае спалучэнне абавязкова трэба дадаць больш-менш дакладную схему з пачатку XIX ст., бо ў той час канфігурацыя новых гандлёвых радоў моцна адрознівалася ад сітуацыі пачатку XX ст.

Жоўтым зафарбавана плошча гандлёвых радоў на карце 1932 г., сінім контурам пазначаны комплекс на схеме 1831 г., зялёным – усе рысы на адлюстраванні комплекса 1753 г.



**Мал. 6. Сучасная схема Савецкай плошчы, на якую нанесены сінім колерам абрысы новых гандлёвых радоў, Палаца Радзівілаў, Баторыеўкі, Фары Вітаўта; чырвоным – абрысы Старой Ратушы, Вежы і старых гандлёвых радоў.**

Калі параўноўваць абрысы з 1831 і 1932 гг., то можна заўважыць, што яны шмат дзе не супадаюць. На малюнку Напалеона Орды 1867 г. бачны двухпавярховы будынак у характэрнай для Гродна канца XVIII ст. пераходнай барочна-класічнай архітэктуры: розныя памеры вокнаў розных паверхаў, руст на першым паверсе, сіметрычна па цэнтру будынка парадны порцік на шасці калонах.

Менавіта гэты будынак (паўночная частка комплексу) можна назваць Новай ратушай, пабудаванай у 1784 г. Менавіта яна, паменшаная на адзін паверх, увайшла ў комплекс новых гандлёвых радоў. Заходняя, усходняя і паўднёвая часткі комплексу былі моцна перабудаваныя (на спалучэнні муры ў гэтых частках не супадаюць) і стылізаваны пад парадныя фасады Новай ратушы. Такі ж парадны порцік, але ужо ў традыцыях рускай эклектыкі канца XIX ст. з’явіўся ў выніку перабудовы Ратушы пасля пажару 1885 г.

А вось прааналізаваць зялёныя рысы на спалучэнні нашмат складаней, бо не хапае ведання гісторыі. Вядомыя пісьмовыя крыніцы прааналізаваў гісторык Юрый Гардзееў у сваёй вядомай кнізе “Магдэбургская Гародня” (Гародня-Вроцлав, 2008). Калі ператварыць напрацоўкі Ю. Гардзеева ў храналагічны спіс, то атрымаецца, што гродзенская Ратуша была пабудаваная паміж 1496 і 1526 гг. Пасля 1541 г. на Ратушы з’явіўся гадзіннік. Для яго размяшчэння верагодна адбылася перабудова, і менавіта таму Ратуша на малюнку Адэльгаўзера (1567) адрозніваецца ад Ратушы на гравюры Т.Макоўскага (1600).

У 1560 г. ужо згадваюцца гандлёвыя рады. У 1655 г. маскоўскімі войскамі быў разбураны ўвесь горад і моцна пашкоджаная Ратуша. Яе спрабавалі рамантаваць, але справа зрушылася толькі ў 40-я гг. XVIII ст. У 1751 г. былі пабудаваны гандлёвыя рады (на 38 крамаў) і гаўптвахта. І толькі ў 1784 г. дайшла чарга да Новай ратушы.

Адзінае ў чым аўтар не згодны з Ю.Гардзеевым, гэта ягонае сцвярджэнне, што перад пабудовай Новай ратушы тэрыторыя ачышчалася ад старых пабудоваў. Гісторык пры гэтым спасылаецца на схему горада 1780 г., дзе тэрыторыя Рынка выглядае пустой. Але справа ў тым, што гэта карта зямельных надзелаў, а не пабудоваў, і тыя рэдкія дамінанты, якія там можна ўбачыць падаюцца толькі для арыентацыі.

Але вернемся да зялёных рысак на ілюстрацыі 5. Аўтар перакананы, што заходняя частка комплексу і палова паўночнага

бока, паказаныя на схеме 1753 г., гэта гандлёвыя рады, пабудаваныя ў 1751 г. Іх муры супадаюць з мурамі на пазнейшых схемах, бо яны доўгі час не патрабавалі перабудовы. Канструкцыя схілаў даха роўная. Яна не выглядае, як прыбудова да руіны. Дарэчы, на пазнейшых фотаздымках у гэтай частцы комплексу месціліся 32 гандлёвыя крамы.

Сінімі рысамі на сумяшчэнні паказаны вынік працаў 1784 г., а жоўтымі – пасляпажаравая рэканструкцыя канца XIX ст.

А дзе ж сляды пабудоваў XVI ст.? На схеме 1753 г. мы ясна бачым квадрат 8 х 8 м, які, верагодна, можа з’яўляцца вежай. На захад ад яе – простакутнік 21 х 28 м (калі верыць Адэльгаўзеру і Макоўскаму), а “апендыкс” на схеме 1831 г. з’яўляецца пабудовай на падмурках Старой ратушы. Такім чынам, у нас выбудоўваюцца абрысы Старой ратушы ў мяркуемым месцы памерамі 28 х 49 м.

Вежа знаходзіцца у глыбіні гэтага простакутніка, што відаць на гравюры Т.Макоўскага. Апроч таго ў традыцыях пабудовы Ратушы вежа, звычайна, паглыблялася ў будынак. На гравюры Ё.Адэльгаўзера бачна, што другі паверх меншы па сваіх памерах і складаецца з двух розных па шырыні частак, а над першым паверхам зроблена кальцавая тэраса.

Аўтар лічыць, што паводле плану Старая гродзенская ратуша была вельмі блізкая да кракаўскіх Сукенніц. На ілюстрацыі 5 чырвонымі рысамі паказана аўтарскі варыянт планіроўкі Ратушы і гандлёвых радоў на пачатку XVII ст. Гэта канструкцыя складалася з модуляў – квадратаў 7 х 7 м, а дакладней, памяшкання 6 х 6 м і метровай таўшчыні муроў. А калі падобны модуль выходзіў на паверхню ўжо як вежа, то ён меў памеры 8 х 8 м.

Пачынаць заўсёды трэба з падмуркаў. Стандарт 7 х 7 м быў узяты ў кракаўскіх Сукенніц. Перакананы, што майстры павінны былі валодаць універсальнымі стандартамі канструкцый і скляпеністых перакрыццяў.

## Дэкараванне Ратушы

*Параўнаўчы аналіз адлюстраванняў на абедзвюх гравюрах, параўнанне з тагачаснымі аналагамі.*

Насамрэч, на панарамных выявах Ё.Адэльгаўзера і Т.Макоўскага Ратуша паказаная досыць схематычна. Што можна разгледзець

з яе аздаблення? Толькі пэўную форму купала вежы, а таксама тое, што ў 1600 г. Ратушу завяршаў атык. Асноўнай крыніцай версій аб дэкоры Старой гродзенскай ратушы для аўтара сталі Ратушы ў еўрапейскіх гарадах эпохі Рэнесансу. Гродна ў той перыяд быў заможным сталічным каралеўскім горадам, адпаведна Ратуша будавалася на ўзор вялікіх гарадоў. Найбольш грунтоўна разглядаліся аўтарам кракаўскія Сукенніцы, які, на яго думку, сталі асновай праекта рэканструкцыі Старой гродзенскай ратушы. Таксама былі прааналізаваны Ратушы ў Замосцю, Нясвіжы, Познані, Празе, Вроцлаве, Браціславе, Таліне, Гданьску, Камянцы-Падольскім, Аламоўцы, Сандаміры.

У выніку паўстаў эскізны праект рэканструкцыі Старой гродзенскай ратушы. Больш дакладным его могуць зрабіць толькі нечаканыя архіўныя адкрыцці альбо археалагічныя раскопкі, якія дапамогуць удакладніць памеры, планіровачныя і канструкцыйныя рашэнні, а таксама дадуць важныя артэфакты дэкарацыйных дэталяў, кафлі ды інш.

Комплекс Старой ратушы і гандлёвых радоў займаў месца новых гандлёвых радоў, якія дакладна лакалізуюцца. Комплекс старых гандлёвых радоў дакладна кладзецца на заходнюю частку новых, пачынаючы ад скразнога заезду ва ўнутраны двор. Паўночныя і заходнія сцены старых і новых радоў дакладна супадаюць, іншыя розняцца па прычыне рознай шырыні новых гандлёвых радоў. Шырыня ж старых аднолькавая – 8 м. Старая ратуша – гэта простакутнік 50 х 29 м, які займаў усю паўднёва-ўсходнюю частку новых гандлёвых радоў, і выступаў за іх перыметр на поўдзень на 4 м, на ўсход на 16 м.

Пра гэта сведчыць аналіз вектараў кола агляду на гравюры Т.Макоўскага, аналіз схемаў горада 1753 і 1831 гг., традыцыі пабудовы рынкавых плошчаў і стандарт модуляў скляпеністых перакрыццяў. Пісьмовыя крыніцы, прааналізаваныя Ю.Гардзеевым, пацвярджаюць, што канструкцыя комплексу базавалася на падвалах з стандартнымі крыжовымі скляпеннямі памерамі 6 х 6 м і з таўшчынёй муроў каля 1 м. Падобныя форма і памеры скляпенняў часта сустракаюцца ў аналагах і з’яўляюцца матэматычна кратнымі памерам нашага комплексу.

Першы паверх комплексу складаўся з гандлёвых крамаў і мытных складоў у будынку ратушы. Пра гэта сведчаць пісьмовыя крыніцы, а такса аналагі, у прыватнасці, тыя ж Сукенніцы. Склады былі вышэйшыя за крамы на 3 м, што было абумоўлена патрэбай

арганізацыі схілу над крамамі першага паверха і таксама адпавядала кракаўскаму аналагу. Склады дзяліліся вежай і капітальным мурам, які фігуруе на схеме 1753 г., на дзве камеры з уваходам з усходняга боку комплексу і ўнутранага двара гандлёвых радоў.

Асвятляліся склады праз уваходныя брамы. Існаванне сістэмы паддашных вокнаў малаверагодна, бо яна не адпавядае тагачаснай традыцыі, і яе існаванне “нагружала” б архітэктуру непатрэбнымі элементамі. Крамы мелі памяшканне з крыжовымі скляпеннямі памерамі 6 х 6 м і вышынёй да верхняй кропкі столі 7 м. Калі ж дадаць яшчэ таўшчыню скляпенняў, то вонкавая вышыня муроў першага паверха дасягала 9 м. Асвятлялася памяшканне праз уваходныя паўцыркульныя двухстворкавыя вароты шырынёй 4 м і вышынёй 6 м. Звонку муры былі пакрытыя гарызантальным рустам.

Доказам памераў і тыпаў крамаў з’яўляюцца аналагі, у т.л. і кракаўскі, а таксама памеры і тыпы новых гандлёвых радоў. Новыя крамы, калі ўлічваць другі паверх Новай ратушы, па вышыні роўныя са старымі, а па шырыні роўна ў два разы меншыя за старыя, што дазваляла захоўваць некранутымі старыя папярэчныя сценкі. Меншыя памеры былі абумоўленыя новымі метадамі дастаўкі тавараў, што пазбаўляла крамы функцыі оптавага склада. Руст на новых гандлёвых радах быў рудыментам старых.

Другі паверх над мытнымі складамі – гэта парадная частка Ратушы, дзе засядаў магістрат. Вышыня муроў складала 8 м. Яны каларыстычна і фактурна неатынкаванай цаглянай паверхняй кантраставалі з першым атынкаваным паверхам і белаватым дэкорам. Але кантраст не вельмі атрымаўся, бо гродзенская цэгла мела жоўты колер.

Паверх быў падзелены вокнамі роўным рытмам: паўднёвы фасад – пяць вокнаў, усходні – два вакны, паўночны – чатыры (месца пятага займала вежа). Заходні фасад быў забудаваны дапаможнымі памяшканнямі. Вокны былі паўцыркульныя памерамі 2,5 на 3,5 м (*так яны намаляваны ў Ё.Адэльгаўзера)* і прапарцыянальныя ўваходу ў крамы.

Кавалкі міжваконных прасценкаў, якія прыпадаюць на нясучыя фрагменты, былі ўзмоцненыя атынкаванымі і пабеленымі пілястрамі- контрфорсамі. Парадны паверх меў дзве квадратныя залі памерамі 13 х 13 м і сені (6 х 6 м) з вышынёй прасторы ў 7 м.

Заходняя зала хутчэй за ўсё была самай вялікай залай Ратушы, бо да яе прымыкалі службовыя памяшканні, дзе. Усходняя зала хутчэй за ўсё была падзеленая на 3 – 4 памяшканні для пастаянных органаў магістрата. З усходняга крыла ў залю пасяджэнняў можна было патрапіць не толькі праз сені, але па праходу праз вежу.

Столь другога паверха была плоская драўляная крыжова-бэлечная (рацыянальны сэнс, традыцыі тагачаснай архітэктуры, шматлікія аналагі).

Над усходняй часткай карэ гандлёвых радоў быў таксама арганізаваны другі паверх для анфіладных дапаможных памяшканняў, дзе працавалі органы самакіравання. Пра гэта сведчаць асаблівасці канструкцый адлюстраваных на схеме 1753 г. Другі паверх гэтай часткі комплексу быў арганізаваны больш сціпла. Сам паверх знаходзіўся ніжэй за парадную частку на 3 м, вышыня столі была ніжэйшая (не больш 5 м), а канструкцыя ужо бэлечная лінейная. Апроч таго, дах быў пакрыты больш танным пакрыццём – дахоўкай, без атыка, што патрабавала больш стромкага схілу ў 45⁰ .

Дах над Ратушай і цэнтральнымі гандлёвымі радамі быў пахілены на 30⁰, таму што павінен быў схавацца за атыкам (ён фігуруе ў Макоўскага) і не закрываць вокны Ратушы. Такі нестромкі схіл мог быць пакрыты толькі бляхай, у той час меднай. Атык аздабляў дах толькі параднай часткі комплексу (маем кракаўскі аналаг). Балюстрада “абараняла” праход па краю даха над цэнтральнымі гандлёвымі радамі (адлюстравана ў Адэльгаўзера).

Вежа дамінанта комлексу Ратушы знаходзілася з паўночнага боку і ў глыбіні перыметра (гэта добра відаць на гравюры Т.Макоўскага, дзе таксама можна ўбачыць “апаясванне” вежы канструкцыяй даха). Шырыня вежы ў 8 м абумоўленая канструкцыйнымі стандартамі і шматлікімі аналагамі. Вежа выконвала перш за ўсё камунікацыйныя функцыі. Праз яе праходзіла парадная лесвіца ў хол магістрату, якая вяла з лесвіцы ўваходу ў Ратушу.

Тут таксама былі сходы, якія вялі да мытных складоў, а пад параднай лесвіцай быў уваход у падвалы. З сяней магістрата апаясваючая лесвіца ў вежы вяла до трох скляпеністых пляцовак. Тут месціўся гадзіннік і была аглядная пляцоўка. Падняцца можна было і на купал па драбінах унутры канструкцыі. Хутчэй за ўсё ў комплексе была яшчэ адна лесвіца (чорная), якая вяла на другі

паверх комплексу. Яна расцягнулася па ўсходняму боку гандлёвых радоў. Форма купала вежы ўяўляла сабой пашыраны тагачасны аналаг, які найбольш адпавядаў геаметрычнай "складанцы" на гравюры Ёгана Адэльгаўзера.

Заўвагі

[1] Лапеха І. Лакалізацыя ахітэктурных дамінант Гродна XVI ст. паводле малюнкаў Ганса Адэльгаўзера і Тамаша Макоўскага // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я.Купалы; рэдкал. В. Даніловіч, І.Крэнь, І.Соркіна і інш. – Гродна: ГрДУ, 2009, с. 195-201.
[2] Тамсама. С. 197.

# Успаміны пра стары Гродна

Працягваючы традыцыю, пачатую ў папярэдніх нумарах “Горада Святога Губерта”, друкуем яшчэ некалькі ўспамінаў старажылаў пра той Гродна, якога ўжо сёння няма, пра ягоных жыхароў, вуліцы, крамы, штодзённасць…

Успаміны друкуюцца ў скарочаным і апрацаваным выглядзе на мове суразмоўцы. Скарачэнні (паўторы, памылкі жывой гутаркі і г.д.) пазначаныя шматкроп’ем у квадратных дужках - […]. Сэнсу ўспамінаў яны не змяняюць. Таксама ў квадратных дужках падаюцца словы, якія былі прапушчаныя суразмоўцамі падчас аповеду. Яны дапамагаюць лепш зразумець інтэрв’юэра. Прозвішчы тых, хто ўспамінаў, падаем скарочана.

Успаміны запісаны і падрыхтаваны да друку Таццянай Касатай, Таццянай Казак і Андрэем Вашкевічам.

## М-о Віктар Мікалаевіч (1928 г.н.). Запіс 12 чэрвеня 2007 г.

Паміж тонкасуконным камбінатам і Нёманам была школа першая імені Адама Міцкевіча. Семігодка, повшехна школа. Я ўчыўся па [19]39-ы год. Закончыў 4 класы. Пасля вызваленія так называемага, эта школа осталась польская школа. Это польская школа была. А я перешоў у другую. На Замкавай уліцы была прыватная еврэйская [школа], і я ўжэ ўчыўся там. Нас адсадзілі на адзін клас назад. Не такая моцная. І, значыць, я другі раз пайшоў у чацвёрты клас. Чацвёрты, пяты. І кончыў да вайны 5 клас ужэ этай 13-й школы на Замкавай.

У першым клясе была пані Жывневска. Так, у неё была мода, она брала (калі вялі [сябе] дрэнна) за падбародак і шчыпала. І [вучань] плачэт. Ана берот харошэго ўчэніка, робіць тое ж, але каб не балюча была. «А чаго он не плачэт? Што ты плачэш?» Лінейкай білі. Так, вот пальцы нада была паставіць, па пальцам. Пернічэк, пюро пернічэк, пюро - эта перо, там ручка лежала. Так, вот эта пернічэкам называўся. Ну, і в угал ставілі. А наказвалі ўсіх. Не глядзелі, палякі ці кацап[1].

[1] Кацап – тут тагачасная гутарковая назва праваслаўных беларусаў, якая мела зняважлівае адценне.

В школе нас учылі. Дзяўчынкі і хлопчыкі вышывалі, рабілі закладку для кніжкі, навеску рабілі. Потым рабілі для снедання, з сабой былі буцерброды, ілі што, так эта, торбачку такую, вот. У этай торбачкі ўсе аснаўныя вышывкі і шнурочкам, і крэсцікам, уцінай лапкай там, всё эта. Кожны меў свой вазон, паліваў расліны. Для вазонаў падставачкі такія, значыт, драбінку такую, лесвіцу. Школьная форма была, каждая школа мела свой колер. Трэнчыкі былі, значыт, тут вот, жоўтые ў нас былі, эты круглые такіе таксама, а колышка жоўтае. На этам на перэднем напісана школа і клас, так што была відаць з какой школы.

У школе не кармілі. [Ежу] для снедання насілі [самі]. Ну, чатыры класы, там мала ўрокаў было. Акрамя, у этай торбачкі, павінна была [быць] ешчо кружачка. Кружачкі ўсе амаль аднолькавыя бываюць, а там меднае было калечка такое вот, штоб піць воду.

Да вайны быў у Старым Замку. Што асталася там? Спальня на другім паверсе. Каралеўская спальня была там. Шырокія ложкі два стаялі галавой туды на поўнач. А так мы хадзілі са школай.

Як жылося да вайны? Значыць, мы былі кацапамі. Эта так, як зараз на еврэя [сказаць] жыд. Як жылося? Хто працаваў, быў уладкаваны, той і зарабляў. Ну, прыклад такі. Праваслаўны беларус, добры механік, служыў у войску ў горадзе Лідзе на аэрадроме. І паколькі он быў добры механік, і яго прызывалі ўжэ на трэція зборы, то он там што-то рамантаваў, і ему прапанавалі ў Варшаве на авіяцыйным заводзе працу, кватэру. Але ты павінен быць па веры каталік, мець каталіцкую веру. Адкуль жа ружніца [*розніца*], Бог едэн, понімаеце. Бог едэн, а для таго, каб работаць, то ён павінен быць католікам. Так вот, а ён працаваў на чыгунцы. А чыгунка была дзяржаўная. І на чыгунцы праваслаўным круглы год нельга было працаваць. Оні месяцаў 10 працавалі, а потым на 2 месяцы іх звальнялі. Этат вот добры механік, якую прыватную яўрэйскую майстрэню, да еврэя хадзіў там працаваў эты час. Значыць, у войску павышэнне не мог ён атрымаць, таму што ён праваслаўны быў. На чыгунцы механікам ён працаваў, поўны год не мог працаваць.

Так вот палякі прыдумалі перэд самай вайной, калі снеслі Аляксандра Неўскага царкву на плошчадзі Тызенгаўза, стоважышэнне, арганізваць стоважышэнне полякоў провославнэго вызнання [*Таварыства палякаў праваслаўнага веравызнання*]. Я быў на этам прашчальным этым міцінгу таком рэлігійным на плошчы. А потым крэсны ход з іконамі шоў туды, дзе стадзіон на вуліцы Захарава. Вот там

звезлі эту саму цэглу. І там, значыць, там павінна быць эта царква. І я быў, асабіста ж бачыў эты крэсны ход. Калі ішлі мы па дарозе, дарослыя размаўлялі между сабой, што будзе тут ужо царква эта, і тут будуць пропаведзь, казанні, казаць ужо на польскай мове.

Мы жылі бліжэй да піўзавода. Там быў еврэйскі квартал такой, называўся Сёвке гесал, Сёвкава ўліца ілі улічка. Цэлы квартал. Всё сваё ў ніх было. Как сваё? Все обычаі. Яўрэі не біліся паміж сабой. А ругаліся, асабліва жанчыны: “Што бы ты здох в сегодняшнюю ноч. Похараны на цябе. Штоб паламаў рукі, ногі”. І мы там дзеці вывучылі на еврэйскай мове. І калі трэба было, каб бацькі не зразумелі, то паміж сабой, у мяне брат быў малодшы, размаўлялі так. Ігралі ў шабэлкаміш – эта пряткі, хатэй – эта давалкі. Ну, мэйсел – футбол. Два огні па-польскі, там была такая ігра.



**Гродзенскі Падол у пачатку ХХ ст.**

Парадкі чым адрозніваліся? Ну, […] напрыклад, сколька там была дамов? Чалавек сто, можа быць, жылі в этам квартале. Яўрэі жылі на Віленскай. Вот этат наш раён, дзе мы жылі, Сёвке гесал. А дзе эты Рыбны рынак быў на Алега Кашевога...[2] Там стаянка аўтобусная.

[2] Цяпер вуліца Вялікая Траецкая.

Рыбны рынак, яткі называўся, яткі. Яткі. Ну, ешчо Юріздзіка, эта раён. За Неманом таксама ані жылі. Дарэчы, вот як праезжаць праз мост налева там дамы высокія такія, там была самая вялікія ў Еўропе драўляная сінагога.

І я бачыў таксама ў першы дзень вайны як згарэў, дзе тэатр наш, там калісьці быў мужскі манастыр до вайны. А, так вот бачыў як этат крыж гарэў ужэ вот так падал, днём 22 [чэрвеня][3]. Немцы ўжэ ў 2 гадзіны дня ўжэ былі на ўліцы Пагранічнікаў Савецкіх. Прыкладна там, дзе зараз паставілі помнік этым пагранічнікам. І мы бачылі, як яны на веласіпедах, на матацыклах з уліцы Каліноўскага, дзе еврэйскіе могілкі… Мы пайшлі да дзедушкі хавацца.

Тут быў бедны раён, разумееце. Я вам ужэ так па памяці скажу, значыць, два кучера, у дваіх было коней. Две лавочкі былі. Фатограф. Эта адна была Элія. Она смажыла эці картофельные аладзы, прадавала. Быў магель свой. Магель быў гэтага раёна. Драўляны домік двухпавярховы, і там быў механічны магель. Знаеце, што такое магель? Прасаваць белізну. А памятаеце былі такія з ручкамі зубчатыя? А это быў механічны большы такой. Ані ўжэ пасля сціркі бялізны прынасілі туды і там лажылі. І магель. Вот магель быў яшчэ там знаменіты в этам раёне. А так бедные, працавалі.

Дарэчы, у Сёвке гесал у іх таксама сінагога была. І я был в этай сінагозе. Каменная і двухпавярховая. Жанчыны былі на балконе. Ана як піўзавод ідці па этай вуліцы, вот, Кармеліцкая раней называлася ўліца. Кармеліцкая, і касцёл быў кармеліцкі. А цяперака Завадская ілі Спарціўная, не ведаю. Так вот піўзавод канчаецца, і там быў дом двухпавярховы. А за нім налева павернуць, і там [каля] Немана і была сінагога.

Да, і вот адна сінагога там вот на горке там была. Па форме напамінает кітайскіе [храмы]. Так, як я памятаю.

Мы гулялі […] не ругаліся, не біліся, в футбол, два огня там другіе. А был адзін такой жыдок, каторы не гуляў з намі. Слабенькі такі вот. І ў него працавала ў другім кірунку галава. Вот, он кінамеханік. Неяк дасталася яму плёнка, кінаплёнка. Пабудаваў з досачак такую будку себе, выразаў дзірачку такую на кадры, там умацаваў і сеў у эту самую будку. І ліхтарыкам свяціў і быццам бы на замежнай мове гаварыў: гар-гар-гар. […] Кіно. А дзецям хочыцца кіно. Маму просяць, дай

[3] Маецца на ўвазе манастыр бернардынак, пасля мужчынскі Барысаглебскі манастыр.

2 грошы. Ані не давалі, і эці дзеці шлі, глядзелі в эту дзірачку па чарзе. Талкаліся. Вот адпіхвалі адзін аднаго. Кінапрадпрымальнік, да. І этага самага патом паказваў. Было цікава. Старую плёнку, эта ж нада было дадумацца. А потым он прывёл яшчэ такое. Тожэ таксама дзеці, шмат цукерняў было прыватных. Так, он на падносе зроблены такой вот з рамачкай, вот тут такія маленькія цукерачкі рабілі, і он прадаваў этые цукерачкі. Таксама хадзіў па дварах і прадаваў.

Што ў Гродне было ў 1939 годзе? Значыць, баяліся, што вот будзет [вайна], немцы тут. У кожным доме павінна была быць сховішча такое. Вы не памятаеце Падзамча, эту уліцу.? Ну, як з Замкавай ідці, паміж царквой і абкомам так вот вніз направа, вніз туды. І вот ніжэй тэатра там быў адзін дом, двухпавярховы каменны хрысціянскі. І невялікі домік драўляны, і другі быў чацвёрты номер таксама двухпавярховы, хрысціянскі. Вот мы жылі в этам доме. Патом мы жылі ва дварэ там. Так вот, в этам двухпавярховым доме зрабілі адзін пакой проціваіпрытны. Значыць, там паміж окнамі періны пазасоўвалі, запас прадуктаў там павінен быць, ну, мёда банка стаяла, гаршок такі вялікі. І маскі трэба было мець там такія.

І вот, значыць, пачаліся ўжэ бліжэй да першага, пачаліся эці пробные алярмы, ну, трэвогі. Сірэна гудзіт – у-у-у – хавацца трэба было в этам в суседнем пакоі. І вот 30 жніўня кажуць, заўтра будзе ў 6 гадзін алярм будзе, трэвога. Хавайцеся. Эта, каб усе ведалі. Першага верасня трэба і на заняткі ідці. І тут трэвога ў 6 гадзін. Сапраўды, у 6 гадзін сірэна воет. Людзі хто хаваецца, хто не хаваецца в эта самае [сховішча]. Лецят самалёты і з апазнавальнымі знакамі польскімі эці шашачные дзве, чырвоныя і белыя. І кідаюць бомбы на горад. Там в раёне цюрмы разбамбілі, на набярэжнай ніжэй замка, там […] сына там раніла, ілі там ці забілі его.

Так пачалася вайна [19]39-га. Немцы выкарысталі іх пробные трэніровкі. Я асабіста іх бачыў. Ну, і пачалася эта самая кампанія. Немец прыжымаў этых палякаў з захаду. А патом 17 верасня пайшлі сюды. Ну, мацней, до этого, до 17-га яшчэ ціснуў немец там з захаду. І оні адступалі на Літву, палякі, паліцыя, розныя, в обшчэм оні адступалі на Сапоцкін праз Гродна. І вот эты, дзе тонкасуконны камбінат, там казармы былі. Так, вот, палякі, я сам асабіста бачыў, як яны адступаючы, прывадзілі в эту казарму. І на дабравольных началах, хто хочыць ваяваць далей за родзіну, фарміруецца калона на масту. Там тачанкі такія, возікі з пулемётамі. Ані там фарміравалі.

Астальныя, значыт, рэмні кідалі, захадзілі туды в склад, бралі мешок сухарэй і ўхадзілі. Так хто куды. Так, вот частка разыходзілася. Частка асталася. А тут в горадзе і ўгаловнікі выйшлі, там началі всё з еврэямі. Какая-та стрэльба. То в парке там дзе-та з кем-та біліся там, стрэльба. І вот пачалася, зацянулася стрэльба, пачыналісь эта дзе-та ўжэ ў сярэдзіне этага верасня. Всё хаваліся так вот. Там стрэлялі, там стрэлялі. Хаваліся ад сляпых пуль. Мы таксама хаваліся в этам пакоі. А стрэльба всё не сціхае і не сціхае.

Аказваецца з занеманскай стараны падашло чатыры танка савецкіх. А тут эты адступаюшчыя, і гімназісты акапаліся там, дзе зараз тэатр, на этам узгорку. А мы ніжэй жылі тэатра. А тут жа былі пабудовы, кляштар быў, Барысаглебская царква, манастыр. Так, вот, і ані імелі там пару аружэй всего, адно проціватанкавае, адно проціваэенітнае, паставілі вот так вот. І велі бой. Тые білі з танкаў па этай акраіне, па этаму месту, дзе мы жылі. В наш дом папала пара снарадаў там разарвалася.

Так, мы в [19]39 годзе ўжэ ўбачылі стратэгічную значымасць маста, баёв за этат прытулак. Таму в [19]41 годзе, калі пачалася вайна, мы адсюль [зышлі], і вот у дзеда жылі на Каліноўскага.

А як я эту вайну сустрэў, таксама цікава. Я быў в санаторыі дзецком, піянерском лагере санаторного ціпа. Этат лагер был в Пышках перэд оврагом. Не знаю, што там зараз знаходзіцца. І мы там былі. І вот в 4 гадзіны я прачнуўся ад такога знаёмага ўжэ гула. Калі нямецкія самалёты лятали – у-у-у. Гул этат самы. Сільны гул. Я выглянул, гляджу ляцяць, нізка ляцяць самалёты з чорнымі крэстамі на ўсход. Ну, я ўжэ зразумеў што-та не тое.

Палежаў, а потым [пачуў] стук калиткі. Калітка была метраў 100 ад нас. Ну, я паляцеў, тут включылі свет, а за мной піянерважаты. А эта аказваецца з горада прышоў доктар Скаковскій. Я іх да вайны знаў. І вот пачалася вайна, горад ужэ разбамбілі, многія дамы… А его долг, значыць, глядзець за дзецей, каторые тут. Ну, я слышу, што он гаворыць: «Город бомбят, надо детей куда-то прятать».

Праз некаторы час нам сказалі браць коўдры, адзеяла. І мы пайшлі в этат авраг. Там такое паселішча, дамы, жылі людзі. Вверх этага аврага, не к Неману, а процівоположно. Посёлок был такой. Леснічэства там потым была. Порт там был такой. У тым накірунку. Ну, а я, мой дваюрадны брат і дачка механіка з піўзавода, мы кажам, што мы ўжо ведаем. Да, нам сказалі, што эта ўчэнія. Мы ведаем ужэ што такое

ўчэніе [19]39 года, вот. І мы вырашылі праверыць. І сабраліcь. Па горке хацелі ідці, а там зеніткі стаялі, то мы вніз. І ўздоўж Немана ўжэ ўцякалі дамой. Па дароге там ужэ забітага ўбачылі пад плотам.

Там, дарэчы, калі вот эта палякі адступалі туды, ілі на Гродна, на Літву думалі [ісці], і калі падыйшлі эці танкі, то как раз над Неманам там такі прыгожы двухпавярховы дом, там жыў Савіцкі, віцэ-бургамістр. Он выступіў па радзіо і сказаў, што польская кавалерыя пайшла вглубь Прусіі на столька-та кіламетраў.

Так, вот, пад плотам лежаў чалавек. Там заборчык там быў. А насупраць, дзе гавань, на маіх вачах бомба ўпала, і [падняўся] са дна песок, рыба. Мы яе взялі, а потым занясслі дамоў.

А бацька мой таксама служыў. Калі пачалася, пашоў на піўзавод, а там таксама бомбы ўпалі, его кантузіла, ударной валной. Он дахаты прыляцел. Я прыйшоў, так он сядзеў пад падаконнікам, […] дрэнна саабражаў.

Ну, а потым трэба ўхадзіць. Мы бачылі ў [19]39 годзе (К чему я вам расказваў пра эты год!) Двое сутак баі ішлі. Двое сутак. А в этым пакоі там былі ставні такіе. Значыць, ставні, ну, акініцы. Акініцы са шчэлямі былі. І вот, калі вхадзілі чырвоныя, ужэ не танкісты, каторые прарвалася в горад. І тры з іх згарэлі. Спалілі іх палякі. У цэнтры.

Я хацеў сказаць, што тут яшчэ быў (памёр вот у пазапрошлым годзе) Гена Барэвіч такой. Рэпрасаваны быў. Мы з ім аднойчы как-та селі… Карацей кажучы, адны і тые ж падзеі, каторые адбываліся ў Гродне, кожны бачыў па своему. У тым раёне, дзе ён жыў, ужэ адзін танк спалілі вот, дзе кінатэатр "Звёздачка" ["*Чырвоная зорка*"]. А тут абкам, а тут выязджалі, наверна, на Сацыялістычную, тут на Карбышава паварот. Так вот тут в этам трохкутніку адзін танк пабілі, другой танк, дзе зараз універмаг, там быў кінацеатр "Аполлё", там пабілі. А другой заехаў на Маставой, тут, калі, эці прарваліся праз аграду.

Калі асноўныя сілы саветаў падыйшлі, то оні ўжэ наступалі как-то організовано. Мы бачылі праз акініцы, як шлі чырвоныя. Верасень. Ані ўжэ былі в шынелях. Ну, і оні шлі напружаные. Першае, што я ўбачыў праз акініцы [гэта] савецкага салдата з этымі штыкамі, з этымі лёгкімі пулемётамі такімі вот, з кругам такім. Так, вот мы лежалі в хаце. Эта стрэльба працягвалася. Ну, і трэба ўцякаць. Мы по этой Новазамкавай, да Алега Кашевога, потом в этот авраг, дзе піянеры былі. Вот там эта называлась Завершчызна, такой раён. І выйшлі на Каліноўскага туды і адтуль бачылі ўжэ немцаў, у 2 гадзіны, так дзе-та.

Да, так што я хацеў сказаць? Значыць, каму вайна, а каму маць радная. Калі пачалася эта вайна пачалі грабіць склады розные, крамы. І пасля вайны, пасля баёв нічога не купіш. Савецкія грошы не хадзілі, разумееце. Всё было на абмен. То, што есць лішнее в хаце, то значыцца, то, хто там награбіл.

Калі прышлі немцы, то насупраць дома, каторый побач з пажаркай на Замкавай, паставілі палевые кухні. Немцы кармілі некалькі дзён. Тухлае пшэно і гнілая рыба. Гдзе ані её взялі? “Эта вам аставілі вашы друзья”, - яны казалі. Пшэно тухлае, тухлае. Вот мы за этым пшэном хадзілі.

Вот так пачалося наша жыццё. А патом пайшлі картачкі. А картачкі, хто працуе, таму картачкі давалі. Так і жылі. А хлеб спачатку прадавалі па картачкам. І па картачкам пяклі хлеб. Казалі, што з каштанаў. Он рассыпался, такой светлы быў і горкі. Каштаны прымешвалі.

Працаваў. Многіе дамы былі разбураные, чысцілі цэглу. А многіе вёскі былі папаленые, разбураны таксама, прыязджалі этые вяскоўцы. І мы таксама разам чысцілі цэглу. А тут насупраць этай карчмы, там быў тартак, лесапільны завод. Там калоды былі. Мы [прыцягнем] калоду, а вечарам бацькі папіляць. Рыхтавалі на зіму дровы.

Немцы [людзей] вывазілі в Германію. Аблавы, так называемые, часта рабілі в горадзе. А калі аблавы? Калі з касцёла выходзяць. Бачаць, ацэпят. Таму на Савецкай вуліцы ад пачатку Савецкай плошчы (эта старана по кінатэатр “Гродна”) […]трэба была скасіць ва двор, падняцца на чэрдак і патом там былі […] праходы такіе. Трэба было залецець ва двор на чэрдак і па чэрдаку там былі выбіты паміж дамамі дзюры такіе. І там ужэ спусціцца каля кінацеатра “Гродна”. А на этай старане, дзе горіспалком, там былі в падвалах такіе дзюры.

Дажэ кінатэатры былі для немцев. Каля ўнівермага “Аполле” самы вялікі. А для астальной масы был “Красная звёздочка”. І ў мяне был аднойчы такой выпадак. Не памятаю, які гэта год, [19]42 ці [19]43? Я хлопчыкам яшчэ быў. Дзе-та в раёне парка я па дрэвах лазіў і ўпал, пабіл себе руку, порезал аб камень. І шёл… А был камендантскій час в 8-м гадзін. І мне здаецца, ужэ перэкрочылі гэтат час.

І выхадзілі немцы із кінатэатра на Савецкай. І якраз па дароге мне была. З кінатэатра, вось. І так вот дзержусь. Ну, а я был такой белабрысы в кароткіх штанішках. І выхадзілі сёстры, медзіцынскіе сёстры. У іх была форма спецыяльная такая, чепчыкі такіе, как монашкі. Такіе паласатые блузкі. Адна мне сказала, што эта?

Ну, я сказаў, што іх хабе гефален [*ням. ich habe gefallen*], я ўпал. А я в школе ўчыл немецкій, і еврейскій знаю, ані пахожі. Эта самае, короче говоря, она меня повела, повела к педінсцітуту. А там был шпіталь. Ну, я не ведаю дакладна, факт, што там ана завела мяне да доктара. Якраз яны сідзелі з салфеткамі тут вот, вячэралі. Ана пайшла штосьці сказала, тот кінул есць, выйшаў да мяне, завёў мяне ў кабінет. Начал мяне [лячыць]. А потым ён зразумеў, што я не немец. І адразу сказаў: Марш. Так, што я быў агледжаны немцам, медсестрою і пайшоў.

А бальніца ўперад была чыгуначная. Дактаров не была. Дактары, хто былі да вайны? Еврэі і палякі. Был такой Нічыпурук, можа чулі такога? З-за Немана. Он закончыл Віленскій універсіцет. І он был тут, жыл на Краснапарцізанскай, там за Неманам. Дом там быў у яго. Справа, адразу першая вуліца возле Нёмана. Так, он был доктар. У него ў будні дзень каней ілі падвод штук 20-30 стаяла па всей этай уліцы. І он был адзін этат доктар.

І ў 1939-м анекдатычныя случаі былі. Спачатку пака не панаехалі розные чыноўнікі, то вайскоўцы былі. Ну, грошы ўжэ пайшлі савецкія. А крамы яшчэ былі прыватныя. І вот прыходзяць і 12 штук начных сарочак куплялі. Смеялісь з эціх "кацюш". "Кацюшамі" называлі жонак афіцэрскіх. Што ані в начных сарочках в тэатр прыходзілі. Вот, што даходзіла да мяне, да дзіцячага вуха.

Я ведаю ўжэ пасля вызвалення так называемага, пра эту падзею [19]39 года. Я магу вам прачытаць. На рускай мове: *Зайграй гормонь, баян-гормошка наш походный инструмент, пропоём с тобой немножко про теперешний момент. Панской Польши нету больше, хитрой ведьмы нет в живых. Не захватит она в лапы наших братьев трудовых. Украинцы, беларусы час возмездия настал, ваши недруги затрусив разбежались по кустам. Мы усталому народу мир и счастье принесём, дадим народу… и так далее. Если будут…* (ну, это уже что-то я пропустил) *Если будут лезть из кожи генералы-господа, мы их так в постель уложим, что не встанут никогда.*

Вот в таком духе уже мы выхоўваліся в 13-й школе.

## М-ч Антаніна Філіпаўна (1919 г.н.). Запіс 1 лютага 2013 г.

Родилась я в 1919 году в России. Мой отец здешний. Тогда было такое тяжёлое время… Он холостяком был, их было три брата. А жили они очень скромно. Ну, и два брата уехали в Америку на заработки. А мой папа уехал в Россию, и там познакомился с моей матерью. Когда кончилась Первая мировая война, он решил вернуться сюда на родину.

Я родилась в Муроме. А приехали где-то в [19]22-м году. Я ещё маленькая была. Моих родителей звали Филипп и Анастасия. Мама была русская. Они там познакомились.

Поселились здесь на частной квартире. Начал отец заниматься торговлей. Ну, значит, торговал-торговал и потом купил дом. И там тоже у нас была такая мастерская, где делали колбасы всякие и тоже продавали. Потом отец заработал хорошо и построил дом. Построил дом он на улице Мицкевича. Это было в [19]32 году, мы туда вошли.

Ну, а потом отец умер в [19]36 году, мать умерла в [19]39 году. И вот, мы остались с братом только.

Потом уже началась война в [19]39 году, 1-го сентября началась война. Немцы сюда на Гродно бросили бомбы. Я помню, ещё я не знала, что, что это война. Только встали мы утром с братом. И вдруг я слышу какой-то взрыв. И люстра вот так закачалась... Я так перепугалась. И я, значит, в окно смотрю. А люди всё бегут и кричат: "Война! Война! Война!" И мы тогда уже, знаете, такое было состояние ужасное, что мы не знали, что нам делать. Мы остались вдвоём. Мне было тогда. Я не помню сколько. 20-й год. А брату было... На три года он, 17-й.

Ну, и ждали мы… Напали немцы, значит, немцы придут. Ждали. А потом вдруг которого дня, ну, я уже не помню, через день или через два, смотрим, пришли советские войска. Идут, значит, советы эти, вот. Солдаты, Боже мой, такие уставшие, такие изнеможённые, такие, ну, просто жаль было смотреть. Эта одежда на них, ай, длинные эти шинели, не подшитая, а просто так, обрезанная, там и обтёпканная, всё… На голове эти вот шапки такие с этим пикульцем. Ну, ружьё там. И мы так удивлены были, что советы пришли, советская власть пришла. И правда, сколько ж она продлилась? Недолго.

Потом смотрим опять война. Пришли немцы. Немцы, значит, оккупировали, три года была оккупация немецкая. Было очень

плохо жить. Потому что ничего не было в магазинах. Потом нам дали немцы карточки на питание. Ну, это смешно было даже, эти карточки. Мы раз пошли получать, так 250 грамм мяса на человека на месяц. Пришли в магазин, то там вместо мяса были какие-то обрезки и кости и всё. И больше мы уже и не пошли в эти магазины. Ну, за хлебом, конечно, ходили. На карточки брали. Хлеб тоже был ужасный, мокрый. Ну, что сделать? На базаре было всё. Можно было купить. Но это, какие деньги стоило? Булка хлеба, я помню, что-то 100 рублей по-моему стоила.

Я вышла замуж в [19]42 году. Я была замужем, но жить на то, что получал муж, было очень сложно, это было мизер. На неделю, и всё.

Отец ещё в 1920-х годах купил дом на Скарбовой улице (теперь Урицкого), и я ходила в ближайшую школу в бывший костёл бригиток. Там была школа. По-моему четыре класса. Вели её монашки. Моя мама, несмотря на то, что я православная (православные мы), решила меня туда [отправить], потому что близко ходить. Так, сюда в эту школу меня записала. Ну, меня приняли, конечно, несмотря на то, что я православная. Никогда там никаких не было насилий, что мол, вот, учи этот Катехизис и всё. Хочешь – учи. Не хочешь – не учи. Так, что очень так толеранцыйне относились ко мне. Но я малый ребёнок. Что ж мне было семь лет тогда!

Так, допустим, начинается лекция, начинаются занятия… Потом такой был двор, и там были помещения, где жили монашки. И пара классов, это учебные были. И учились там только девочки. Уроки начинались от молитвы. Мы все шли в этот костёл. Потому что там переход, где жили монашки, и туда прямо в костёл входили. Там короткая молитва была. И после молитвы мы в класс шли, и там начинались занятия. После занятия опять шли туда, в костёл, помолились. И все уходили домой. Ну, и я там училась три года.

А потом после трёх лет я сдавала [экзамены]и поступила в гимназию. И уже дальше моя жизнь уже более взрослая была. Я училась в гимназии Эмилии Плятер на Советской улице теперь[4]. Там было 8 классов. И не только 8 классов, класс А, класс Б был. Учились у нас всякие девочки. И православные, и еврейки, но евреек было очень мало…

Не очень то любили евреев. Может потому что вся торговля была в руках еврейских в то время. Так что разные лозунги были на стенах на улице: «Не купуй у жида» [*польск. Nie kupuj u żyda*], «Бей жида».

[4] Будынак былой мужчынскай гімназіі па вул. Савецкая, 6.

Вот такое вот было, эти вот наклеивали, а другие срывали. И потом опять наклеивали. Вообще ненависть была ужасная к жидам. Потому что действительно вся торговля была в руках еврейских. А наших магазинов было очень мало. И вот, я не знаю, почему такое? Потом же такой погром был. На евреев. Витрины все эти вот еврейские выбивали. Там вот на Советской улице там были большие магазины. Это всё были еврейские. Такой был магазин, где были фрукты, конфеты, там мандарины. Потом был «Соболь» магазин, где были одежда красивая, шубы, всякие меха. Тоже евреи. Потом какие-то, вот, где был Ратуш раньше на Советской площади, значит, был Ратуш, а в середине такой был квадрат, и в этом квадрате всё были маленькие магазинчики.

Отец свою лавку сначала держал на базаре. Сенный рынок это был. Так когда-то назывался. Там был ряд таких магазинчиков, где продавали колбасы и мясо. А с другой стороны были ряды, где продавали всякие овощи. А с этой с левой стороны опять приезжали с деревень подводы и продавали там и картошку, и сметану, и масло. На Сенном рынке была такая Карчма, как это называли. И там, когда, значит, вот эти все, которые приезжали, которые торговали, могли зайти покушать, чаю выпить, селёдку жареную скушать. Это уже еврей держал. А с правой стороны там тоже был магазин. Там, я знаю, и мука была, и отруби были, и бочки такие стояли с селёдками. Тоже магазин. И потом там, значит, мясо это, которое продавали, так к концу дня надо было всё нести в лядовню. Потому что так оставить нельзя. Ну, где-то там лядовня была. Где вот все эти продавцы, каждый имел своё там отделение и складывал там свои эти продукты на ночь. Ну, а днём опять всё вытягивали.

Потом отец начал строиться на улице Мицкевича. В [19]32 году мы переехали сюда уже жить, в этот дом[5]. И здесь специально выстроили, значит, магазин, что это уже сугубо будет магазин. Ну, и был магазин. И были квартиры, конечно. Три квартиры, магазин был, масарня была, и потом это чердак был. Не такой, что там по лестнице. А просто идёшь по лестнице, тут вход в квартиру, здесь вход на чердак. Чердак был такой. Ну, теперь с этого чердака сделали квартиру. Потому что там большое пространство. Мы потом уже жили с братом там наверху, две комнаты и кухня была. А с правой стороны была такая очень уютная квартирка, комната и кухня. А весь низ мы сами

[5] Дом захаваўся. Вул. Міцкевіча, 6.



**Мясная крама Полудня па вуліцы Міцкевіча.**

занимали. Там было три комнаты и этот вот магазин, и масарня. Ну, а теперь там всё квартиры поделали. Там было три квартиры, а теперь, как-то я туда заходила, то шесть квартир теперь.

Первый этаж мы занимали. А второй этаж сдавали. В одной квартире, кто там жил, я уже не помню. И эта маленькая комнатка… Жила там одна учительница. Ну, а потом уже, когда пришли советы, так сразу национализировали дом, и сказали, чтобы освободить им квартиру. Что вы молодые, вы можете жить в одной комнате. А нам надо какому-то там начальнику квартиру. Ну, и мы, конечно, перешли в эту однокомнатную. А это там занимали. Он военный был, жена его была. Они там жили. А потом уже опять немцы пришли.

…В гимназии много нас было, потому что гимназия, это 8 классов было в то время. Я кончила три класса, а потом ещё 8 классов. Но потом уже, когда я кончала началась реформа. И сделали, что был четвёртый класс, сделали первый. И гимназия уже была нового типа, только четыре года. А гимназию кончаешь, а специальности то никакой нет. Только по блату где-то можно было устроиться, где-то секретаршей или что. Но специальности она не давала. Гимназию кончаешь, если хочешь быть врачом, то надо идти дальше в институт.

У нас были знания, программа была сложная. Ну, первые классы нет, а там дальше, то у нас иностранные языки были, немецкий или французский, обязательно надо было. Потом латынь, тоже обязательный предмет. Ну, и так и математика, и польский язык, и литература польская, и география, и история. Были тоже у нас работы. Как это называлось, я уже не помню. Учили нас кройке, шитью. С проволоки делали разные там финтиклюшки разные, вот так вот было. Спорт у нас тоже был. Занимались мы этим, ну, волейболом. Площадь гимназиума была довольно большая. И там дальше, значит, был даже теннисный корт. Вот, как гимназиум была, теперь там продают по-моему картины разные. Эта вот вся площадь была площадь гимназии. И там отделённый в конце был корт теннисный. Старшие классы занимались. А мы молодые, то где там нам бегать? Тяжело всё-таки, теннис это ж не каждый может. Ну, что ещё? Были у нас, в школе, значит, натрыски [*польск. natrysk*], ну, это, натрыски это душ, душевые эти. И каждую неделю все шли по очереди, там назначено время и все ходили на эти натрыски.

Преподаватели молодые были у нас. Историк был молодой. Потом географию кто вёл? Тоже молодой. А вот уже пожилой была Янау, француженка. Такая была статная дама с такими лёконами, такая степенная. Я учила немецкий. Немецкий у нас преподавал мужчина. Потом Байцер был. Польский язык в нашем классе [вела] тоже такая пожилая женщина Печинисувна. Потом у нас была классный руководитель очень милая женщина. Она меня так любила. Пани Кшывоносова. Директор у нас была очень суровая женщина. Она была высокая, стройная. Но у неё был дефект с ногой. Она ходила на таком ботинке, одна нога у неё была короче. И она куштыкала. Но она такая была суровая. Когда она выйдет со своего кабинета, а мы идём по коридору, так все кланялись, реверанс такой делали, что, мол, её мы уважаем, и всё... Бегать по коридорам сурово запрещали. Нельзя было бегать. Только парами спокойно ходить. Побегать можно на площади там, когда в волейбол играешь. Гимнастику там мы делали на воздухе, летом, конечно.

Евреек так мало было. И которые были, это были всё такие умницы, что мы заискивали перед ними. Потому что если какое-то там надо было выпрацованне так это, так всегда, или математику, так попросишь: «Ива, ты мне помоги, а то я не понимаю». Ну, и всегда, она никогда не откажет. Мы к ним очень так толеранцыйне относились. Ну, и они тоже к нам. Но их было так мало, то если одна там в классе

была, так... Очень мало было евреек. В основном католички были. Ну, и православных тоже на всю гимназию, ну, сколько? В это время, когда я училась, ну, можа человек 10-12 на всю гимназию.

В кино можно было ходить не [на] всё, только туда, куда разрешали преподаватели. Кино [было]где вот универмаг. Тут было кино, по-моему, «Полёния» [*Polonja*][6]. Если я не ошибаюсь. Это было самое хорошее кино. Вот сюда мы и ходили. Хорошее было, потому что оно вместительное было, и кресла такие хорошие были. Стены красивые были. Вот это нас привлекало. И в центре близко, тут гимназия.

А там «Бузна» была рядом. Ходили пить эту бузну. Какой-то этот не русский, турок, по-моему, оборудовал это. Боже мой, какие там сладости были! Какие были эти халвы. Теперь таких нет. И такое всё вкусное было! И эта бузна – это был наподобие, как наш этот коктейль молочный. Но он был вкуснее. Был такой шипящий. А вафли какие были вкусные! И с начинкой и без начинки. Так мы уже идём со школы домой. Когда родители давали карманные деньги. Так, идём в эту «Бузну» и пьём этот коктейль с этими вот вафлями или с халвой. Кафе такое было. Столики были, всё. Уже я постарше была. Потому что раньше не было этого, а потом появился. Вот говорят: «Турек, турек пшыехал». Муви: «Бузна, Бузна отвожыл». Там написано было «Бузна».

В то время не очень то я ходила в магазины, потому что учёбы было много. А мне учёба, не очень легко давалась. В особенности в гимназии. Я любила ходить в продуктовый магазин и сыр покупать. Любила я этот голландский сыр. Это такие были головки круглые. И когда, вот и теперь я вижу, как она режет этот сыр, и тоненько-тоненько, и такая слеза. Она режет, а тут вот, где отрезано уже так плывёт такая слеза. Он такой вкусный был. Ой, я помню, когда я даже в гимназии была, так я носила бутерброды с колбасой, а менялась с девочкой, у которой был такой вот сыр.

Раньше на теперешней площади Тизенгауза был постумент. Такой вот шар большой, и на нём орёл большой был. А перед самой войной то ли это кто-то сбросил, то ли от времени упал этот орёл и этот шар, всё это упало на землю. И люди говорили: «Ой, то муви, злы знак». Что это, мол, плохая примета, что-то будет нехорошее. И некоторое время прошло, и началась война.

[6] Аўтар успамінаў памыляецца. Кінатэатар “Палонія” (пасля “Пан”) знаходзіўся на сучаснай Сацыялістычнай вул.



**Гродзенскія гімназісткі каля Турэцкай Бузярні на рагу Віленскай і Ажэшкі, 1930-я гг.**

У нас каждый год, когда я училась в гимназии были раз в году поездки. Вот, допустим, мы ездили над море в Гдыню, там в Польше, потом поездка у нас была следующий год (это был [19]36 год) в Краков мы ездили. Все там достопримечательности города [смотрели]. Потом куда ещё? В Вильно мы ездили тоже на экскурсию. Вот такие поездки были, да. Это в гимназии.

И ещё было хорошее. В Чеховщизне наша гимназия построила такой дом летний. Вот, значит, там были. Всё было оборудовано для того, чтобы проживать летом, конечно. Это летний дом был. Потому что там отопления не было. Только была кухня, где питание можно было сварить. И желающие девочки, которые хотели, то могли пользоваться. Меня родители отправляли на весь сезон. Потому что я такая хилая была вообще.

Снимали, знаете как, если я вот иду, допустим, то фотографы были и меня фотографируют, хочу я, не хочу. Пстрыкнут и всё. И тебе талончик дают. Хочешь, идёшь и выкупаешь эту фотографию. Не хочешь, то это так и пропадает. У меня в альбоме много есть таких снимок, которые вот идёшь по улице с подругами, идёшь и пстрыкнут. «Ну, бендзем выкуповать?» Я: «Бендзем».

Почему в Польше евреев не любили? И тоже погром был. Почему? Скажите! Ведь они ж никакого вреда не делали. А то, что они были предприимчивые, они умели это торговать. Если пойдёшь к еврею, он тебе сто этих блузок выставит, все. «Какой? Може это? А може не это, може лучше? А это, а это ещё! Ой! Это Вам так к лицу!

Что Вы! Я Вам уступлю! Только покупайте! Я Вам подожду». А наши же так не умеют, наверно. Вот потому торговля и была в их руках. У них всегда дешевле было. У них можно было в кредит взять.

Помню еврейскую аптеку, там был крем такой, моя мамаша всё покупала, «Метаморфоза» назывался. Да, «Метаморфоза». В такой стеклянной банке, стеклянная крышка. И тут такая была изображение – лицо, и красивое такое лицо. Мыло! Какое мыло раньше было! Теперь такого я не видела, и не знаю. Возьмёшь кусок мыла, оно такое вот было, как, как яйцо большое, такое овальное, розовое. Пахучее, такое пахучее! Что духов не надо было. Помоешься этим, так от тебя пахнет. А теперь мыло, разве это мыло? Чёрт ти что. Никакого запаха нет.

# Мінулае ў адлюстраванні замежных падарожнікаў і даследчыкаў

**Фартэск'ю Андэрсан (Лондан)**

## У гродзенскай турме. Верасень 1863 г.

У 1864 г. у лонданскім выдавецтве братоў Макмілан выйшла з друку кніга *Seven Months' Residence in Russian Poland in 1863 by the ref. Fortescue L.M. Anderson, B.A.* (London and Cambridge, 1864)[1]. Яе аўтару англійскаму святару Фартэск'ю Андэрсану давялося некалькі месяцаў правесці на беларускіх землях, дзе ішлі баявыя дзеянні паміж паўстанцамі і царскімі войскамі. Ф. Андэрсан выразна сімпатызаваў паўстанцам і трымаў кантакты з мясцовай шляхтай, за што спачатку трапіў у гродзенскую турму, а пасля быў высланы з Беларусі. Успаміны Ф. Андэрсана – гэта не літаратурна апрацаваны тэкст, а вельмі якасная журналісцкая справаздача, што надае ягонаму тэксту каштоўнасць гістарычнага дакумента.

У кнізе прадстаўленыя некаторыя вайсковыя і цывільныя чыноўнікі Гродна, а таксама гродзенцы – удзельнікі вызвольнага паўстання. Сярод апошніх маршалак шляхты Гродзенскага пав. Северын Ромэр. На вул. Віленскай (сучасная вул. Савецкая) находзіўся "гатэль Ромэра", дзе збіраліся сябры Гродзенскай падпольнай арганізацыі, якую ў 1861 г. стварыў Кастусь Каліноўскі. С.Ромэр быў паўстанцкім касірам Гродзенскага пав. Ягоная жонка Тэадора Ромэр кіравала жаночай арганізацыяй і збірала медыкаменты для паўстанцаў. С.Ромэр быў высланы ў Табольскую губ. Жонка добраахвотна падзяліла ягоны лёс.

У абраным для перакладу фрагменце найчасцей згадваецца памешчык Гродзенскага і Ваўкавыскага пав. Аляксандр Біспінг, які падтрымліваў сувязі з сябрамі Гродзенскай арганізацыі. Эразм Заблоцкі падчас следства прызнаў, што ў канцы красавіка – пачатку мая 1863 г. разам з К.Каліноўскім наведаў маёнтак Біспінга ў Вярэйках. Дарэчы, у гэты час там павінен быў знаходзіцца і аўтар

успамінаў (!) Цалкам магчыма, што Ф.Андэрсан, сапраўды, быў звязаны з паўстанцамі, але следства па ягонай справе не здолела гэтага даказаць... А вось А.Біспінг, які меў усяго 22 гады, быў высланы ў Арэнбургскую губ.

Іншы персанаж успамінаў Ф.Андэрсана – князь Аляксандр Медард Друцкі-Любецкі (1827-1908), сын Францішка Ксаверыя Друцкага-Любецкага, рэфарматара і міністра фінансаў Каралеўства Польскага. Некаторы час займаў пасаду маршалка шляхты Гродзенскага пав.

Напачатку кнігі на яе старонках таксама фігуруе граф Віктар Старжынскі, маршалак шляхты Гродзенскай губ. Напярэдадні паўстання ён распрацаваў праект закона аб наданні “Паўночна-Заходняму краю” асобнага адміністратыўнага статусу і пазнаёміў з ім Аляксандра ІІ. Пасля выбуху паўстання ў знак нязгоды з царскай палітыкай выйшаў у адстаўку. Гэты ўчынак справакаваў масавы зыход з адміністратыўных пасадаў мясцовай шляхты. В.Старжынскі ідэйна падтрымліваў паўстанцаў (групоўку “белых”) і па некаторых звестках за адмову падпісаць вернападданіцкую петыцыю быў высланы ў глыб Расіі.

Факт прысутнасці ў нашым горадзе англічаніна Ф. Андэрсана пацвердзіў гісторык Алесь Радзюк, які нядаўна адшукаў у адным з гродзенскіх архіваў дакументы, што тычацца ягонай асобы[2].

Ніжэй чытачам прапануецца невялікі фрагмент успамінаў Ф. Андэрсана ў перакладзе на беларускую мову Дар’і Фядотавай. Правапіс і арфаграфія сучасныя. Скарачэнні ў тэксце пераважна датычаць аўтарскіх паўтораў, а таксама апісання знаходжання Ф.Андэрсана ў Вярэйках. Скарачэнні пазначаныя кропкамі ў квадратных дужках – […].

*Андрэй Вашкевіч, Алесь Смалянчук*

## Гродна

З Вільні нашае падарожжа было да Гродна па мясцовасці пераважна роўнай, якую толькі дзе-нідзе ўпрыгожвалі невялікія азёры і лапікі яловых ды бярозавых лясоў. Усе станцыі на нашым шляху былі запоўненыя жаўнерамі, але нідзе нельга было атрымаць якія-небудзь дакладныя звесткі пра паўстанне, якое выцягнула іх з зімовых кватэр. Мы нашмат больш даведаліся аб паўстанні з ангельскіх, французскіх і нямецкіх газетаў, чым здолелі пачуць у мясцовасцях, ахопленых ім.

Праз чатыры гадзіны цягнік прыбыў у Гродна, дзе нас сустрэў стрыечны брат графа. Хутка пераапрануўшыся ў гатэлі, мы пайшлі вячэраць з князем і княгіняй Любецкімі, якія прымалі нас вельмі ветліва. Я быў прыемна здзіўлены даведаўшыся, што княгіня, якая прыходзілася графу цёткай, размаўляла па-ангельску. Гэтая акалічнасць у спалучэнні з сардэчнай добразычлівасцю ўсёй кампаніі забяспечыла мне вельмі прыемны вечар на гэтай зямлі чужынцаў.

Ранішнюю гарбату, чаго я раней не бачыў, падавалі ў келіхах разам з цыгарэтамі. І з гэтага часу да апоўдні наведвальнікі прыходзілі да графа бесперапынна адзін за адным. Мы пайшлі абедаць ў бліжэйшую рэстарацыю і сустрэлі некалькіх расейскіх афіцэраў, якія гралі ў більярд. У паводзінах расейскія афіцэры, асабліва з імператарскай гвардыі пераважна дэманстравалі вялікую ветлівасць. Але ў дадзеным выпадку, мушу прызнацца, яны паказалі яе ў самай малой ступені. Адзін з іх нават не пасаромеўся нахабна працягнуць руку праз увесь стол і пачаставацца хлебам, які быў пакладзены для нас. Зрабіў ён гэта наўмысна ці выпадкова, не магу сказаць. Але шматзначная ўсмешка, што з’явілася ў той самы момант на твары аднаго з ягоных сяброў, прымусіла мяне думаць, што яны высвятлялі, наколькі далёка могуць зайсці ў дэманстрацыі сваёй пагарды да тых, каго разглядалі як польскіх няпрошаных гасцей. Але план пасварыцца з намі, калі такі і існаваў, не спрацаваў, бо мы не звярнулі аніякай увагі на іх паводзіны.

У Гродне, як і ў Вільні казакі і розныя вайскоўцы сустракаліся на кожным кроку. Тут я ўбачыў […] дадатковыя меры перасцярогі ў выглядзе 20 гарматаў перад домам губернатара.

Мы зноў вячэралі з князем Любецкім. Ізноў сабралася прыемная кампанія. Адным з гасцей быў князь Старжынскі, які таксама як і князь Любецкі, займаў высокую пасаду ў гродзенскім кіраванні. Я быў узрадаваны пачуць, як добра ён размаўляў па-ангельску.

У пятніцу ранкам 6 сакавіка мы паехалі паштовай павозкай у Вярэйкі. Гэта адзін з маёнткаў графа, каля 30 ангельскіх міль ад Гродна на поўдзень ад Нёмана. Дзве павозкі, што пад’ехалі да дзвярэй на гадзіну пазней за прызначаны час, нагадвалі шатландскія вазы для сена. Адну з іх цягнула чацвёрка моцных коней, запрэжаных у адну лінію, а другую – тройка.

Вялікая хуткасць, з якой яны ішлі галопам па кепскіх дарогах, была здзіўляючай. І тое жудаснае трасенне, што перажылі пасажыры

у павозках, якія не мелі рысораў, прасцей уявіць, чым перадаць словамі. Спачатку мы рухаліся даволі павольна. Няроўную брукаванку на вуліцах, з-за якой даводзілася ехаць амаль з хуткасцю пешахода, як і перашкоды на мосце праз Нёман было нялегка пераадолець.

Праз гэтую частку Нёмана ёсць два масты. Адзін з трубчатых элементаў для чыгункі на Варшаву, другі пантонны, як яго называюць. Але ён вельмі адрозніваецца па канструкцыі ад аналагаў, па якіх падарожнічаюць праз Рэйн у Боне, Кёнінгсвінтеры і Нойвідзе. Рух мастоў на Рэйне, як чытачу напэўна вядома, здзяйсняецца дзякуючы плыні і кантралюецца ланцугом, прымацаваным да кармы дзвюх баржаў, што падтрымліваюць платформу мосту, які праходзіць праз высокую драўляную канструкцыю і шэраг лодак, размешчаных у пэўным інтэрвале адна ад другой уверх па плыні, і замацоўваецца на дне ракі. Мост на Нёмане таксама бярэ імпульс ад плыні, але замест таго, каб быць прывязаным да лодак, ягоны рух ад аднаго берага да другога кантралюецца моцным тросам, які праходзіць праз ролікі і два вертыкальныя слупы, усталяваныя на абодвух баках мосту, і мацуецца да лябёдак на абодвух берагах ракі. Нёман у гэтых мясцінах не складае і паловы Рэйну, інакш не атрымалася б прымусіць мост рухацца туды і назад такім спосабам.

Платформа, якая з’яўляецца падлогай мосту, пакладзеная на дзве моцныя баржы, як на Рэйне, дастаткова вялікія, каб перавесці за адзін раз павозкі, коней і пешых пасажыраў. Гэтым разам было не меней за сотню пасажыраў і чатырнаццаць ці пятнаццаць павозак і экіпажаў апроч нашага. Гэты стракаты натоўп, вядома, шчыльна сціснуты, уяўляў відовішча бездапаможнай збянтэжанасці. Наша кампанія, канешне, не адчула шмат нязручнасцяў, бо нашу павозку прапусцілі ў першую чаргу. Але тыя, хто былі за намі, маглі зайсці на мост толькі праціскаючыся ўсе разам. Мужчыны, жанчыны і дзеці, вайскоўцы і сяляне піхаліся і сварыліся, лаяліся і крычалі. Кожны імкнуўся зайсці першым.

Двое з натоўпу прыцягнулі маю асаблівую ўвагу. Гэта сялянскі хлопчык і габрэйка гадоў 50-ці. Кожны вёў каня і чатырохколавы воз да мосту. Спачатку жанчына была наперадзе, але хлопчык, пакуль тая спрачалася з кіраўніком мосту, здолеў абысці яе. Габрэйка, як толькі зразумела гэта, моцна ўдарыла ягонага каня па галаве, а пасля накінулася на хлопчыка з такім жа шаленствам, драпаючы і збіваючы яго па твары. Хлопчык не доўга чакаў, каб адплаціць ёй той жа манетай, і адбылася шараговая бойка, якая, відавочна,

пацешыла прысутных. Але падчас бойкі хлопчык не забываўся на сваю галоўную мэту і, выкарыстаўшы мажлівасць, паспяхова заняў добрае месца на мосце. Жанчына таксама прайшла і спрабавала аднавіць спаборніцтва, але пабачыўшы, што гэта будзе нязручна, задаволілася, абліўшы аб'ект сваёй лютасці бесперапыннымі струменямі лаянкі.

Гэтак званае кіраванне мостам, як, насамрэч, і кожнае іншае кіраванне ў гэтай краіне, знаходзіцца ў руках габрэяў. Але, калі падтрыманне парадку і было часткай кантракту, то сёння на гэта ніхто не звяртаў ўвагі. Мажліва, там прысутнічалі афіцэры, абавязаныя забяспечваць парадак, але я не бачыў ніводнага. Несумненна, спатрэбіўся б цэлы полк паліцыі, каб супрацьстаяць націску мноства людзей, якія вельмі жадалі патрапіць на мост.

Пасля пераправы коні пастаянна ішлі галопам. Нават стромкае ўзвышша, на якое давялося падняцца паблізу ракі, і цяжкая дарога, якая рабілася яшчэ больш цяжкой з-за брудных камоў расталага снегу, ніяк не зменшылі хуткасці бедных коней. Кіроўца бесперапынна крычаў на іх альбо сцябаў па змучаных баках бізуном з вяроўкі. Першую частку дарогі, каля 15 ангельскіх міляў, мы праехалі за гадзіну з паловай; другую частку, прыкладна такую ж па даўжыні, праехалі прыкладна за такі ж час, але па крыху лепшай дарозе, і мясцовасць была больш роўная.

Наш абед па завяршэнні першай часткі дарогі складаўся з чорнага хлеба і сыра з ікрой і віном кларэт. Уздоўж дарогі там стаяў доўгі будынак, які служыў стайняй для паштовых коней, чатыры з каторых павіны былі быць заўсёды напагатове. Барты былі зроблены пад ухілам, каб коні маглі на іх ляжаць, але толькі крыху прысыпаны саломай. Здавалася, што не прыкладаліся нават самыя малыя намаганні дзеля таго, каб коні і стайні былі чыстыя.

Падчас другой часткі нашага падарожжа мы праехалі ўздоўж некалькіх прыгожых фермерскіх хатаў, а таксама праз багатыя балоцістыя землі, якія нагадалі мне лепшыя часткі памежнай мясцовасці паміж Норфалкам і Лінкальншырам.

[…]

*[Наступныя старонкі кнігі прысвечаныя апісанню мясцовасці Вярэйкі, гаспадаркі і побыту мясцовых сялянаў і шляхты, рэпрэсіям царскіх уладаў супраць паўстанцаў. У пачатку восені 1863 г. аўтар вяртаецца ў Гродна і вырашае наведаць Верцяліўкі].*

## Арышт і зняволенне ў Гродне

У пятніцу 4 верасня мы прыбылі ў Гродна з Вярэйкаў і мелі намер правесці наступны тыдзень у Верцялішках, каб наведаць свята ўраджаю. Мы заставаліся ў Гродне ўсю суботу і нядзелю. У панядзелак апоўдні рушылі да сялянскай гаспадаркі. Надвор'е было цудоўнае. Загадчык пошты, габрэй даслаў нам чацвёрку сваіх лепшых коней. Граф, ягоны нямецкі слуга і я выйшлі з гатэлю недзе а 3-й гадзіне ў прыўзнятым настроі, не ўяўляючы тых падзеяў, якія неўзабаве павінны былі нас напаткаць.

Што да мяне, то я чакаў нашага падарожжа з вялікай цікавасцю, бо яно, верагодна, было апошнім прыемным перажываннем у гэтай краіне. Насамрэч, было шмат прычынаў, па якіх мне было шчыра шкада з'язджаць з Польшчы. Ад самога пачатку граф ставіўся да мяне, як адданы і любячы брат. Ягоныя сябры і сваякі рабілі ўсё мажлівае, каб я адчуваў сябе ўтульна сярод іх. Найбольшыя намаганні рабіліся дзеля таго, каб зменшыць турботы, звязаныя з неспакойным становішчам у краіне. Я ўпэўнены, што граф быў бы рады, каб я застаўся яшчэ на нейкі час. Але мой бацька жадаў, каб я вярнуўся да яго ў Бон не пазней за канец верасня. Я таксама вельмі жадаў быць з ім, і, адпаведна, усе было гатова для майго ранняга ад'езду. Мой цяжкі багаж ужо чакаў мяне ў маёнтку, і ў наступны чацвер я мусіў пачаць сваё падарожжа дахаты.

Калі мы пад'ехалі да мяжы горада, дзе заўсёды правяраюцца пашпарты, я ўбачыў двух вартавых імператарскай гвардыі ў параднай форме, апранутай у гонар нейкага вялікага свята. Граф, як звычайна, паспяшаўся па сходах з паперамі, пакуль я заставаўся ў экіпажы. Як толькі ён пайшоў, да мяне наблізіўся жаўнер і запытаў, ці належыць экіпаж графу Біспінгу. Калі я пацвердзіў гэта, ён загадаў мне падняцца па сходах з багажом, які складаўся з дзвюх валізак і партпледа. Я быў трохі здзіўлены гэтаму загаду, але моўчкі падпарадкаваўся. Граф Біспінг здзівіўся нават больш, калі я з'явіўся ў пашпартным кантролі, і спытаў, што здарылася. Я прапанаваў яму запытацца ў жаўнера, які адразу прадэманстраваў, што, на ягоную думку, справа была вельмі сур'ёзная, і што ягоны абавязак прыцягнуць нас да адказнасці. Гучным уладным тонам ён загадаў служцы адкрыць валізкі і запатрабаваў нашыя паперы. Абодва загады былі адразу ж выкананыя, але, падаўшы паперы, я вырашыў трымаць мой ангельскі пашпарт пры сабе.

Пасля агляду валізак і шчыльнага вывучэння кожнай асобнай рэчы афіцэр звярнуўся да графа Біспінга і загадаў яму зняць вопратку. Граф зараз жа зняў паліто і іншыя адзенне. Кішэні таксама агледзелі, забралі ягоны гадзіннік і кашалёк, падлічылі ўсе ягоныя горшы. Нават боты знялі, і жаўнер ўважліва праверыў, ці не схаваная якая-небудзь папера ў іх ці пад вусцілкамі. Наступным праз тую ж самую працэдуру прайшоў нямецкі служка. Я тым часам моўчкі назіраў. Надышла мая чарга. Жаўнер звярнуўся да мяне і сказаў:

- Цяпер распранайцеся.

- Я адмаўляюся рабіць гэта, – адказаў я па-французску. – Я англелец і вандрую па пашпарце, выдадзеным мне за подпісам і пячаткаю вашага сакратара замежных справаў. Таксама я маю расейскі пашпарт. Я не парушаў аніводнага вашага закону, і пакуль мне не паведамяць, на якой падставе я арыштаваны, я не дазволю абыходзіцца са мной, як са злачынцам.

Ён утаропіўся на мяне ў вялікім здзіўленні. Відавочна, ён не мог паверыць сваім вушам, што нехта, звязаны з агіднымі палякамі, асмельваецца не падпарадкоўвацца загадам расейскага служачага. Ён спыніўся, але толькі на імгненне. Пасля пабег, адкрыў акно і гучна аддаў загад, сэнсам якога, як паведаміў мне граф, было выклікаць вайсковага начальніка і начальніка паліцыі разам з атрадам казакоў у месца нашага знаходжання. Я ледзьве стрымаў усмешку з-за збору такога грознага войска супраць аднаго безабароннага чалавека. Мне было цікава пабачыць, ці сапраўды расейскія ўлады зробяць гэтае непрыхаванае глупства.

Пакуль пасыльнага не было, граф спытаў:

- Чаму Вы не падпарадкоўваецеся іх патрабаванням?

- Я падпарадкуюся, – адказаў я, – як толькі мне паведамяць, чаго ад мяне патрабуюць. Але я не падпарадкуюся такой знявазе без нейкай сур’ёзнай прычыны.

Чытач можа падумаць, што я быў не правы, калі супраціўляўся такім чынам, і, калі б я меў больш часу падумаць, я, мажліва, згадзіўся на іх патрабаванні. Але ў той момант абурэнне цалкам захапіла мяне.

Пасля паўгадзіннага чакання прыбыў вайсковы начальнік. У хуткім часе да яго далучыўся і начальнік паліцыі[3] з казакамі. Апошнім адразу ж загадалі імчацца галопам у маёнтак графа і вывезці адтуль усё, што яны знойдуць з нашых рэчаў. Вайсковы начальнік, мушу тут прыгадаць, быў афіцэрам імператарскай гвардыі, які

часова служыў на гэтай пасадзе. Ён быў сапраўдны джэнтльмен, і я бачыў у выразе яго твару агіду, якую выклікалі напышлівыя і зневажальныя манеры начальніка паліцыі.

Выслухаўшы пра ўсе абставіны нашага арышту і пра маю адмову распранацца, начальнік паліцыі звярнуўся да мяне і сказаў на ламанай ангельскай мове:

- Мой сябра, Вы павінны déshabiller (*фр. распрануцца*)".

Я паўтарыў тое, што казаў раней, і дадаў, што, калі мне паведамяць падставы майго арышту, я буду падпарадкоўвацца ўсім загадам, якія ён павінен аддаваць у адпаведнасці са сваёй службай, але ў адваротным выпадку я не буду рабіць нічога. Яны, вядома, маглі рабіць, што пажадаюць. Я сказаў, што для мяне няма сэнсу супраціўляцца, і што я толькі магу звярнуцца за сатысфакцыяй да губернатара.

- Ці могуць жаўнеры распрануць Вас? – было яго наступнае пытанне.

- Я ўжо сказаў Вам, што Вы можаце рабіць, што пажадаеце. Я не маю сродкаў спыніць Вас, але я пэўна не буду рабіць нічога, каб садзейнічаць Вам ў выкананні гэтай абразы, супраць якой я выступаю. Пры мне мой ангельскі пашпарт з подпісам і пячаткаю лорда Расэла. Калі Вы паглядзіце на яго, то ўбачыце, што ён патрабуе, *імем Каралевы Англіі, ад усіх, каго гэта можа датычыцца, прапусціць мяне без дазволу і перашкоды і прадставіць мне любую дапамогу ці падтрымку, у якой я магу мець патрэбу*. Вы мяркуеце, гэтыя словы не маюць значэння, і што я маўкліва прыму Вашую знявагу, ці якой-небудзь іншай асобы, што прадстаўляе ўладу?

- Дазвольце паглядзець Ваш пашпарт, – сказаў ён. Я працягнуў яму дакумент.

Ён узяў яго, скамячыў і запіхаў у кішэню, дадаўшы пагардлівым тонам:

- Ну, цяпер Вы яго не маеце.

Я пратэставаў, як толькі мог супраць такога нахабства, але адзінае, што ён зрабіў у адказ, так гэта выцягнуў пашпарт з кішэні, расправіў яго і дадаў да маіх астатніх папераў, якія запячатаў.

Потым ён даў знак двум жаўнерам наблізіцца і зняць з мяне паліто, камзол і боты. Калі яны палезлі ў мае боты, я сказаў начальніку паліцыі, што ангельцы не маюць звычкі насіць грошы ці лісты ў ботах.

- О, не, – адказаў ён. – Я бываў у Англіі і досыць добра ведаю звычкі ангельцаў.

- Калі гэта так, то, мяркую, Вы павінны былі даведацца, што ні з кім ў Англіі не абыходзяцца як са злачынцам, пакуль не даказаная яго віна. Чаму Вы не запомнілі гэты ўрок?

Скончыўшы мяне распранаць, чалавек працягнуў перапакоўваць нашыя валізкі, пакінуўшы мяне сядзець на сваім месцы, час ад часу пазіраючы на мяне і мяркуючы, напэўна, пра тое, што адбудзецца далей. Як толькі ўсё было гатова да ад'езду, начальнік паліцыі павярнуўся да мяне і сказаў:

- Хадзем, сэр. Апранайцеся.

- Не, я нічога не буду рабіць. Вы мяне прывялі ў такое становішча сродкамі, якія я разглядаю як вельмі несправядлівыя. Вы можаце вярнуць усе назад, калі ў Вас гэта атрымаецца.

Тады нямецкаму служку загадалі зрабіць, што патрэбна, і, калі б я час ад часу не дапамагаў яму, то, мяркую, яго дрыжачыя рукі ніколі б не выканалі заданне.

- Чаму *pauvre Anglais* (*фр. бедны ангелец*) такі раздражнёны? – насмешлівым тонам запытаўся начальнік паліцыі ў графа. - Ён моцна раззлаваўся.

- Я злуюся, – адказаў я, – з-за парушэння справядлівасці, якое адбываецца ад імя закона.

Вайсковы начальнік на працягу ўсёй сцэны асцярожна маўчаў. Забыўся сказаць, што начальнік паліцыі выглядаў яшчэ больш важна з-за прыгожай параднай формы, у якую быў апрануты з нагоды свята. Ягоны кіцель быў цёмна-зялёнага колеру з вялікімі срэбнымі эпалетамі, на галаве ў яго быў ківер з зяленым пер'ем з хваста пеўня.

Як толькі мяне ізноў апранулі, наш багаж знеслі ўніз і паклалі ў экіпаж. Граф Біспінг і начальнік паліцыі селі ў дрожкі апошняга, а я і нямецкі служка селі ў экіпаж, які мусіў даставіць нас у маёнтак. Нас суправаджалі чатыры жаўнеры імператарскай гвардыі. Двое сядзелі на скрынях і двое на лаўцы побач з намі. Няшчасны служка меў выгляд варты жалю. Каб падбадзёрыць яго я сказаў:

- А што, Людвіг, табе ніколі не даводзілася так важна ездзіць з чацверыком коней у тваім экіпажы і чацверыком жаўнераў дзеля тваёй аховы?

Але ён здолеў адказаць толькі слабай усмешкай, бо не мог размаўляць.

Думка пра турму яшчэ не прыходзіла ў маю галаву. Але экіпаж у хуткім часе спыніўся перад брамаю будынка, які раней быў кляштарам, а цяпер, як я ведаў, служыў турмою. Я часта бачыў групы вязняў-паўстанцаў, якіх з кайданамі на нагах і руках заводзілі туды.

Пакінуўшы экіпаж, мы пайшлі праз вялікі двор, які выглядаў даволі дзіўна. На кожным паверсе будынка былі пакоі, перапоўненыя вязнямі. Пачуўшы званок на дзвярах турмы, яны кінуліся да закратаваных вокнаў, каб зірнуць на новых зняволеных. Ніколі не забудуся дзікага і знясіленага выразу, што адбіўся на тварах некаторых з нецярплівых назіральнікаў. Безумоўна, многія з іх пазналі графа Біспінга, а паколькі я быў ягоным пастаянным кампаньёнам у Гродне і наваколлі больш чым 6 месяцаў, мажліва, з вуснаў у вусны пайшла перадавацца навіна пра ангельца, які папоўніў іх шэрагі.

Мы былі прадстаўленыя начальніку турмы. Я ніколі не бачыў чалавека больш непрыемнага выгляду. Ягоны твар належаў да самага горшага рускага тыпу – рудыя валасы і грубыя рысы з глыбокімі мецінамі воспы. Ён касіў на адно вока, што спрабаваў схаваць за парай блакітных акуляраў, зашклёных не толькі спераду, але і па баках і пакрытых пазалотай. Гэтае вока пастаянна паказвала белую частку яблыка па-над цёмнымі акулярамі, робячы ўсё яшчэ больш заўважальным. Ягоны выгляд адразу ж нагадаў мне вядомае правіла, якое панавала сярод аматараў коней у Англіі: “Калі ў воку каня відаць шмат белага, то зважай і сцеражыся злога нораву”. Нам не давялося доўга чакаць на пацверджанне праваты гэтага правіла ў дадзеным выпадку.

Начальнік паліцыі давёў начальніку турмы падрабязнасці нашай справы і адразу выйшаў. Увайшлі два казакі і зноў пачалі аглядаць наш багаж. Адзін з маіх шалікаў, у якім апынулася нейкая набіўка, быў разарваны ў надзеі знайсці сакрэтныя матэрыялы. Але гэта дало таксама мала падставаў для нашага абвінавачвання, як і ўсе астатнія рэчы багажу. Нашыя грошы, гадзіннікі, нажы і іншыя рэчы з кішэняў былі запатрабаваныя апасля.

Пакуль граф Біспінг перадаваў свае рэчы, так атрымалася, што я стаяў за спіной начальніка турмы, спакойна назіраючы за ім. Начальнік раптоўна павярнуўся і моцна ўдарыўся аб мяне. Я папрасіў прабачэння за тое, што выпадкова апынуўся на ягоным шляху

і адышоў назад. Але перапрашэнні, як і тлумачэнні, былі марныя. Начальнік увесь тросся ад злосці. Ягоны твар зрабіўся попельна-бледным, а з пакрытых пенай дрыжачых вуснаў, наколькі я мог здагадацца па раз'юшаных рухах, абрынуўся паток лаянкі, якая павінна была напоўніць жахам істоту, супраць якой была скіравана. Я маліў графа сказаць яму, што я быў цалкам невінаваты, не задумваў і не здзяйсняў ніякага злачынства, што я ангелец, зусім незнаёмы з роднай моваю начальніка, і ён адно марнуе сілы, абражаючы мяне гэтак люта.

Трэба сказаць, што пачуўшы гэта, начальнік цалкам змяніў манеры ў дачыненні да мяне. Далей нас аглядалі ўжо без вымоваў. Па завяршэнні граф паведаміў мне, што мы мусім заставацца ў турме, пакуль яны будуць праглядаць нашыя паперы, што, мажліва, зойме гадзінаў 5 ці 6, і што нас абавязкова вызваляць на наступны дзень.

Я прасіў яго даведацца ў начальніка пра прычыны майго арышту. Начальнік спаслаўся на поўнае няведанне сітуацыі, сказаўшы, што адзіным загадам было трымаць нас у бяспецы і па-асобку, і што я мушу ісці ў сваю камеру. Вартавы казак закінуў на плячо маю валізку, і я павінен быў ісці за ім.

Калі я зайшоў у камеру, то маё абаянне было атакаванае невыносным смуродам ад нечыстотаў, якія пакінуў пасля сябе папярэдні зняволены. Я знакамі паказаў казаку, каб гэта прыбралі. Але ён пахістаў галавой, нібыта кажучы, што гэта не ягоная справа, і выйшаў.

Пакуль я не пачуў, як ключ варочаецца ў дзвярах камеры і краты з засаўкамі вяртаюцца на свае месцы з суворым скрыгатам, я не разумеў да канца свайго становішча. І нават тады мне было складана ўсвядоміць яго. Вядома, словы графа аб тым, што мы будзем вызваленыя цягам некалькіх гадзінаў, які не ведаў што нас абодвух падманулі, не давалі мне адчуваць сябе вязнем ў поўнай ступені.

Пачалі апускацца вечаровыя цені, і тое слабае святло, што яшчэ заставалася, ледзьве патрапляла ў маю камеру. У ёй было толькі адно акно, вельмі высока ад падлогі, і ягоная ніжняя частка была закладзеная цэглай, а верхняя – забіта дошкамі. Па-сутнасці, толькі праз шчыліны ў некаторых з верхніх дошак можна было ўбачыць трохі блакітнага неба ці які-небудзь кавалак знешняга свету, ды і тое з цяжкасцямі нават удзень.

Правеўшы ў адзіноце каля дзвюх гадзінаў, я пачуў, як адчыняюцца краты і адмыкаюць мае дзверы, і ўбачыў іншага казака з брудным служкам, які паставіў на стол маю вячэру. Яна складалася з камяка

грубага хлеба і місы рэдкай і вельмі тлустай кашы, ад якой ішоў вельмі непрыемны пах. Які б я ні быў галодны, бо пасля сняданка не з'еў нічога за ўвесь дзень, я не мог дакрануцца да гэтай ежы.

Паспрабаваў дамагчыся, каб другі вартавы прыбраў нечыстоты, якія мяне абражалі, але поспех мой быў той жа, што і з першым. Ён толькі ўсміхнуўся і пахістаў галавой. Я паспрабаваў дамовіцца з ім яшчэ раз, калі ён прыйшоў недзе праз гадзіну, каб замкнуць мяне на ноч, але з тым самым вынікам. Хабар, без сумневаў, дапамог бы паразумецца, бо дзе знайсці расейскіх служачых, якія б не былі ва ўладзе хабарніцтва? Але тыя невялікія грошы, што былі са мной, у мяне ўжо адабралі. Я, відавочна, застаўся без аніякай дапамогі.

Падчас свайго апошняга візіту вартаўнік прынёс мне некалькі яблыкаў і грушаў, якія нейкія сябры графа Біспінга, ужо пачуўшы пра ягоны арышт, перадалі яму, і частку якіх ён ласкава аддаў мне. Калі б не гэтыя фрукты, мне давялося б перажыць вельмі цяжкую ноч. З удзячнасцю з'еў некалькі з іх, каб пазбыцца голаду. Астатнія трымаў каля носа, бо з дапамогаю цудоўнага водару фруктаў, мог у нейкай ступені супрацьстаяць жахліваму смуроду, якое распаўсюджвалася па камеры. Нечыстоты, пра якія я ўжо казаў, былі не адзіным, што мяне раздражняла. Калі я звярнуў увагу на ложак, то мой адчувальны нюх выявіў прысутнасць жудасных паразітаў. Па прычыне таго, што не мог праверыць стан бялізны, не рызыкнуў распранацца. На шчасце прыгадаў, што ў валізцы быў чысты ручнік. Дастаў яго і заслаў падушку. Даверыўшы сябе клопатам Яго, Адзінага, здольнага абараніць нас у любым выпрабаванні, загарнуўся ў вялікую сінюю дарожную коўдру і паспрабаваў заснуць.

Мой сон часта перапыняўся, як і можна было чакаць. Гукі розных гарадскіх гадзіннікаў таксама, як і турэмныя гукі, я чуў на працягу ночы. Няшчасны вязень у суседняй камеры гучна і жаласліва стагнаў. Чацвярых вартавых, якія хадзілі туды-сюды па калідоры з нашага боку, відавочна, раздражнялі бесперапынныя крыкі гэтага чалавека, і адзін з іх злосна ўдарыў тоўстым канцом мушкета па дзвярах камеры, каб той перастаў. Небарака некаторы час не выдаваў ані гуку, але ўрэшце ён больш не здолеў трываць і даў выхад сваім пачуццям ў чарговым жахлівым енку.

Каля 4-й гадзіны ранку першыя прамяні сонца пачалі праглядаць праз шчыліны забітага акна, і ў той жа час я пачуў, як вартавыя заступаюць на змену. Я падняўся недзе а 5-й гадзіне і марна шукаў ваду ці рукамыйнік. У камеры былі толькі два ложкі, два сталы, два

стулы і вялікая печка. Бялізна на ложках была грубая і агідна брудная. Я ўзрадаваўся, што не ляжаў на ёй. Матрацы былі набіты свіною шчэццю. У дзвярах маёй камеры была маленькая круглая адтуліна для назірання, праз якую, як толькі ўзышло сонца, на мяне пачалі глядзець вартаўнікі. Я дазволіў сабе, пакуль пераапранаўся, завесіць адтуліну мапай.

А 7-й гадзіне прыйшоў вартавы казак і знакам загадаў мне ісці за ім. Я ізноў папрасіў яго прыбраць нечыстоты, якія ён адмовіўся чапаць увечары, але ён ізноў пахістаў галавой. Тады я забраў іх сам, і паколькі ён, як здавалася, не быў супраць, паспяшаўся за ім і выкінуў усе праз акно ў праходзе. Калі я гэта рабіў, мне сапраўды зрабілася кепска на забаву ўсім вартавым.

Па вяртанні ў камеру адкрытае акно ў праходзе насупраць дзвярэй дазволіла мне ўбачыць брудны стан падлогі, якую, відавочна, не мылі і не мялі месяцамі. Вартавы выдаў мне маю норму вады для мыцця, а я скарыстаўся мажлівасцю, каб аддаць яму хлеб і кашу, якую ён прынёс увечары, пах якой цяпер зрабіўся невыносны.

Каля 9-й гадзіны я пачуў удар, які разбіў шкло на адтуліне для назірання, і чыйсьці голас спытаў мяне па-ангельску:

- Ці жадаеце Вы чаго-небудзь?

Я кінуўся да дзвярэй і ўбачыў як чалавек, які толькі што разбіў шкло, прапіхвае паперу і аловак у адтуліну, прапануючы напісаць пра тое, што мне патрэбна. Ён дадаў таксама па-ангельску:

- Вам прынясуць гарбату і хлеб. Вам лепей напісаць тэлеграму сябрам, і я дашлю яе.

Я паставіўся з недаверам да гэтых словаў і напісаў толькі кароткае паведамленне ангельскаму амбасадару ў Санкт-Пецярбург і майму бацьку ў Бон. Абяцаная тэлеграма, як я і чакаў, ніколі не была дастаўлена.

З таго, што я пазней даведаўся, можна зрабіць выснову, што гэта была звычайная цікавасць з боку кагосьці з турмы, хто жадаў болей даведацца пра мяне. Чалавек, якога яны абралі сваім агентам, які некалі быў афіцыянтам ў пастаялым двары ў Скарбара, ахвотна пагадзіўся выканаць заданне. Абяцанне пра ежу стрымалі, чаго не скажаш пра тэлеграмы. Мне ў хуткім часе прынеслі гарбаты, хлеба і каўбасы. Гэта паказала, што граф Біспінг памятаў пра мяне. Вязні, здаецца, маглі з дазволу начальніка набываць сабе гарбату і хлеб. Атрымаўшы такі дазвол, ен паклапаціўся і пра мяне. Найбольш



**Двор гродзенскай турмы, дзе ўтрымлівалі паўстанцаў.**
**З малюнка Н.Орды. 1860-я гг.**

я быў удзячны яму за своечасовасць дапамогі. Дзве шклянкі гарбаты мяне вельмі падбадзёрылі, а хлеб і каўбаса сталі смачным сняданкам.

Каля 11-й гадзіны дзверы маёй камеры адчыніліся, і ўжо знаёмы казак паказаў, каб я ішоў за ім. Ён прывёў мяне ў пакой, дзе за сталом сядзелі чацвёра сяброў камісіі. Побач стаялі дзве асобы, апранутыя ў чорнае. Адзін з іх быў польскі перакладчык, а другі быў габрэй, чыё валоданне ангельскай моваю, як меркавалася, было дастатковым, каб ён выступаў у якасці пасрэдніка ў перамовах паміж афіцэрамі і мною.

З гэтых афіцэраў складалася камісія, якая засядала штодня з 11-й гадзіны па 5-ю, каб апытваць не толькі затрыманых паўстанцаў, але і ўсіх, каго абвінавачвалі ці падазравалі ва ўдзеле ў паўстанні. З пяці афіцэраў трое належалі да імператарскай гвардыі. Гэта былі палкоўнік, які ўзначальваў камісію, капітан і малодшы афіцэр. Чацвёртым быў начальнік турмы. На пятым была форма, якой я раней ніколі не бачыў. Капітан размаўляў па-французску даволі свабодна, і таму, як мяркую, быў прызначаны весці допыт.

Ён паведаміў мне ветлівым тонам, што паколькі я з'яўляюся ангельцам, то яны мелі цяжкасці, каб адшукаць кагосьці, хто б ведаў ангельскую мову дастаткова добра і мог перакладаць ад майго імя. Пасля некаторых праблемаў яны адшукалі такога чалавека ў асобе настаўніка гродзенскай габрэйскай школы.

- Ці магу я даведацца, – спытаў я па-французску, - пра прычыны, па якіх я быў арыштаваны і прыведзены сюды для допыту?

- Інфармацыя супраць Вас, – адказаў ён, – была атрыманая ад чалавека, які нядаўна вярнуўся ад паўстанцаў і засведчыў, што Вас бачылі ў лясах чатыры або тры разы, што Вы размаўлялі з паўстанцамі, звязанымі з гэтым сведкам, а таксама што Вы пастаўлялі ім гарматы, мушкеты, шаблі, рэвальверы, адзенне і грошы.

- Абвінавачанне, сэр, цалкам памылковае. Я адмаўляю яго цалкам. Я ніколі не быў звязаны непасрэдна ці ўскосна ні з адным паўстанцам альбо групай паўстанцаў і не прыгадваю, каб калі-небудзь бачыў ці размаўляў з кім-небудзь, звязаным з паўстаннем. Калі я і размаўляў, то зусім не ведаў іх і іхніх намераў.

- Гэта мажліва, але мы маем іншае меркаванне. А пасля агляду, праведзенага ўчора ўвечары ў Верцялішках, у нас з'явіліся сур'ёзныя падставы для таго, каб лічыць прадстаўленую нам інфармацыю праўдзівай.

Манеры капітана паступова пачалі адрозніваццa ад тых ветлівых, якія ён выказваў напачатку. Калі я паўтарыў сваю адмову, ён запытаў:

- Што ж гэта азначае ў такім выпадку?

І паказаў маю пнеўматычную стрэльбу, якую казакі знайшлі ў маёнтку.

- Гэта пнеўматычная стрэльба цалкам нягодная ў сваім цяперашнім стане, бо згубленая загваздка. А без яе не спрацоўвае курок. Нават, калі б там была загваздка, яго трэба напампоўваць паветрам пасля кожных шасці стрэлаў, а гэта з'яўляецца цяжкім і складаным працэсам.

І я паспрабаваў растлумачыць спосаб напампоўвання афіцэрам, якія, відаць, не былі знаёмыя з ім. Напрыканцы запытаў:

- Як жа можна разглядаць гэту бяскрыўдную палку як зброю вайны?

Афіцэры шчыра прызналі, што падазрэнні адносна стрэльбы знятыя. Абвінавачванні, што грунтаваліся на гэтым, больш не прад'яўляліся.

- Але, што гэта, сэр?” – спытаў капітан, паказваючы дзве касы.

- Я не памятаю, – адказаў я, – каб бачыў іх калі-небудзь раней. Наколькі мне вядома, іх ужываюць для зразання каласоў.

- Так. – працягваў ён. – Яны бясспрэчна выкарыстоўваюцца дзеля гэтых мэтаў, але асмелюся запытаць, ці Вам вядома, што іх таксама называюць нажамі для забіцця вайскоўцаў? Іх знайшлі ў экіпажы Вашага сябра.

- Магу сцвярджаць, сэр, што іх не было ў экіпажы, калі нас затрымалі.

- Не. Але іх знайшлі ў маёнтку.

- Мы не наведвалі маёнтак ужо на працягу месяца альбо шасці тыдняў. Калі іх знайшлі ў экіпажы ў маёнтку, то мы не можам адказваць за гэта. Падчас нашых вандровак мы ніколі не карысталіся ніякімі іншымі экіпажамі, але толькі тым, у якім ехалі ўчора.

Капітан устрымаўся ад каментараў наконт косаў, упэўнены, відаць, што, не здолее выцягнуць з іх большай карысці, чым з маёй пнеўматычнай стрэльбы.

На самой справе, як я пазней даведаўся, гэтыя косы былі знойдзеныя прымацаванымі да сваіх дзяржальняў у павозцы, што толькі вярнулася з сенакосу. Казакі, не здолеўшы адшукаць нешта акрамя іх і маёй пнеўматычнай стрэльбы, забралі ўсё гэта ў надзеі пераўтварыць іх у важкія сведчанні супраць мяне.

Сябры камісіі ніколькі не збянтэжыліся з-за поўнага правалу іх першай спробы абвінаваціць мяне. Трохі панурым тонам капітан загадаў здаць мае паперы габрэйскаму перакладчыку для праверкі. Паперы дасталі з вялікай скрыні, якая належала мне ў маёнтку, якую казакі ўзламалі і спустошылі. Паперы ляжалі на стале ў беспарадку. Першай, за якую ўхапіўся габрэй, быў ліст майго знаёмага доктара прыродазнаўчых навук Сэрманса. Пакуль габрэй разглядаў яго, я заўважыў сярод іншых папераў мае рэкамендацыйныя лісты. Дастаўшы іх, прасіў афіцэраў паглядзець. Я сказаў, што яны пацвердзяць праўдзівасць майго адказу на пытанне начальніка турмы, якое той задаў, калі мяне даставілі ў турму.

Гаворка ішла пра тое што я быў выпускніком Оксфардскага універсітэту і святаром на службе Царквы Англіі. Афіцэры ўважліва паглядзелі на іх і даследавалі прыкладзеныя да іх біскупскія пячаткі. Але зразумець сэнс напісанага ніяк не маглі. Для іх гэта аказалася

не лягчэй, чым расшыфраваць егіпецкія іерогліфы. Тым не менш яны нібыта адчулі ўсю важнасць таямнічых дакументаў і адклалі іх у бок з найвялікшай сур'ёзнасцю. Габрэй разбіраўся не лепш за іх з маімі паперамі. Ён быў даволі збянтэжаны, што было нядзіўна, бо мой почырк быў не вельмі чытальны, а тэма працы, нават калі габрэй зразумеў словы, была цалкам нязвыклая для яго. Пакруціўшы іх туды-сюды каля гадзіны, падчас чаго сябры камісіі чыталі нейкія лісты, якія, відаць, належалі графу Біспінгу, ён кінуў безнадзейныя намаганні што-небудзь зрабіць з імі.

Габрэй звярнуўся да маіх лістоў, хутка прагледзеў большасць з іх і спыняўся толькі, каб запытацца, калі ягонаму воку трапляліся словы "расейскі" ці "польскі".

Але два лісты мяне крыху ўсхвалявалі, хоць і не задаволілі камісію. Першым быў рэкамендацыйны ліст, які мой бацька даў мне для свайго сябра ў Берліне, і які па прычыне кароткага знаходжання ў гэтым горадзе па дарозе ў Польшчу я не перадаў адрасату. Я ўсё яшчэ трымаў гэты ліст на выпадак, калі буду мець мажлівасць выкарыстаць яго на зваротным шляху. Пячатка была яшчэ цэлая, і па загаду афіцэраў я адкрыў ліст. Габрэй мог узяць з яго мала інфармацыі. Насамрэч, ягонага валодання мовай было недастаткова, каб прачытаць хаця б адзін сказ без дапамогі. Але пры дапамозе маёй слабай нямецкай мовы ён здолеў прасунуцца наперад.

Урэшце ён запнуўся на сказе, у якім мой бацька ўжыў словы "няшчасная Польшча". Ён ускінуў рукі ўгору, бо палічыў, што знайшоў вялікую здабычу, і падбег да афіцэраў з лістом, паказваючы сваім брудным пальцам на фразу, якая нібыта павінна была цалкам знішчыць мяне. Афіцэры выглядалі таксама ўсхваляванымі, як і габрэй, гучна перамаўляючыся паміж сабой і актыўна жэстыкулюючы. Урэшце капітан падняўся са свайго месца і, ідучы праз пакой у накірунку да майго стала, пачаў пытаць мяне пра гэты ліст. Я не мог сказаць яму болей, чым тое, што ўтрымліваў сам ліст.

- Якое права, сэр, меў Ваш бацька называць Польшчу няшчаснай?

- Я лічу, сэр, фразу звычайнай. - адказаў я. – Вазьму на сябе адказнасць заявіць, што яе можна знайсці ў кожнай французскай ці ангельскай газеце, якая піша пра Польшчу. Мой бацька нічога не кажа ў гэтым лісце аб тым, што зрабіла Польшчу няшчаснай. Гэта маглі быць памылкі саміх палякаў ці памылкі тых, хто ёй кіруе. У лісце толькі канстатуецца факт няшчаснага становішча Польшчы, факт,

які, мяркую, ніхто не возьмецца аспрэчваць.

- Так, няма сумневу, – сказаў капітан, прамармытаўшы сам сабе пад нос, – што палякі – тупыя дурні, і, вядома, зрабілі сваю краіну няшчаснай.

Але яму не давялося доўга пакутаваць, не маючы што сказаць. Габрэй пачаў расчытваць мой наступны ліст, і выхапіўшы слова “рускія” (Roossians) у першым сказе, ён закрычаў: “Ват іс дыс, Сэір?” (анг. скажона “Што гэта, сэр?”).

Я паспрабаваў перакласці і гэта. Мушу прызнацца, што нерваваўся, калі перадаваў поўны сэнс словаў майго сябра. Словы былі наступныя: “Мы былі насамрэч вельмі радыя пачуць цябе зноў, бо так шмат часу прайшло пасля твайго апошняга ліста, што мы пачалі думаць, што цябе забілі рускія...”

Гэты сказ, відаць было, па паводзінах габрэя, вырашыў мой лёс. Далейшае высвятленне не мела сэнсу. Ён кінуўся да камісіі і прывёў назад таго, хто мяне апытваў. Капітан быў не ў вельмі добрым настроі.

- Цяпер даволі ясна, што Вашыя сябры меркавалі, што Вы далучыцеся да паўстанцаў, і што, калі мы Вас схопім, то заб’ем. Бачыце, сэр, усе ангельцы лічаць нас варварамі (*barbares*).

- Калі б я падзяляў гэта меркаванне, – адказаў я, – наўрад ці прыехаў бы ў вашу краіну. Але дазвольце мне, сэр, скончыць сказ, бо Вам перадалі сэнс толькі першай яго часткі. Працяг наступны: “...але мы радыя, што памыляліся, і ты сапраўды добра бавіш час”.

Афіцэр ізноў выглядаў засмучаным і страшна расчараваным тым, што мае лісты не дапамаглі абвінаваціць мяне ў злачынстве.

Пасля абмену думкамі з калегамі ён сказаў мне, што магу вяртацца ў камеру. Тады я папрасіў дазволу напісаць свайму бацьку ў Бон, ангельскаму амбасадару ў Санкт-Пецярбург і ангельскаму консулу ў Варшаву. Ён сказаў, што перадасць маё пажаданне начальніку. Пасля чаго я прасіў яго спытаць дазволу для мяне звязацца з гэтымі асобамі праз тэлеграф, бо мне патрабавалася неадкладная дапамога. Капітан пайшоў да начальніка і праз некалькі хвілін вярнуўся і заявіў, што ніякая сувязь мне не дазволеная ні з кім за межамі гэтай турмы:

- Вы не можаце ні пісаць, ні тэлеграфаваць ні да каго.

Гэтыя словы былі вымаўлены строгім і ўладным тонам. Я нічога не сказаў, і як толькі з’явіўся вартавы казак, адкланяўся перад камісіяй і пайшоў з іх кабінета.

Пасля вяртання ў камеру я адчуваў сябе вельмі прыгнечаным, што не было дзіўным. Відавочна, маё становішча было вельмі небяспечным. Не тое, каб я зрабіў нешта такое, што магло б у вачах якога-небудзь незалежнага суддзі скампраметаваць мяне перад расейскім урадам, але было зразумела, што на мяне глядзелі, як на ўдзельніка паўстання. Мой перакладчык рабіў усё, каб мне пашкодзіць. Ён не толькі не быў здольны правільна перакласці самыя простыя ангельскія фразы, але, насамрэч, альбо пад уздзеяннем сваёй асабістай перадузятасці, альбо па загаду перайначваў супраць мяне кожны сказ, які можна было інтэрпрэтаваць.

Цалкам зразумела, што сябры камісіі таксама вырашылі, што я вінаваты, не зважаючы на мае пастаянныя сцвярджэнні аб невінаватасці. Яны намагаліся з упартасцю, якая выглядала як дзіцячая і недарэчная (калі б не магчымыя сур’ёзныя наступствы), адшукаць доказы злачынства ў бяскрыўдных словах і рэчах. І, нарэшце, жаданне пазбавіць мяне ўсіх сродкаў сувязі з сям’ёй і прадстаўнікамі брытанскага ураду, чые абавязкі прымусілі б іх дапамагаць мне, усё гэта ўказвала на небяспеку. Я не мог не прыгадаць жахлівыя гісторыі пра дэспатычную і жорсткую несправядлівасць, якія я чуў раней. Зняволенне, высылка, бязлітасная катарга, гвалтоўная і раптоўная смерць узнікалі ў маіх уяўленнях.

Мяне не хваляваў сам факт гвалтоўнага затрымання. Такое затрыманне было не прадказальнай падзеяй, якая магла здарыцца ў любы час. Вядома, гэта нельга аддзяліць ад тых, якія склаліся краіне, падпарадкаванай вайсковаму закону, як цяпер Літва. Але закон, нават вайсковы, які здзяйсняецца людзьмі, чыёй прафесіяй ёсць вайна, гэта усё ж закон. Ён аберагае святасць тых вялікіх і нязменных прынцыпаў, на якіх паўсюдна трымаецца праўда і парадак шчасліваe Божае волі. Я ніколі не разумеў, чаму тэрмін “вайсковы закон” (не думаю, што недзе гэта адбываецца па-іншаму) – гэта толькі іншая назва для вайсковай тыраніі. І ўсе ж, якая тыранія можа быць больш жорсткай і нястрыманай, чым тая, ад якой я цярпеў, знаходзячыся ў руках камісіі? І чым гэта магло скончыцца?

Я мог знайсці толькі адзін адказ на гэтае ды іншыя падобныя пытанні. Гэта адказ, які дае Слова Божае. Я кажу гэта не ў духу самахвальства ці самаўпэўненасці, але са шчырай і сціплай удзячнасцю. На працягу доўгага часу я старанна выконваў свой абавязак па штодзённым чытанні Псалмоў і Святога Пісання па календары нашага малітоўніка і ў хуткім часе зразумеў вагу гэтага блаславення.

Другая і трэцяя главы Евангелля ад Яна былі ўрокамі на вечаровай малітве для 8 верасня. Калі я чытаў іх у той вечар у слабым турэмным святле, я адчуваў, што гатовы паўтараць кожную літару малітвы прарока за вызваленне ад ягонага няшчасця: “Я знаходжуся па-за Тваім позіркам... Калі мая душа аслабела ўва мне, я памятаў Бога”. І, калі я пасля гэтага запісу звяртаўся да Кнігі Псалмоў, мае ўласныя пачуцці маглі знайсці найбольш праўдзівае і выразнае адлюстраванне ў двух вершах, якія ў адзіночным паўтарэнні складаюць два паслядоўныя псалмы (42 і 43) для аднаго дня месяца: “Чаму ты такая пакутлівая, о мая душа? І чаму ты такая неспакойная ўва мне? Ускладзі спадзяванні на Бога, бо я буду па гэты час дзякаваць Яму, які ёсць дапамогаю майго пакою і маім Богам”.

З гэтай упэўненасцю ў вуснах і ў сэрцы, узмоцненымі шчырай малітвы, я адчуваў падтрымку і супакой і спакойна глядзеў у будучыню.

Плынь маіх думак перапыніла з’яўленне вартавога і бруднага зашмальцаванага кухара з маім абедам. Гэты чалавек быў больш падобны да качагара, чым да работніка кухні. Ён прынес суп і мяса. Мяса было пераваранае і разарванае, а суп – даволі халодны. Пакаштаваўшы яго, я беспамылкова адчуў смурод учорашняе кашы і, нават пакутуючы з голаду, не здолеў з’есці нічога акрамя кавалка чорнага хлеба, які прынеслі разам з супам.

Час вечаровага адпачынку прайшоў пакутліва. Я спрабаваў углядацца праз шчыліны ў дошках на акне і, здолеўшы пашырыць адну з адтулінаў, быў уражаны выглядам маладога чалавека, якога ўтрымлівалі ў камеры на першым паверсе супрацьлеглага будынка. Я ўжо бачыў яго, калі выходзіў з камеры ранкам. І тады, і кожны раз апасля пакуль я быў у турме, я бачыў яго або за чытаннем кнігі, як мяркую, рэлігійнага зместу, якую ён трымаў у руцэ, або ўкленчанага, за малітваю.

Камера графа Біспінга знаходзілася якраз пад маёй. Час ад часу я чуў, як ён насвістваў, і спадзяваўся, што мы зможам паразмаўляць. Я паспрабаваў гэта зрабіць, і, як пазней даведаўся, ён мяне чуў, але мудра ўстрымаўся ад адказу, каб нас не падслухалі і не абвінавацілі ў парушэнні турэмных правілаў. Недзе а 7-й гадзіне турэмны вартаўнік прынес мне яшчэ адзін доказ таго, што граф не забыўся пра мяне. Доказ меў выгляд гарбаты і печыва, якія былі вельмі дарэчы. Не прайшло і гадзіны, як засаўкі і краты за маімі дзвярыма зачыніліся, паведаміўшы мне, што пачалася другая ноч майго зняволення.

Пасля бяссоннай ночы, якая стала такой дзякуючы крыкам і стогнам зняволенага з суседняй камеры, я ўстаў паміж 4-й і 5-й гадзінамі. Нягледзячы на тое, што я глядзеў праз шчыліны паміж дошак, здавалася, што я ніколі не назіраў такога шыкоўнага світанку, які залаціў вярхі далёкіх узгоркаў. Малады чалавек у камеры першага паверха насупраць маёй ужо рухаўся. Я зноў пабачыў яго занятым сваёй справай.

Каля 10-й гадзіны раніцы з'явіўся высокі сяржант імператарскай гвардыі і зрабіў знак, каб я ішоў за ім. Я падпарадкаваўся, і мяне прывялі ў той пакой, дзе дапытвалі ўчора, і ў якім ізноў сабраліся камісары. Капітан, які раней адыгрываў галоўную ролю ў допыце, ізноў выйшаў наперад і запытаў, ці не маю я якіх патрэбаў. Я паўтарыў просьбу, у якой мне раней адмовілі, што я жадаю напісаць да бацькі, да ангельскага амбасадара і ангельскага консула.

- Вашую просьбу, – сказаў ён, – задаволілі ў той ступені, што Вы можаце напісаць лісты. Але Вы не павінны запячатваць іх. Яны будуць перададзеныя губернатару, і ён будзе вырашаць, што з імі рабіць.

- Ці магу я даць тэлеграму, сэр? Мне неабходна атрымаць дапамогу як мага хутчэй і не заставацца ў гэтым месцы болей, чым неабходна.

- Пошта даставіць тое, што Вы хацелі, дастаткова хутка. Учора быў знойдзенны Ваш дзённік, які, магчыма, дасць нам шмат інфармацыі, і вы мусіце застацца тут, пакуль мы будзем яго вывучаць.

Гэтая інфармацыя, трэба прызнацца, не вельмі мяне ўзрадавала. Не тое каб я баяўся, што там адшукаюць нешта шкоднае для мяне ці майго сябра. Але я рабіў штодзённыя нататкі вельмі дробным нечытабельным почыркам. Падумалася, што праваслаўныя каляды наступяць раней, чым габрэй скончыць пераклад усяго дзённіка. Я пажадаў яму атрымаць задавальненне ад пастаўленай перад ім задачы, тым больш што там было некалькі грубых, раскіданых па ўсім тэксце замалёвак, прысвечаных ягоным братам, што магло здзівіць і раззлаваць яго.

Што будзе з перакладам дзённіка, то няхай і будзе. Аднак, у мяне з'явілася ўпэўненасць, што з часу майго першага допыту нешта змянілася. Адбыліся вялікія змены ў стаўленні камісараў да мяне. Што адбылося, я не мог, як і раней, нават здагадацца. Але я быў вельмі ўдзячны скарыстацца з магчымасці, так нечакана мне дадзенай, а менавіта магчымасці напісаць лісты. Адразу ж сеў і ў прысутнасці

камісараў напісаў да свайго бацькі, лорда Напіера і палкоўніка Стаунтана. Калі я перадаваў лісты кіраўніку камісіі, то па-французску папрасіў яго садзейнічаць, каб перадалі як найхутчэй.

- Размаўляйце са мной па-польску, – сказаў ён. – Я разумею гэтую мову таксама.

- На самой справе, сэр, я не магу нават і двух словаў звязаць па-польску. Ніколі не спрабаваў вывучыць гэтай мовы.

- Аднак, сэр, нам казалі, што Вы размаўляеце па-польску так добра як паляк.

- Хто гэта сказаў?

- Сведка, які даў паказанні супраць Вас.

- Рады пачуць гэта, бо, калі ён гаворыць такую відавочную хлусню на самым пачатку сваёй гісторыі, то, мяркую, будзе нескладана давесці нікчэмнасць усіх яго паказанняў.

Сябры камісіі, відавочна, паставіліся з недаверам да майго сцвярджэння. Перакладчык-габрэй рабіў ўсе мажлівае, каб зацягнуць мяне ў пастку, і каб я выдаў нешта, што магло б давесці адваротнае, ці хаця б даць мажлівасць сумнявацца ў маім шматразовым адмаўленні ў веданні польскай мовы. Але марна. Здавалася, што афіцэраў злавала тое, што я працягваў дэманстраваць неразуменне, і, калі б я лепей валодаў французскай ці нямецкай моваю, то, несумненна, выказаў бы сваё стаўленне да іх паводзінаў. Але, мажліва, для мяне было якраз добра, што ў той момант быў вымушаны маўчаць.

Па завяршэнні амаль трох гадзін, праведзеных у гэтых марных (а для іх ганебных) намаганнях прымусіць мяне супярэчыць самому сабе, мяне адправілі ў камеру. Перад тым, як пакінуць кабінет, я прасіў дазволу атрымаць чыстую пасцельную бялізну і пашпацыраваць дзесяць хвілін ці чвэрць гадзіны ў двары. Абедзве просьбы былі задаволеныя, але было дададзена, што калі я буду з кім-небудзь размаўляць падчас шпацыру, то ён будзе забаронены.

Пасля майго вяртання ў камеру прынеслі абед такі ж нясмачны, як той, ад якога я быў вымушаны адмовіцца ў папярэдні дзень. Як і раней, я аддаў яго казаку-наглядчыку, які праглынуў яго з відавочнай ахвотай.

Праз забітае дошкамі акно я назіраў за зняволеным з супрацьлеглай камеры. Ён па-ранейшаму быў заняты сваёй кнігай. Здавалася нават, што ён заставаўся ў той самай позе, што раніцай, калі

я бачыў яго апошнім разам. Я таксама заўважыў нямецкага слугу Біспінга, які шпацыраваў у двары. Здолеўшы праціснуць сваю хустку праз шчыліну, я скінуў яму свой знак. Ён відавочна здагадаўся, хто спрабаваў наладзіць з ім стасункі ў такі спосаб, і падняў сваю кепку, падаўшы выразны знак таго, што ён быў настолькі няшчасны, наколькі гэта было ўвогуле магчыма. У хуткім часе пасля гэтага прыйшоў наглядчык і, знакамі паклікаўшы мяне на шпацыр, паказаў частку двара, уздоўж якой я мог зрабіць пару крокаў туды-сюды. Я зноў заўважыў нямецкага слугу, але памятаючы сваё абяцанне маўчаць, быў абавязаны не звяртаць на яго ўвагі. Закратаваныя вокны камераў, што выходзілі ў двор, былі поўныя твараў людзей, што імкнуліся паглядзець праз іх, як малпы з жалезнай клеткі ў заасадзе. Многія з іх забаўляліся тым, што выскалялі зубы, ківалі галавой і падміргвалі мне.

Можна здагадацца, што я ўстрымаўся ад любых кантактаў з няшчаснымі хлопцамі, каб не ўцягнуць іх у новыя непрыемнасці. Я толькі жадаў, каб ў іх было болей месца. Параўноўваючы памеры і іх вокнаў з маім, як мяркую, у некаторыя камеры, разлічаныя на 3 – 4 чалавекі было ўціснута не менш 13 – 15 чалавек. Пазней я даведаўся, што ў той час у нашай кляштарнай турме ўтрымлівалася каля чатырох ці пяці сотняў зняволеных, у т.л. некалькі жанчынаў, якія змяшчаліся ў камеры на маім паверсе.

Увечары мне, як звычайна, прынеслі гарбаты, якая мяне падмацавала. Гарбата і чыстая бялізна, што была пасцеленая падчас маёй нядоўгай адсутнасці, настроілі мяне на значна больш камфортную ноч, чым папярэдняя. Але мой няшчасны сусед працягваў непакоіць сваімі стогнамі.

Наступным ранкам (чацвер, 10 верасня) паміж 8-й і 9-й гадзінамі начальнік турмы здзівіў мяне сваім з’яўленнем у камеры і паведамленнем аб тым, што я хутка пакіну яе. Ён загадаў мне ісці за ім ў ягоны пакой, дзе вярнуў мне гадзіннік і грошы, а таксама іншыя рэчы, якія я аддаў пры паступленні. З імі я вярнуўся ў камеру.

Сярод таго, што мне вярнулі была пляшка віскі, з якой я наліў наглядчыку да ягонай вялікай радасці, і каб выказаць сваю ўдзячнасць, ён вывеў мяне ў калідор і прапанаваў паглядзець некаторыя іншыя камеры. У адной з іх паблізу ад мяне я пабачыў джэнтльмена, чыю бесклапотнасць я прыгадваў у папярэдняй частцы, які казаў мне, што па ягоным меркаванні яго вышлюць у Сібір. Баюся, што ўжо пасля гэтага ён ужо даведаўся на сваё няшчасце, а менавіта пра тое,

што да высылкі была дададзена яшчэ цяжкая праца ў шахтах. У тым жа калідоры я на секунду ўбачыў некаторых зняволеных жанчынаў.

У іншым калідоры камеры аддзяляліся адна ад адной толькі драўлянымі перагародкамі. Тут пастаянна гаманілі іх няшчасныя абітальнікі. Вяртаючыся, я зірнуў на майго няшчаснага суседа, чые начныя стогны было так цяжка чуць. Я не ведаў дакладнай прычыны ягонага зняволення, але яно доўжылася ўжо тры месяцы.

Ужо было апоўдні, і я пачаў думаць, што загад аб маім вызваленні быў адменены, калі той самы высокі сяржант, які наведваў мяне раней, прыйшоў і знакамі паклікаў за сабой. Ён прывёў мяне да пакою, у якім адбываўся мой допыт два папярэднія дні. Там капітан, які мяне дапытваў, паведаміў, што я буду пераведзены ў пакой у доме начальніка паліцыі. Начальнік з'явіўся ў той самы момант і паведаміўшы, што ўсё гатова, аддаў некалькі загадаў датычна перавозкі маіх рэчаў. Мы выехалі з турмы разам на ягоных дрожках.

Турма, якую я такім чынам пакінуў, была лепшай з трох у Гродне, прызначанай, як мне казалі, для палітычных злачынцаў вышэйшага саслоўя. Я ніколі не быў у дзвюх іншых, але, паводле чалавека, якога ўтрымлівалі ў адной з іх, былой царкве (у мяне былі ўсе падставы давяраць майму інфарматару), я даведаўся, што там у аніводнай частцы будынку не было асобных памяшканняў, затрыманым давалі салому замест ложка, яны былі напханыя туды як свінні ў хляве, і нікому не дазвалялася нават на кароткі час выходзіць.

## Вызваленне з турмы. Наступныя падзеі. Ад'езд з рускай Польшчы.

На шляху з турмы мы заехалі ў дом губернатара генерал-маёра Скварцова. Пасля таго, як начальнік паліцыі прадставіў мяне, я выказаў па-французску сваё здзіўленне наконт таго, што са мной некалькі дзён абыходзіліся як са злачынцам, хаця я ні ў чым не вінаваты. Ён адказаў нешта пра неабходнасць здзейсняць меры перасцярогі, і, відавочна, жадаючы змяніць тэму размовы, раптоўна сказаў:

- Зараз у Гродна знаходзяцца тры ангельцы.

- Арыштаваныя ці вольныя? – запытаўся я ў адказ.

- Не магу сказаць, – адказаў губернатар.

Затым ён узяў рускую рэгістрацыйную кнігу і зачытаў мне імёны

гэтых трох ангельцаў. Яны гучалі, як “Клэк”, “Бэіэкс” і “Дуіенаў”. Апошняе з іх прагучала так падобна да ангельскага “Do you know?” (“Вы ведаеце?”), на што я, забыўшыся, што губернатар не ведае ангельскай мовы, адказаў па-ангельску: “Не, я іх не ведаю”.

Я хутка зразумеў, што мы кажам напоперак адзін аднаму, і, марна паспрабаваўшы разабраць рускія літары, якімі былі напісаны імёны ў рэгістрацыйнай кнізе, сказаў па-французску:

- Не, сэр, я не магу пазнаць ніводнага з імёнаў маіх суайчыннікаў.

Ён падаваўся задаволеным тым, што я, па меншай меры гэтым разам, кажу праўду, і дадаў, што начальнік паліцыі ласкава прапанаваў прыняць мяне ў сваім доме, дзе я атрымаю ўсё неабходнае, аднак, мне будзе забаронена выходзіць у горад. Ён запэўніў мяне, што за гэтым выключэннем маё прыжыванне будзе такім жа камфартабельным як ў гатэлі.

- Як доўга я мушу заставацца там? – запытаўся я.

- Пакуль вашая справа не будзе вывучаная, – быў адказ губернатара. - Мы жадаем упэўніцца, ці не хадзілі Вы ў лясы, хаця і не са зброяй, але, мажліва, дзеля цікаўнасці.

Я яшчэ раз паўтарыў, тое, што неаднаразова казаў сябрам камісіі, што я ніколі свядома не наведваў ніякіх інсургентаў ні ў лясах, ні дзенебудзь яшчэ.

Пасля гэтага я запытаўся у яго пра свае тры лісты, якія напісаў у прысутнасці камісіі, і якія яна абяцалі перадаць. Ён запэўніў, што нічога пра іх не ведае. Я не мог зразумець гэтай абуральнай супярэчнасці! Альбо сябры камісіі, альбо губернатар мяне падманвалі, альбо мела месца недаравальная затрымка ў перасылцы лістоў. Прайшло 24 гадзіны з таго моманту, як я перадаў іх у рукі кіраўніка камісіі.

Я хацеў разгадаць гэтую таямніцу, а таксама высветліць, кім былі тыя тры ангельскія госці, якія так раптоўна з’явіліся ў Гродне. Я не мог не звязаць у сваіх думках іх прыбыццё з маім вызваленнем з турмы, і мне вельмі хацелася іх пабачыць.

Калі мы зноў паехалі ў дрожках з начальнікам паліцыі, я паспрабаваў паразмаўляць з ім на гэтую тэму, але ён быў такі ж нямы, як і губернатар. Мы пад’ехалі да яго дома каля 3-й гадзіны апоўдні, і ён паказаў мне мой пакой наверсе, у якім былі толькі перасовачная скрыня і дзве вялікія бутэлькі з воцатам. Там не было ні крэсла, ні стала, ні (на той момант) ложка.



**У XIX - пачатку XX ст. у былым палацы А.Тызэнгаўза знаходзілася рэзідэнцыя губернатара.**

Пасля таго, як я хвілін дзесяць пасядзеў там адзін, да мяне прыйшла думка, што я магу знайсці знаёмых у Гродне, якія маглі б тэлеграфаваць у Бон, Санкт-Пецярбург і Варшаву. Напісаўшы пра гэта на кавалку паперы, я падышоў да акна ў надзеі пабачыць кагосьці знаёмага. Я нядоўга там стаяў, калі пабачыў слугу аднаго са знаёмых, які ішоў адзін па вуліцы. Ён пазнаў мяне, калі я яго паклікаў, падабраў кінутую мной запіску, і пайшоў.

З гэтага нічога не атрымалася, пра што я здагадаўся, калі назаўтра пабачыў, як гэты слуга прайшоў, не зважаючы на мяне. Сапраўды, як пазней даведаўся, польскі джэнтльмен, да якога трапіла паведамленне, пабаяўся скампраметаваць сябе выкананнем маёй просьбы. Копія кожнай тэлеграмы дасылалася губернатару яшчэ да таго, як яе адсылалі, і той джэнтэльмен, як мяркую, хацеў пазбегнуць допытаў, якія не прымусілі б сябе чакаць.

У 4-ы гадзіны начальнік паліцыі зайшоў у мой пакой і абвясціў пра абед. Я з радасцю пайшоў за ім у сталовую, і, канешне, чакаў, што ён сядзе за стол. Але ён папрасіў прабачэння, сказаўшы, што ў яго сёння няма апетыту. Насамрэч, я думаю, што ён ужо паабедаў, як патрабуецца ў скаромны дзень (якім той дзень і быў) і дазволіў мне з'есці рэшткі. Я добра бачыў месца, дзе ён сядзеў і крошкі ад хлеба, якімі ўсё яшчэ быў засыпаны не вельмі чысты абрус. Сярод страваў на стале былі вараны шчупак, смажаная плотка і сыравялены селядзец. Пасля жахлівай ежы, якую мне прапаноўвалі апошнія тры дні, яны сталі самымі пажаданымі стравамі. Перада мною таксама стаяла бутэлька віскі, з якой начальнік прымушаў мяне наліваць сабе значна часцей, чым я хацеў. Пасля пары асцярожных агульных пытанняў,

якімі ён, несумненна, спрабаваў падрыхтаваць глебу да менш стрыманай размовы, начальнік запытаўся:

- Вы ведаеце каго-небудзь з Цэнтральнага камітэту тут ў Гродне?

Меркавалася, што Цэнтральныя камітэты існавалі ў вялікіх гарадах кожнага з ахопленых паўстаннем раёнаў і з'яўляліся непасрэднымі агентамі Нацыянальнага ураду, які быў кіруючым органам паўстанцаў. Майстэрства, з якім гэтыя камітэты паспяхова пазбягалі арыштаў рускімі ўладамі, сапраўды, здзіўляла. Начальнік хітраваў, каб прымусіць мяне прызнаць сваё знаёмства з паўстанцамі.

- Адкуль мне, – адказаў я, – чужынцу ведаць штосьці пра людзей, якіх вы, з усімі мажлівасцямі імператарскага ураду, марна спрабуеце знайсці многія месяцы і гады? Вы самі ведаеце каго-небудзь з іх?

- Так, я ведаю. – адказаў ён. – Усе дурні ў Польшчы ў Камітэце, і найвялікшы дурань на чале іх.

Пабачыўшы, што ён нічога не можа з мяне ўзяць як з інфарматара, старшыня сказаў, што ён звычайна заўсёды ідзе паспаць перад тым, як ехаць на чыгуначную станцыю, каб сустрэць позні цягнік з Вільні. Ён прапанаваў мне пайсці ў свой пакой, а сам пайшоў у свой. Перад тым, як выйсці з сталовай ён перажагнаўся і схіліўся з глыбокай пашанай перад абразам святога Мікалая, які вісеў у куце. Потым мы разам падняліся па сходах. Я убачыў, што ў маім пакоі паставілі ложак і заслалі яго. Але пры бліжэйшым аглядзе аказалася, што там кішэлі клапы.

А 8-й увечары я быў здзіўлены прыходам начальніка ў мой пакой. Разам з ім прыйшлі тры высокія жаўнеры, узброеныя вінтоўкамі з прымацаванымі штыкамі. Ён сказаў, што яны застануцца ў маім пакоі ў якасці варты.

- Гэтага не можа быць, – сказаў я з выразам моцнага пратэсту.

- Гэта загад губернатара, – быў адказ.

"Дзіўны спосаб, – падумаў я, – абраў губернатар, каб забяспечыць мне ў доме начальніка такі ж камфорт, які б я меў у гатэлі".

Звярнуўшыся да начальніка, я сказаў:

- Гэты пакой недастаткова вялікі, каб змясціць тут хоць бы яшчэ аднаго чалавека апроч мяне. Калі ж тут будуць яшчэ тры чалавекі, такія як гэтыя, то лепей бы я заставаўся ў турме. Якая неабходнасць ім заставацца ў пакоі? Тут двое дзвярэй. Чаму не пакінуць аднаго з вартаўнікоў за аднымі дзвярыма і дваіх за іншымі? І, калі яны

будуць выконваць свае абавязкі, я не здолею. Ці Вы мяркуеце, што я магу ўцячы праз акно? Але нават, калі я выскачу на вуліцу і не зламаю пры гэтым шыю, то, як я пайду далей? Вы ведаеце, што я не магу выйсці з гораду без пашпарта, які Вы забралі ў мяне? Я таксама не ведаю ні рускай, ні польскай моваў, і ніхто з рускіх ці палякаў не дапаможа мне, нават калі пажадае.

Гэтымі і іншымі падобнымі аргументамі я ціснуў на начальніка як мог. Праз некаторы час вельмі неахвотна ён паддаўся і размясціў варту па-за межамі пакою. Але я чуў моцнае дыханне каля адтуліны для ключа і не сумняваўся, што яны беспераыпынна сачылі за маімі рухамі праз гэтую дзіру. Прайсці ў іншую частку дома без іх кампаніі было немажліва. Нават, калі я пайшоў наступным ранкам у двор, адзін з вартаўнікоў ішоў наперадзе, а другі за мной. Абодва чакалі, каб правесці мяне назад у мой пакой.

Такім чынам, дабрыня, якую так падкрэслівалі падчас вызвалення мяне з турмы, была падманам. Маё цяперашняе месца жыхарства на самой праве заставалася сапраўднай турмой. Але, слава Госпаду! Гадзіна вызвалення была блізка.

У наступны дзень у пятніцу было вялікае свята, мяркую, чарговая гадавіна каранацыі імператара. З ранку я назіраў кампаніі добра апранутых людзей, якія ішлі ў цэрквы, а таксама працу жыхароў нашай вуліцы па аздабленні і ілюмінацыі сваіх дамоў. Праз адкрытае акно я працягваў напружана шукаць у натоўпе якога-небудзь знаёмага чалавека, якому мог даручыць перадаць маю даўно падрыхтаваную тэлеграму. Але нікога не знаходзіў.

Праз некаторы час я ўбачыў, як начальнік паліцыі вяртаецца дахаты ў сваёй параднай форме ў кампаніі трох замежнікаў падобных на маіх суайчыннікаў. Двое з іх неслі ў руках вялікія букеты, а начальнік нёс трэці. Я пачуў, што каля ўвахода ў двор ён сказаў аднаму з іх на сваёй ламанай ангельскай:

- Сюды, калі ласка.

Маё сэрца выскачыла ад радасці. Я паспяшаўся ад вакна да дзвярэй, дзе вартавы спыніў бы мяне, калі б змог. Але ў гэты момант падышоў начальнік і сказаў:

- Ангельцы ўнізе.

- Магу я падысці да іх? – адразу ж запытаў я, і, атрымаўшы дазвол, хутка пабег ўніз па сходах, каб з радасцю пацісінуць сяброўскія рукі маіх дарагіх суайчыннікаў.

Яны былі першымі, якіх я пабачыў болей чым за 6 месяцаў. Толькі адно гэта напоўніла радасцю маё сэрца. Як жа апісаць маю дадатковую радасць, калі яны паведамілі мне, што я вольны пайсці з імі? Усё, што мне заставалася зрабіць, гэта толькі даць пісьмовае абяцанне не выязджаць з горада, пакуль не скончыцца следства па маёй справе. Гэтае абяцанне, канешне, адразу даў, а ангельцы заверылі мой подпіс сваімі.

Пабегчы наверх і скласці валізку, развітацца з маімі вартаўнікамі і начальнікам паліцыі, заняло ў мяне некалькі хвілінаў. Я хутка апынуўся на вуліцы і крочыў побач з маімі праважатымі да гатэля Ромэра. Ніводнага з іх я ніколі не бачыў раней. Канешне, яны былі незнаёмымі для ўсёй маёй сям'і, як і для мяне. Было толькі іх добрае імкненне вызваліць суайчынніка з небяспекі, якое натхніла абараняць мае інтарэсы.

Двое з гэтых джэнтльменаў былі сябрамі Кэмбрыджскага універсітэту – сябра і настаўнік Трыніці-Каледжу і афіцыйны аратар яго вялебнасць В.Г. Кларк і сябра Даўнінг-Каледжу містэр В. Лойд Бэркбэк. Трэці быў сябрам Бейліол-Каледжу ў Оксфардзе. Рады сказаць, што ён пазней наведаў Бон і дазволіў майму бацьку мець задавальненне падзякаваць яго асабіста за своечасова аказаную мне паслугу. З той прычыны, што мне не было дазволена ў той момант публічна выказаць удзячнасць, назваўшы яго па імені, як я гэта зрабіў адносна ягоных спадарожнікаў, то маю надзею, што мне дазволяць гэта зрабіць пазней. Таксама павінен запэўніць цікаўнага чытача, што яго імя не мела нічога агульнага з тым дзіўным словам, пад якім рускія рэгістратары пашпартоў запісалі яго ў рэгістрацыйнай кнізе.

На шляху з Варшавы да Вільні яны вырашылі спыніцца ў Гродне на адзін дзень, каб пабачыць горад. Пачуўшы пра арыштаванага ангельца, а гэты факт, аказваецца, прыцягнуў шмат увагі і выклікаў шмат размоваў, яны палічылі сваім абавязкам зрабіць усе мажлівае ў межах закону дзеля яго вызвалення.

З такім намерам шукалі сустрэчы і сустрэліся з вайсковым начальнікам. Падчас гэтай размовы зайшоў начальнік паліцыі і, такім чынам, з'явілася мажлівасць паразмаўляць і з ім таксама. Але ім не ўдалося атрымаць ні пэўнай інфармацыі, ні абяцання дапамогі. Тады яны звярнуліся да губернатара генерала Скварцова, які абедаў і не мог іх прыняць. Яны паўтаралі свой візіт кожныя паўгадзіны тры ці чатыры разы ў той жа вечар, і ўрэшце былі прынятыя, як я падазраю, пры дапамозе "срэбнага ключа"[4]. Яны папрасілі ў губернатара

дазволу ўбачыцца з арыштаваным ангельцам і даведацца ад яго самога пра падрабязнасці справы, каб яны пасля маглі паведаміць аб усім ангельскаму амбасадару ў Санкт-Пецярбурзе лорду Напіеру. Яны пераконвалі губернатара, як і вайсковага начальніка і начальніка паліцыі, у тым, што адмаўляць брытанскім падданым у праве звярнуцца да амбасадара Брытанскай кароны несправядліва (як ім гэта падавалася), і казалі, што падобныя дзеянні з'яўляюцца парушэннем міжнароднага этыкету, а, магчыма, і міжнароднага права.

Губернатар вельмі цёпла прыняў іх, уважліва і добразычліва выслухаў ўсё, што яны казалі, але катэгарычна адмовіў у візіце да мяне. Хаця ўсё кончылася няўдачай, калі былі так блізка да поспеху, яны не збіраліся здавацца. Містэр Кларк напісаў лорду Напіеру, а містэр Бэркбэк – віцэ-консулу ў Варшаве містэру Уайту пра ўсё, што ведалі па маёй справе. Такім чынам, яны далі магчымасць гэтым служачым зрабіць неабходныя крокі. Зацікаўленыя як мага хутчэй дабрацца да Вільні, адкуль павінны былі вяртацца ў Варшаву, яны тым не менш былі рашуча настроены здзейсніць усё, што можна дзеля майго вызвалення. Яны нават адклалі (баюся, што гэта было для іх вельмі нязручна) працяг сваёй вандроўкі на 48 гадзінаў.

Мне наўрад ці трэба нагадваць чытачу, што на фоне бягучых падзеяў з'яўленне трох ангельцаў у Гродне, само па сабе было здарэннем, якое магло прыцягнуць увагу. Мяркую, брытанскія падданыя акрамя мяне не з'яўляліся ў гэтым горадзе з тае пары, як містэр Сміт О'Брайн ненадоўга завітаў сюды некалькі месяцаў таму.

Пашпарты гэтых падарожнікаў былі, вядома, перададзеныя ўладам адразу па іх прыбыцці увечары ў аўторак, і не было ніякіх сумневаў, што з таго самага моманту за ўсімі іх словамі і дзеяннямі ўважліва сачылі. Служкі ў гатэлях, мінакі на вуліцах, людзі ўсіх класаў і станаў кожную гадзіну даносілі вайскоўцам і паліцыі і фіксавалі ўсе самыя дробныя падзеі, звязаныя з гэтымі замежнікамі. Іх падслухоўвалі ў кавярнях, непрыкметна суправаджалі падчас шпацыраў, ператварыўшыся ў іхнія цені.

Паведамленне аб нядаўнім арышце іх суайчынніка не магло не дасягнуць вушэй замежнікаў, якія нядаўна прыехалі. Звесткі аб гэтым і тое, што дзень майго першага допыту дзіўным чынам супаў з днём іх прыбыцця, не маглі не патрапіць у афіцыйныя матэрыялы, а таксама ў звычайныя плёткі. Нескладана зразумець, што ўлады Гродна ўсвядомілі неабходнасць хаця б уважліва паставіцца да ангельскага

зняволенага. Толькі гэтым я тлумачу раптоўную і дзіўную прыязнасць, што ўзнікла ў паводзінах і дзеяннях камісіі.

У аўторак, дзень майго першага допыту яны абыходзіліся са мной груба, нават з пагрозаю ў інтанацыі і словах, не жадалі верыць маім шматразовым сцвярджэнням аб недатычнасці да ўсіх абвінавачванняў, катэгарычна адмовілі просьбе звязацца з сям'ёй альбо з дыпламатычнымі прадстаўнікамі маёй краіны. На наступны дзень праз 18 гадзін пасля прыезду трох суайчыннікаў, усё змянілася. Камісія, вядома, не магла пераадолець сябе і не ўспрымаць мяне як паляка, але яна змянілі запалохванне на ветлівасць. Я сядзеў за сталом у іх прысутнасці і пісаў тыя самыя лісты, пра якія менш, чым 24 гадзіны назад, мне забаранілі нават не думаць.

Чым маглі быць выкліканыя такія змены? […]

Падарожнікі з Англіі ўсё яшчэ былі ў горадзе і не падавалі прыкмет да таго, што збіраюцца з'язджаць. Яны былі ўсё такімі ж нястомнымі і руплівымі ў сваіх намаганнях выратаваць мяне. Яны хадзілі ад аднаго афіцыйнага ведамства да другога з тым самым запытам і заяўляючы паўсюль рашуча і ясна […] пра несправядлівасць таго, што мне адмаўляюць у праве звязацца з тымі, хто мог бы мне дапамагчы даказаць сваю невінаватасць. Вайсковы начальнік накіраваў іх да начальніка паліцыі, а той адаслаў іх да губернатара. Губернатар у ветлівай форме катэгарычна адмовіў у іх просьбе.

Але ангельцы былі ўпартыя. Ні хітрасць аднаго боку, ні абсалютная забарона іншага не маглі адхіліць іх ад справы, якую яны ўзялі ў свае рукі. Яны былі ўсё яшчэ свабодныя і, напэўна, вырашылі выкарыстаць сваю свабоду на маю карысць. Тэлеграф і пошта былі даступныя для іх, хаця, падавалася, што дзверы ўсіх ведамстваў Гродна былі безнадзейна зачыненыя. Яны неадкладна даслалі неабходныя лісты.

Ці былі гэтыя лісты прачытаныя, і іх змест сакрэтна даведзены ўладам, не магу сказаць. Добра вядома, што такі спосаб часта ўжываецца ў гэтай, як і ў іншых краінах. І сёння я маю дастаткова падстаў лічыць, што лісты ўскрываліся штодня. Як бы там ні было, але лісты адпаведным адрасатам, якія містэр Кларк і містэр Бэркбэк напісалі, былі на шляху да пункта назначэння. Хутка павінны былі прыйсці адказы, якія б патрабавалі тлумачэння, на падставе чаго быў арыштаваны і гвалтоўна ўтрымліваўся ў турме брытанскі падданы. […] Лепей было апярэдзіць запыт, які цягам некалькіх гадзінаў непазбежна прыйдзе з Санкт-Пецярбурга і неадкладна вызваліць

брытанскага падданага, тым больш, як пачало высвятляцца, які быў памылкова кінуты ў турму.

Перакананы, што гэта і ёсць сапраўднае тлумачэнне ўсёй справы. Губернатар убачыў ангельцаў, якія пайшлі ад яго заклапочаныя і расчараваныя. Ён, мажліва, адчуваў сябе задаволеным дэманстрацыяй сваёй абсалютнай улады. Але тым не менш хутка быў аддадзены загад выканаць менавіта тое, аб чым прасілі ангельцы. […]

Ангельскія падарожнікі, дасягнуўшы мэты, дзеля якой яны адклалі сваю вандроўку, у той жа вечар ад'ехалі да Вільні, адкуль містэр Кларк ласкава адаслаў мой ліст да бацькі.

Містэр Кларк у Вільні атрымаў адказ лорда Напіера на ліст, які ён напісаў з Гродна ад майго імя. Дублікат гэтага адказу быў высланы яму ў Варшаву.

Я бачыў гэтых трох вандроўнікаў праз некалькі дзён на чыгуначнай станцыі, але толькі некалькі хвілінаў. Гэта была апошняя мажлівасць асабіста паразмаўляць з людзьмі, перад якімі я ў даўгу да канца жыцця.

У пятніцу 11 верасня ў дзень майго вызвалення, я тэлеграфаваў да нашага консула ў Варшаве палкоўніка Стаўнтана і паведаміў пра ўсё, што адбылося. Гэтае паведамленне не было адаслана да на наступнага дня. Не атрымаўшы адказу, я зноў пайшоў на тэлеграф і пагражаў служачаму, што, калі не атрымаю адказу і на другое паведамленне, то буду скардзіцца губернатару.

Два адказы я атрымаў у суботу. Адзін ад быў віцэ-консула містэра Уайта недзе апоўдні, у якім ён прасіў прадставіць больш падрабязныя звесткі, другі – увечары таго ж дня ад палкоўніка Стаўтана, які паведамляў, што не можа садзейнічаць з польскага боку, але, што ён тэлеграфаваў да лорда Напіера ў Санкт-Пецярбург.

У нядзелю зранку 13 верасня я атрымаў тэлеграму лорда Напіера, у адказ на ліст ад містэра Кларка. У тэлеграме ён пытаўся пра падставы майго арышту і паведамляў пра крокі, якія ўжо зрабіў ад майго імя. Я адразу перадаў поўную справаздачу ягомосці і дадаў, што напісаў да яго ліст у сераду 9-га, які быў перададзены мной кіраўніку камісіі, у прысутнасці якога і быў напісаны. Атрымаўшы мой нядзельны ліст, лорд Напіер пацвердзіў у тэлеграме яго дастаўку і дадаў, што яшчэ не атрымаў ліст ад 9 верасня. Я неадкладна пайшоў да губернатара, паказаў яму тэлеграму і прасіў патлумачыць прычыны затрымкі. […]

Немажліва пераацаніць тую увагу, якую лорд Напіер надаў майму выпадку. Я атрымаў ад яго не менш 9 ці 10 паведамленняў па пошце і па тэлеграфу. Ён паведамляў мне пра дзеянні, зробленыя ад майго імя, запэўніваў мяне ў сваім намеры зрабіць усе магчымае дзеля маёй абароны, раіў набрацца цярплівасці. Расейскі міністр замежных справаў у выніку зваротаў лорда Напіера, паабяцаў яму, што ў справе, якая яшчэ патрабуе завяршэння, не будзе непатрэбных затрымак. Атрымаўшы гэтае абяцанне, я мог быць задаволеным. Лорд Напіер таксама тэлеграфаваў да майго бацькі. Ён паведаміў пра мой арышт і вызваленне, запэўніў, што я буду абаронены і паабяцаў даслаць мой ліст поштай. Ліст своечасова прыйшоў. Ён паведамляў пра абставіны, якія я апісваў раней. Разам з ім прыйшоў таксама ліст, які я пісаў да бацькі з турмы 9 верасня. Такім чынам, 12 дзён прайшло паміж тым, як я напісаў гэты ліст, і як ён быў атрыманы бацькам. Але затрымка адбылася выключна з-за таго, што ліст быў перасланы генерал-губернатару Мураўёву. Лорд Напіер не губляў ні хвіліны ні на гэтым, ні на іншых этапах справы, і мой бацька не меней, чым я, удзячны ягомосці за своечасовую, уважлівую і тактоўную дапамогу.

Тым не менш, ліст да бацькі, які я напісаў у дзень майго вызвалення, і які містэр Кларк адаслаў з Вільні, дайшоў на тры дні раней, чым тэлеграма ад лорда Напіера. У першую чаргу наша шчырая ўдзячнасць адрасавана містэру Кларку і яго спадарожнікам. Калі б не іх актыўнае пасрэдніцтва, лорд Напіер, напэўна, ніколі б не пачуў пра мяне. І я мог бы дагэтуль, калі б ўвогуле застаўся жывым, самотна гібець у турме альбо ў высылцы.

Як толькі я развітаўся са сваімі збавіцелямі і пачаў камунікаваць з іншымі людзьмі, то прыгадаў няшчаснага слугу графа Біспінга і паспрабаваў спрыяць яго вызваленню. Ранкам наступнага дня (субота) пайшоў да нямецкага пастара ў Гродне, які, на маю думку, мог дапамагчы вызваліць суайчынніка. Але пастара не было, і дапамога з гэтага боку пакуль адмянялася. Насамрэч, у мяне былі падставы меркаваць, што ягоная дапамога, як бы моцна ён ні жадаў дапамагчы, не прынесла б плёну.

Пасля вяртання ў гатэль я напаткаў жаўнера з турмы, які запатрабаваў, каб я неадкладна з'явіўся перад камісіяй. Зайшоўшы ў пакой, дзе мяне раней допытвалі, я быў здзіўлены не толькі ветлівымі паводзінамі сяброў камісіі, але і іншай акалічнасцю, за якую я быў абавязаны губернатару. Габрэя перакладчыка больш не было. Па праўдзе, ягоны непрафесіяналізм павінны былі заўважыць

самі сябры камісіі. І мае скаргі губернатару датычна непрафесійнасці габрэя не маглі быць абвергнутыя нікім, хто быў сведкам ягонай бясконцай збянтэжанасці. Яго месца цяпер займаў афіцэр імператарскай гвардыі барон вон Ховэн, джэнтэльмен з вельмі прыемнай знешнасцю і (як ён хутка паказаў) дастаткова добра знаёмы з ангельскай мовай.

Граф Біспінг таксама сядзеў за сталом у гэтым пакоі і нешта пісаў. Я не бачыў майго дарагога сябра з таго горкага моманту, калі нас разлучылі вечарам мінулага панядзелка, і я не мог адмовіцца ад задавальнення падбегчы да яго і пацiснуць руку. Афіцэры, здавалася, былі крыху здзіўленыя тым, што я дазваляю сабе такія вольныя паводзіны. Мяне правялі ў іншы пакой разам з капітанам, які раней праводзіў асноўную частку майго допыту, і перакладчыкам. Мне зноў задалі ўсе тыя ж пытанні, на якія я ўжо адказваў раней. Урэшце мы дамовіліся, што я павінен падпісаць свае паказанні пра тое, што з'яўляўся ангельскім святаром, што прыехаў у рускую Польшчу да графа Біспінга ў якасці настаўніка ангельскай мовы, што ніколі не меў ніякіх асабістых кантактаў з паўстанцамі і нават не чуў, каб граф казаў нешта супраць рускага ўраду, і, нарэшце, што зусім не ведаю польскай мовы.

Узнік некаторы сумнеў, ці варта ўлучаць апошні сказ у паказанні. Капітан пайшоў раіцца з кіраўніком камісіі, які застаўся ў тым пакоі, дзе ўсё яшчэ знаходзіўся Біспінг. Пасля вяртання капітана з'явіліся два маладзёны гадоў 18 хваравітага выгляду, каб даць паказанні супраць мяне. Адзін з іх заявіў, што некалькі разоў бачыў графа Біспінга і мяне ў лесе, што мы прывозілі гарматы, пісталеты, стрэльбы, вопратку і грошы ў сваім экіпажы і, што ён часта чуў, як я размаўляю па-польску з афіцэрамі паўстанцаў. Другі сказаў, што бачыў мяне толькі аднойчы ў лесе, што я быў адзін і ў мяне была адна стрэльба. Ён не чуў, як я размаўляю.

Даведаўшыся ад перакладчыка змест іх сведчанняў, я папрасіў яго сказаць, што я абвінавачваю іх у наўмысным і злосным падмане, што аповед пра тое, што мы прывозілі ў лес гарматы ў экіпажы абсурдны, што ўсім, з кім я знаёмы ў гэтай краіне вядома, што я не магу сказаць самых простых фраз на гэтай мове. Я быў згодны чакаць пакуль сябры і слугі графа Біспінга засведчаць, што я не ведаў самага простага з гэтай мовы, а мае памылкі ў спробах вымавіць нават самыя простыя словы заўсёды іх смяшылі. Калі мае заўвагі былі перакладзеныя, выраз твару сведкі адразу змяніўся, і ён пачаў

выкручвацца і казаць неадназначна. Перакладчык бачыў гэта таксама, як і я, і пачаў ціснуць на яго. Тады сведка паспрабаваў цалкам адмовіцца ад сваіх сцвярджэнняў, кажучы:

- Ну, калі я і не чуў, як ён размаўляе па-польску (магчыма, я быў знаходзіўся недастаткова блізка), але я бачыў, як ён размаўляе з адным з маіх афіцэраў.

Перакладчыка вельмі раззлавала гэтае сведчанне, у ілжывасці якога ён ужо не сумняваўся. Ён проста сказаў капітану, што гэтаму чалавеку не варта давяраць, і што гэта было марнаванне іх часу, таксама як і прыніжэнне для мяне слухаць паклёп гэтага юнака. Капітан настойваў на іншым бачанні справы і паміж імі распачалася такая гарачая спрэчка, што ў пэўны момант я думаў, яны пасварацца ўшчэнт. Юнакоў адпусцілі.

Прынеслі паперы з другога пакою. Перад тым, як падпісаць свае паказанні, я папрасіў перакладчыка прачытаць усё яшчэ раз. Ён зрабіў гэта, і аказалася, што апошні сказ пра маё няведанне польскай мовай адсутнічаў. Перакладчык заўважыў яго адсутнасць адначасна са мною і настойваў на ўключэнні гэтага факту. Для мяне гэта было вельмі важным. Яго адсутнасць, фактычна, азначала, што я не сцвярджаю факту няведання польскай мовы. Недавер да аднаго з важных момантаў маіх паказанняў мог паставіць пад сумнеў іх праўдзівасць цалкам. Барон фон Ховэн звярнуў на гэта ўвагу капітана. Ізноў разгарнулася гарачая спрэчка, і паперы зноў панеслі да кіраўніка. У хуткім часе іх прынеслі назад ужо з далучаным апошнім сказам. Я падпісаў паказанні і выйшаў.

Барон фон Ховэн суправаджаў мяне да гатэля, дзе мы разам паабедалі. Мая ўдзячнасць яму за аказаную толькі што паслугу надала мне смеласці запытацца ягонай парады наконт таго, як лепей дзейнічаць у дачыненні няшчаснага нямецкага слугі Людвіга, якому я хацеў дапамагчы вызваліцца з турмы. Вайсковы начальнік увайшоў, калі мы абмяркоўвалі гэтую справу. Па іх парадзе а 6-й гадзіне таго ж вечара я наведаў губернатара. Калі ён мяне прыняў, я паведаміў, што Людвіг быў прускім падданым. Я таксама быў гатовы прысягнуць, што ён не вінаваты ні ў якіх магчымых рэвалюцыйных дзеяннях. Губернатар зрабіў выгляд, што не ведаў аб замежным паходжанні слугі графа, хаця ягоны пашпарт павінен быў сцвердзіць гэты факт. Тым не менш, ён паабяцаў, што дадзеным пытаннем неадкладна будзе займацца, і стрымаў сваё слова. Нягледзячы на мітусню і занятасць у сувязі з вялікім балам у той вечар, усё было высветлена.

Апоўначы афіцэр быў накіраваны ў турму, каб паведаміць Людвігу, што ён быў вольны. Людвіг вырашыў застацца начаваць у турме, каб зранку яе пакінуць.

Аднак, ранкам ён не прыйшоў. Я пачаў хвалявацца і пайшоў па розных ведамствах з пытаннямі. Урэшце, ён з'явіўся (затрымалі пэўныя фармальнасці ў паліцэйскім пастарунку) бледны, змучаны і няголены. Але пабачыўшы мяне, ён пачаў танцаваць ад радасці і запэўніў мяне ў сваёй удзячнасці за дапамогу.

Добра паабедаўшы, ён здолеў распавесці мне пра свой досвед у рускай турме. Ён быў размешчаны горш, чым ягоны гаспадар ці я. Разам з ім у камеры быў вясковы доктар, на розум якога паўплывалі цяжкасці, перажытыя ім перад і падчас зняволення. Яго забралі з ложка пасярод ночы, і ён быў вымушаны пакінуць на адзінага слугу вельмі хворую жонку, якая ў хуткім часе павінна была нарадзіць дзіця. З таго часу ён нічога не ведаў пра яе, а яна не магла прыехаць і наведаць яго, бо ён знаходзіўся за 50 ці 60 міляў ад дома. Ён вельмі добра размаўляў па-нямецку, і аповеды пра няшчасці прывялі добрасардэчнага Людвіга ў адчай.

У наступны чацвер а 3-й гадзіне мне прыйшоў загад з'явіцца ў турму і атрымаць мой дзённік і кішэнную кніжку, ды іншыя паперы. Пасля выканання пэўных фармальнасцяў мне было дазволена забраць іх.

Мая справа, як здавалася, была завершаная. З усё большай нецярплівасцю я чакаў дазволу на ад'езд. Дзень за днём спадзяваўся пачуць гэта ад губернатара, але штодня адказ быў: "Яшчэ не". Паперы былі дасланыя на зацвярджэнне Мураўёву, а без гэтага нічога не магло быць зроблена. Нарэшце, калі мая цярплівасць амаль скончылася, у панядзелак 28 верасня (праз тры тыдні пасля майго арышту) генерал Скварцоў паведаміў мне, што справаздача гродзенскай камісіі была зацверджаная Мураўёвым. Калі я дам абяцанне ніколі больш не наведваць гэтую краіну, я магу яе пакінуць.

- Калі Вы будзеце гатовы паехаць? – спытаў ён.

- Сёння ж, – адказаў я, – калі гэта магчыма, а напэўна не пазней заўтрашняга дня.

Здавалася, што яго здзівіла прапанова такога хуткага ад'езду, і ён сказаў мне пачакаць да наступнага дня. Тады я папрасіў дазволу на сустрэчу з графам Біспінгам, які ён мне адразу даў у выглядзе пісьмовага загаду начальніку турмы. Я паспяшаўся з гэтым дазволам у турму, і цягам некалькіх хвілінаў мой сябра з'явіўся ў пакоі,

у які мяне адвялі. Ён выглядаў добра, але я заўважыў, што ягоная ніжняя губа была амаль наскрозь пракушана. Ён выказаў глыбокую занепакоенасць непрыемнасцямі, у якія я трапіў, па яго меркаванню, менавіта па ягонай віне, і сказаў, што тое, як моцна я адмаўляў свой ўдзел ў паўстанні, не магло быць мацнейшым за тое, як ён сам гэта рабіў. Вядома, я не стаў засяроджвацца на непрыемнасцях, праз якія мне давялося прайсці. Насамрэч, маё вызваленне і планаваны хуткі ад'езд былі дастатковымі для майго добрага і поўнага надзеяў настрою.

Пэўны час мы абмяркоўвалі мінулыя падзеі і перспектывы. Граф таксама хацеў даведацца пра лёс афіцэра, які прыходзіў наведаць яго тыдзень таму. Факты былі наступныя. Гэты афіцэр абедаў у той самай рэстарацыі, што і я. Але я не быў знаёмы з ім асабіста. Ад нямецкага слугі Біспінга ён пачуў падрабязнасці зняволення гаспадара, а таксама даведаўся пра жахлівую турэмную ежу ў выглядзе кіслай кашы і чорнага хлеба. Афіцэр быў добрасардэчным і шчодрым чалавекам і вельмі засмуціўся:

- О, Біспінг часта забяспечваў маіх сяброў цудоўным харчаваннем, а я паспрабую, калі атрымаецца, суцешыць яго добрым абедам і бутэлькай віна.

Слуга падбег да мяне вельмі ўзрадаваны перспектываю такога пачастунку для свайго гаспадара. Але хутка меў выгляд нібыта ў яго трапіла маланка, бо я выказаўся супраць.

- Нічога з гэтага не атрымаецца, Людвіг. – сказаў я. – Гэты афіцэр толькі будзе мець непрыемнасці разам з тваім гаспадаром, калі паспрабуе такім чынам парушыць турэмныя правілы. Я ведаю лепей за яго, што няма бяспечнага спосабу парушыць іх. Ты таксама павінен гэта ведаць. Малю цябе, ідзі і прасі яго адмовіцца ад гэтай ідэі.

Але стрымаць афіцэра не ўдалося. Ён пайшоў з абедам і бутэлькай віна, схаванымі ў кішэні. Неўзабаве, вярнуўся пануры. У яго насамрэч атрымалася пабачыцца з графам, але прысутнасць вартаўніка не дазволіла перадаць яму ні ежу, ні віно. Ён апісаў усю падзею, і я не мог не хвалявацца наконт вельмі непрыемных вынікаў. Так яно і сталася.

Наступным ранкам гэтага маладога афіцэра арыштавалі. Хутка пасля гэтага яму сказалі, што ён асуджаны на расстрэл. Гэтыя чуткі не былі неабгрунтаванымі. Яго моцнае жаданне трапіць да Біспінга ў камеру прымусіла яго схлусіць, што ён прыбыў па загаду, і, што ён быў там па службоваму заданню. А гэта было вельмі сур'ёзным

парушэннем. У адпаведнасці з строгім ваенным законам яму, сапраўды, магло пагражаць смяротнае пакаранне. Цікавасць да яго справы была вялікая. Нягледзячы на малады ўзрост, ён ужо паспеў з найлепшага боку вызначыцца па службе. Многія выступілі ў яго абарону. Урэшце, ён пазбег смяротнага пакарання, але быў звольнены з палка. Гэты самы афіцэр наведаў мяне праз два дні і распавёў у крайнім смутку пра сваё "злачынства", якое ледзь не прывяло яго да суда і пакінула без надзеі вяртання на службу.

Граф Біспінг вельмі цікавіўся гэтай справай і быў моцна засмучаны тым, што афіцэру давялося перажыць такія пакуты і трапіць у небяспеку з-за жадання аказаць яму паслугу.

Я размаўляў са сваім сябрам ужо гадзіну і з радасцю застаўся б яшчэ, але ў гэты момант зайшоў начальнік турмы і паведаміў, што графу трэба ісці ў прыёмны пакой, каб сустрэцца з сваякамі, якім дазволілі наведванне. Кампанія складалася з дзвюх ягоных цётак, дзвюх ці трох кузін і сястры. Перад тым, як я выйшаў, граф узяў з мяне абяцанне, што я паспрабую сустрэцца з ім яшчэ раз да ад'езду. Я выйшаў ад яго і вярнуўся ў гатэль, каб рыхтавацца да ад'езду.

Той вечар я правёў у кампаніі сяброў графа, чыя дабрыня ў адносінах да мяне не зменшылася падчас гэтага майго апошняга візіту. У наступны дзень зранку я чакаў губернатара. Мяне запрасілі ў ягоны пакой толькі апоўдні, і я быў узрадаваны даведацца, што больш няма перашкодаў для майго ад'езду на радзіму.

- Жаўнер будзе суправаджаць Вас да мяжы, – сказаў губернатар, – і там аддасць Вам пашпарт і пнеўматычную стрэльбу.

- Мне трэба будзе заплаціць за яго? – спытаў я тады. –

О, не! Канешне, не. – адказаў ён.

Я быў усё ж вельмі разззлаваны патрабаваннем больш ніколі не наведваць тэрыторыю Расіі. Не тое каб я меў нейкае пачуццё абавязку, здольнае калісьці ізноў паклікаць мяне ў гэтую краіну, і, вядома, у мяне не было імкнення (па меньшай меры зараз) добраахвотна наведаць яе зноў. Тым не менш, я адчуваў, што не мушу мець пажыццёвую забарону на наведванне. Падпарадкаванне такой умове было знявагай. Але гэтага немагчыма было пазбегнуць, і падчас наведвання губернатара ў прысутнасці ягонага сакратара я напісаў абяцанне па-французску і па-ангельску і падпісаў яго.

У той момант я больш клапаціўся пра майго дарагога сябра графа Біспінга, чым пра самога сябе. Калі б атрымаў нейкія карысныя

для яго звесткі або мне дазволілі б зноў пабачыцца з ім, то я б не звярнуў увагі на тое, што падпісаў. Я чуў у розных колах (некаторым з іх можна было давяраць), што ён у хуткім часе будзе вызвалены. Але такая навіна была занадта добрай, каб быць праўдай.

Я яшчэ раз наведаў губернатара і запытаў, ці можа ён паведаміць, які лёс чакае графа. Ён шчыра сказаў мне, што найбольш верагодна, што граф будзе высланы ў нейкую аддаленую частку Расіі і застанецца там, пакуль паўстанне не скончыцца. Але не будзе ні дадатковага штрафу, ні канфіскацыі ягоных маёнткаў.

Губернатар дазволіў пайсці ў турму і ў апошні раз паразмаўляць з графам. Пры гэтым дадаў, што жаўнер будзе чакаць мяне каля гатэля а 3-й гадзіне, а цягнік адыходзіць а 5-й.

Граф уздыхнуў з палёгкай, калі я паведаміў, што паводле слоў губернатара ягоная маёмасць застанецца некранутай. Ён ізноў выказаў глыбокае шкадаванне, што мой візіт, які так прыемна прайшоў для яго і не менш прыемна, як ён спадзяваўся, і для мяне, скончыўся такімі непрыемнымі для нас абодвух абставінамі. Але ён спадзяваўся, што надыдуць лепшыя часы, і мы зможам убачыцца ізноў. Мы развіталіся з узаемнымі пажаданнямі шчаслівага жыцця.

Пасля вяртання ў гатэль я ўбачыў, што жаўнер, які мусіў суправаджаць мяне да мяжы, быў той самы казак, што вартаваў мяне ў турме. Я не мог стрымаць усмешкі з-за ягонага выгляду з вялізным скураным партфелем, які вісеў у яго на грудзі і трымаўся на рамені за плячыма, парай зараджаных пісталетаў на поясе і цяжкой шабляй на баку.

Некалькі маіх сяброў сабраліся, каб пажадаць мне добрай дарогі. Паціснуўшы ўсім руку, я залез у дрожкі з Людвікам і паехаў на чыгуначную станцыю. Там я сустрэў знаёмага афіцэра імператарскай гвардыі, які набыў для мяне квіток і дапамог мне шмат у чым. Калі мы павінны былі адпраўляцца, служачы чыгункі паведаміў, што неабходна заплаціць тры рублі за майго праважатага. Я прасіў сябра афіцэра сказаць ім, што генерал Скварцоў запэўніў мяне, што ніякіх выдаткаў у сувязі з суправаджэннем я не панясу. Афіцэр зрабіў усе, што мог, але ў казака не было афіцыйнага пропуска, і мне трэба было ці заплаціць за ягоны квіток, ці адкласці паездку да наступнага дня. Наўрад ці трэба казаць, які я зрабіў выбар. Плата была ўнесеная, і мы паехалі: жаўнер ў адным вагоне, а я ў другім.

Забыўся сказаць, што перад прыбыццём да цягніка пад’ехаў у сваіх дрожках начальнік паліцыі, які заўсёды сустракаў кожны

цягнік. Ён развітаўся са мной самым ветлівым чынам і выказаў спадзяванне, што я не буду прыгадваць тыя непрыемныя дзеянні, якія яму даводзілася выконваць у сувязі з маёй справай. Я ахвотна паверыў, што ён усё рабіў адпаведна загадам, і што за іх нясуць адказнасць іншыя людзі. Тым не менш, я не мог не думаць, што мой пашпарт знаходзіцца зараз у значна лепшым месцы, у партфелі казака, чым тады, калі ён быў скамячаны і з пагардай запханы ў кішэню начальніка на гродзенскай гарадской мяжы.

Заўвагі

[1] У пер.: Андэрсон Ф. Сем месяцаў у рускай Польшчы ў 1863 г. Лондан-Кембрыдж, 1864

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь у Гродне. Ф. 3, воп. 1, ад.з. 21. Напярэдадні высылкі з Гродна англічаніну былі вернутыя паляўнічая стрэльба і іншыя асабістыя рэчы, адабраныя падчас затрымання.

[3] Пасаду паліцмайстра горада ў гэты час займаў палкоўнік Змієў (заўвага рэд.)

[4] Верагодна, маецца на ўвазе хабар (заўвага рэд.)

# Каложская царква ў апісаннях барона Жозэфа дэ Бая (1905)

У 1905 г. у Парыжы выйшла з друку брашура вядомага французскага навукоўца барона Жозэфа дэ Бая з апісаннем Барысаглебскай (Каложскай) царквы ў Гродне: **Baron J. de Baye. L'église de Kologe a Grodno (Russie Occidentale) (Paris, 1905)**[1].

Барон де Бай (1853-1931) – славуты археолаг і спецыяліст па старажытным эпохам, аўтар шматтомнага даследавання "Дагістарычная археалогія" (1880), кніг "Індустрыя лангабардаў" (1888) і "Індустрыя англасаксаў" (1889). Як сябра Парыжскага геаграфічнага таварыства шмат падарожнічаў, цікавіўся этнаграфіяй, гісторыяй і мастацвам.

У 1890 г. ён прымаў удзел у працы VIII Расійскага Археалагічнага з'езду ў Маскве. Праз тры гады выступіў з рэфератам "Каўчэг Астрожскага сабору" на IX Археалагічным з'ездзе ў Вільні, прысвечаным помнікам г.зв. "Заходняй Русі". У 1897 г. даследчык здзейсніў шасцімесячную экспедыцыю па тэрыторыі ад Волгі да Іртыша, пазней вывучаў Далёкі Усход, Каўказ ды іншыя рэгіёны імперыі.

На пачатку XX ст. па запрашэнні віленскага генерал-губернатара князя П.Д.Святаполк-Мірскага з навуковымі мэтамі падарожнічаў па Беларуска-Літоўскаму краю. Адным з вынікаў гэтага падарожжа стала выданне **Baron J. de Baye. En Lituanie. Souvenirs d'une Mission (Paris, 1905)**[2] і згаданая брашура пра Каложу.

Аналіз тэксту парыжскага выдання дазваляе сцвярджаць, што аўтар знаходзіўся пад моцным уплывам тагачаснай расійскай гістарычнай і рэлігійнай літаратуры. У ягоным апісанні Каложская царква становіцца важным сведчаннем прыналежнасці Гродна да "гістарычнай Русі", спадкаемцам якой у брашуры выступае Расійская імперыя.

Але разам з тым гэтая невялікая ілюстраваная кніга з апісаннем Барысаглебскай царквы з'яўляецца яшчэ адным важным сведчаннем той гістарычнай, рэлігійнай і культурнай каштоўнасці, якую мае

Храм на беразе Нёмана. Французскі навуковец прымушае зноў задумацца пра тую адказнасць, якую мы нясем перад нашчадкамі за захаванне гэтай рэліквіі.

Захаваныя заўвагі аўтара. Рэдакцыйныя заўвагі пазначаныя. Ілюстрацыі аўтарскія.

Знаходкай гэтай брашуры мы вельмі абавязаныя літоўскаму гісторыку Русцісу Камунтавічусу (Універсітэт Вітаўта Вялікага, Коўна).

*Пераклад тэксту Вольгі Лагвіненкі.*
*Падрыхтоўка да друку Алеся Смаленчука.*

Падчас майго апошняга падарожжа па Літве мне ўдалося наведаць вельмі цікавую царкву, якую называюць Каложскай, размешчаную ў Гродне на рацэ Нёман[3].

Перш чым распавесці пра гэты помнік, скажу некалькі слоў пра горад Гродна. Гродна быў названы тэўтонцамі Garten, Gartena. Паводле рускіх хронікаў, гэтая назва мае славянскае паходжанне. Першая згадка гэтага горада належыць да 1128 г. У 1241 г. Гродна знаходзіўся ва ўладанні рускага князя Юрыя, сына Глеба. У гэтым жа годзе князь Юрый быў схоплены падчас абароны Гродна ад нападу татараў, якімі кіраваў Кайдан, адзін з дарадцаў Батыя. Горад быў разбураны. Тады літоўскі князь Эрдзівіл, пляменнік вялікага князя літоўскага Міндоўга заняў Гродна.

Мы не будзем далей паглыбляцца ў гісторыю гэтага горада, бо помнік, пра які я буду распавядаць, датуецца канцом XII або пачаткам XIII стагоддзя. Гэта адзін з рэдкіх узораў старажытнай рускай праваслаўнай архітэктуры, захаваных у гэтым заходнім рэгіёне Расіі.

Каложская царква носіць імя святых Барыса і Глеба. Легенда распавядае, як у XII стагоддзі першы з удзельных гродзенскіх князёў Усевалад Данілавіч адправіўся ў Кіеў да вялікага князя Уладзіміра Манамаха[4]. Там ён сустрэў дачку вялікага князя Агату і закахаўся ў яе. Менавіта ў гэты дзень быў асвечаны храм у гонар святых Барыса і Глеба. Вялікі князь аддаў руку дачкі Усеваладу Данілавічу, і той паабяцаў назваць сыноў, якіх яму падорыць неба, Барысам і Глебам. Калі нарадзіліся два сыны-блізняты, ён назваў іх адпаведна дадзенаму абяцанню. Пазней Усевалад Данілавіч загадаў сынам пабудаваць царкву ў гонар іх заступнікаў. Гэтай царквой, мабыць, і з’яўляецца Каложа.

Першая згадка Гродна сустракаецца ў Іпацеўскім[5] летапісу і датуецца 1128 г.: “Князь Мсціслаў адправіў сваіх братоў і дружыну з князем Усеваладам Данілавічам, князем Гарадзенскім, каб перамагчы крывічаў (славянскае племя). Гэты князь Усевалад быў жанаты на адной з дочак Уладзіміра Манамаха. Ягоныя сыны мелі імёны Барыс і Глеб”.

Гэты гістарычны дакумент пацвярджае даставернасць галоўнай часткі легенды пра паходжанне царквы. Трэба дадаць, што Усевалад Данілавіч быў унукам Яраслава[6].

Дата пабудовы Каложы невядомая, але прынята адносіць царкву да канца XII – пачатку XIII стагоддзя, пра што можа сведчыць вышэйзгаданы гістарычны дакумент. Акрамя таго, з Іпацеўскага летапісу мы ведаем, што ў 1183 г. царква Барыса і Глеба, якая знаходзілася ў Гродне, была пашкоджана жудаснай навальніцай, а потым адрэстаўраваная. Мы не можам сцвярджаць дакладна, але цалкам магчыма, што царква, чые сцены мы бачылі, раней была драўлянай, а пад словам рэстаўрацыя разумелася замена разбуранай царквы на больш трывалы і моцны будынак[7].



**План Каложскай царквы ў Гродне.**

Назва гэтага храма “Каложа” з’явілася толькі ў XV стагоддзі. Як ужо адзначалася, пасля ўзяцця горада татарамі Гродна апынуўся пад уладай літоўцаў.

Так, у 1405 г. князь літоўскі Вітаўт пайшоў паходам на Пскоў і захапіў 11 тысяч жыхароў прадмесця гэтага горада, якое называлася Каложа. Ён прывёў гэтых палонных у Гродна і пасяліў іх на берагах Нёмана каля царквы Барыса і Глеба. Менавіта з нагоды гэтых падзеяў царква і тэрыторыі, на якіх жылі палонныя, атрымалі вышэйзгаданую назву.

У 1550 г. князь літоўскі Аляксандр даў царкоўнаму прыходу гэтага старажытнага і каштоўнага храма ў валоданне маёнтак Чэхевані[8].

Падчас праўлення караля Польшчы Жыгімонта III (1587-1632) Каложская царква была аддадзена манахам-уніятам Базыльянскага ордэна. І толькі ў 1839 г. яна была вернутая праваслаўным хрысціянам, якім належала ад пачатку свайго існавання.

У час вайны паміж Расіяй і каралём шведскім Карлам XII скляпенні царквы былі разбураны і заменены драўлянай столлю.

Пазней Нёман, падмываючы бераг, на якім знаходзіўся храм, выклікаў абвал паўднёвай сцяны. Яна была заменена на драўляную.

У наш час, дзякуючы ўмяшальніцтву князя Мірскага, былі прынятыя меры па выратаванню гэтай самай старажытнай ў рэгіёне пабудовы. Інжынер Плотнікаў, які прымае ўдзел у рэстаўрацыі, перадаў мне фотаздымкі, якія я прадстаўляю ўвазе маіх калегаў.



**Каложская царква ў Гродне з боку абсідаў.**



**Размяшчэнне акустычных збаноў у інтэр'еры Каложскай царквы.**

Сцены Каложскай царквы маюць 70 футаў даўжыні, 45 футаў шырыні і 28 футаў вышыні. Паўночная сцяна, частка заходняй і абсіды пераважна захаваліся. Шэсць цагляных слупоў падтрымліваюць скляпенні. Лесвіца, размешчаная ў тоўшчы сцяны, якая ўздымаецца ад двух частак іканастасу, вядзе ў нешта накшталт калідора.

У цагляныя сцены ўмураваныя буйныя неачэсаныя, але паліраваныя эрратычныя валуны, якія размешчаны з вонкавага боку такім чынам, каб не ўтвараць выпукласцяў. Фотаздымак не ў стане перадаць ўсяго хараства гэтых рознакаляровых валуноў. Паверхня знешніх сценаў упрыгожана шматлікімі тэракотавыя крыжамі, пакрытымі эмаллю зялёнага, жоўтага і гранатавага колераў.

Акустычных збаноў у Каложы зараз болей, чым раней. У сценах іх знаходзіцца больш за сто дзесяць. У Расіі гэтыя керамічныя пасудзіны называюцца галаснікамі (ад рускага слова – голас). Гэта тэракотавыя збаны звычайнай формы, падобныя на тыя, якія выкарыстоўваюцца ў побыце.

Некаторыя расійскія археолагі сцвярджаюць, што гарлавіны гэтых гаршкоў былі парожнія, іншыя кажуць, што яны былі пакрытыя вельмі тонкім слоем тынкоўкі, якая ўтварала лёгкую плёнку.

Ва ўсялякім выпадку, гэтыя шматлікія галаснікі ўяўляюць сабой яшчэ адну даследчую цікавасць у вывучэнні Каложскай царквы.

Самы вядомы знаўца старажытнай славянскай рэлігійнай музыкі спадар Смаленскі наступным чынам характарызаваў іх: "Галаснікі



**Галаснікі альбо акустычныя збаны з двух цэркваў у Ноўгарадзе.**

можна знайсці ў сценах і скляпеннях старадаўніх рускіх цэркваў, у асноўным у Ноўгарадзе і Суздалі. Гэтыя збаны размешчаныя бессістэмна, але заўсёды на адным узроўні ва ўнутранай сцяне царквы. Адтуліна галаснікоў складае ад 4 да 5 вяршкоў[9] у дыяметры, глыбіня гарлавін вар'іруецца ад 7 да 8 вяршкоў у дыяметры".

У класічным варыянце галаснікі знаходзяцца ў аснове скляпенняў. Вось малюнак двух акустычных збаноў, захаваных Султанавым. Яны знаходзяцца ў царкве святой Сафіі ў Ноўгарадзе[10] (1045) і святога Мікалая[11] (1113) таксама ў Вялікім Ноўгарадзе.

Занадта шмат часу зойме пералік ўсіх рускіх цэркваў, у якіх ёсць галаснікі. Мы толькі ўзгадаем царкву святой Сафіі ў Ноўгарадзе, Сабор Дванаццаці апосталаў у маскоўскім Крамлі (50 галаснікоў), манастыр святога Міхаіла ў Кіеве, Сабор Успення Багародзіцы ў Маскве (3 галаснікі) і г.д. Іх можна сустрэць часцей у старажытных цэрквах. Нягледзячы на тое, што з цягам стагоддзяў акустычныя збаны амаль перасталі выкарыстоўваць, іх значэнне не было цалкам забытае. Так, у вялікай канцэртнай спеўнай зале Свяцейшага Сінода ў Маскве, пабудаванай у 1891 г., размясцілі каля 20 галаснікоў. Расійскія навукоўцы лічаць, што галаснікі маюць візантыйскае паходжанне.

Мноства нашых калегаў вывучалі акустычныя вазы, якія можна ўбачыць у старадаўніх цэрквах нашай краіны. Дакументы па гэтай праблеме былі сабраныя спадарамі Энлартам[12] і Вачэзам[13].

Спадзяюся, што гэтыя нататкі з дзённіка майго падарожжа могуць зацікавіць тых нашых калегаў, якія займаюцца помнікамі археалогіі.

Заўвагі

[1] У перакладзе: Барон Жозэф дэ Бай. Каложская царква ў Гродне (Заходняя Русь). Парыж, 1905

[2] У перакладзе: Барон Жозэф дэ Бай. У Літве. Успаміны пра падарожжа. Парыж, 1905

[3] Некаторыя малюнкі і апісанні Каложскай царквы апублікаваў П. Н. Бацюшкоў у сваёй кнізе (на рускай мове) пад назвай *Белоруссия и Литва* (Санкт-Петербург, 1890).

[4] Уладзімір Манамах займаў кіеўскі трон з 1113 па 1125 г.

[5] Іпацеўскім летапісам называюць копію хронікі, аўтарам якой з’яўляецца манах Нестар. Яна была знойдзена ў Іпацеўскім манастыры ці манастыры святога Іпація (Кастрамская губ.). Гэтую копію датуюць канцом XIV – пачаткам XV стагоддзя. Іпацеўская хроніка была выдадзеная Імператарскай археаграфічнай камісіяй у другім томе “Поўнага збор рускіх летапісаў”.

[6] Яраслаў Вялікі (1015-1054), вялікі князь Кіеўскі. Выдаў замуж дачку Ганну за караля Францыі Генрыха I.

[7] Аўтар памыляецца. У 1183 г. падчас навальніцы была разбураная г.зв. Ніжняя царква, якая знаходзілася на тэрыторыі Гродзенскага замка. (заўвага рэд.).

[8] Гаворка ідзе пра маёнтак Чашчаўляны. Вялікі князь Аляксандр Ягелончык памёр у 1506 г., а Чашчаўляны былі нададзеныя Каложскай царкве ў 1500 г. (заўвага рэд.).

[9] Вяршок роўны 44,45 мм

[10] Кафедральны Сабор святой Сафіі ў Ноўгарадзе быў збудаваны ў 1045 г. пры князі Яраславе Уладзіміравічы.

[11] Царква святога Мікалая “двара Яраслава” была збудаваная пры князе Мсціславе Уладзіміравічы.

[12] Enlart. Manuel d’archéologie française, t. 1, p. 703.

[13] A.Vachez. Des echea ou vases acoustiques. Congres archéologique de Montbrison. 1885.

**Фелікс Акерман (Вільня-Берлін)**

# Адна на ўсіх? Спадчына Элізы Ажэшкі ў Гародні XX ст.

*…для пэўнай катэгорыі людзей жыць у Ангродзе значыла тое самае, што жыць у падполлі. Даводзілася абыходзіцца без сонца**
*Эліза Ажэшка*

Эліза Ажэшка ўвайшла ў польскую літаратуру як адзіны прадстаўнік рэалістычнай традыцыі на землях гістарычнай Літвы. Дзякуючы раманам “Над Нёманам” і “Мэер Юзэфовіч”, яна забяспечыла сабе пачэснае месца ў аналах польскай літаратуры. А яе тэксты пра эмансіпацыю жанчын на пачатку XXI ст. ізноў выклікаюць зацікаўленасць. Але, як паўплывала яе творчасць на горад, у якім яна жыла?

Невялікі горад на Нёмане, які пасля падзелаў Рэчы Паспалітай ператварыўся ў цэнтр расейскай губерні, пасля смерці Ажэшкі ў 1910 г. неаднаразова пераходзіў з рук ў рукі. Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны, падчас якой Гародня на працягу чатырох год была акупаваная нямецкімі войскамі, у 1921 г. яна паводле Рыжскай дамовы была далучаная да II Рэчы Паспалітай. Насуперак нацыянальнаму складу насельніцтва (нават паводле польскай статыстыкі палякі не перавышалі 39% насельніцтва горада) была зроблена спроба ператварыць Гародню ў інтэгральную частку польскай дзяржавы[1]. У верасні 1939 г. у адпаведнасці з сакрэтным дадаткам да пратаколу Молатава-Рыбентропа Гародня была занятая савецкімі войскамі, і ў тым самым годзе далучаная да БССР. Сталінская палітыка тэрору супраць землеўласнікаў і носьбітаў “буржуазнай культуры”, закранула перш за ўсё габрэяў і палякаў. Пасля нападу Германіі на СССР у чэрвені 1941 г. новыя акупанты далучылі Гародню разам з Беластоцкай акругай да Усходняй Прусіі, а тым самым і да Нямецкага Рэйху. Палітыка абмежаванняў тычылася ўсіх грамадзянаў гораду,

* Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. Warszawa, 1964, s. 127. “Ангродам” у сваіх навелах і апавяданнях пісьменніца называла Гародню (заўвага рэд.).

якія не пайшлі на супрацоўніцтва з акупацыйнай уладай. Пасля знішчэння гарадзенскіх габрэяў, якія складалі палову ўсіх жыхароў, горад назаўсёды змяніў сваё аблічча. Улетку 1944 г. пасля захопу Гародні Чырвонай Арміяй яна канчаткова стала часткай БССР, а з абвяшчэннем Дэкларацыі аб незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 1991 г. ператварылася ў частку суверэннай беларускай дзяржавы.

Пры гэтым на працягу ўсяго XX ст. творчасць Элізы Ажэшкі адыгрывала важную ролю літаратурнай крыніцы гістарычнай памяці. Гародня Э.Ажэшкі сталася прасторай агульнай памяці.

## Канец эпохі

23 траўня 1910 г., калі труну з целам Элізы Ажэшкі неслі да месца пахавання, амаль уся Гародня прыйшла развітацца з ёю. Апошнюю пашану аддавалі габрэйскія і польскія жыхары Гародні, рускае чыноўніцтва, прадстаўнікі ўсіх кварталаў гораду, сярод якіх было шмат габрэяў з размешчанага паблізу Сяннога рынку, сялянаў з гарадской ваколіцы, служачых са збяднелай шляхты, каталіцкага памеснага дваранства і “тутэйшых”, галоўным чынам беларусаў, якія праз некалькім дзесяцігоддзяў увойдуць у лік гараджанаў. Толькі вучням быў катэгарычна забаронены ўдзел у пахаванні. Улады спадзяваліся, што гэта прадухіліць “атручванне” маладых хрысціянаў “польскім духам” і не дазволіць ператварыць пахаванне ў польскую дэманстрацыю.

*Шэры двор*, як называлі драўляны дом пісьменніцы на вуліцы, што вяла да чыгуначнага вакзалу на шляху Варшава-Вільня-Перцярбург, здавалася, губляўся ў жалобным натоўпе. Памяшканне, дзе адбывалася развітання з Элізай Ажэшка, танула ў вянках і кветках ад розных установаў гораду, ад Ратушы, габрэйскай супольнасці, прафесійных цэхаў, саюзаў і аб’яднанняў. Адсюль працэсія накіравалася да маленькай рынкавай плошчы паміж Фарным (паезуіцкім) касцёлам і двухпавярховай Ратушай, а таксама жылым домам купца Мураў’ёва. Колькасць людзей на Рынку варшаўская штотыднёвая газета “Tygodnik Ilustrowany” вызначыла як болей за 15 тыс.[2] Адсюль жалобны картэж накіраваўся ўздоўж барочнага жаночага Кляштара брыгітак праз чыгуначныя пуці па Ерусалімскай вул. да каталіцкага некропаля. Каля магілы другога мужа пісьменніцы Станіслава Нагорскага стаялі дзевяць лепшых прамоўцаў. Больш не дазволілі ўлады.



**Пахаванне Э.Ажэшкі. 1910 г.**

*Гародня і Ажэшка: каханне – нянавісць*

Нягледзячы на прынятыя абмежаванні, пахаванне польскай пісьменніцы стала маніфестацыяй прызнання яе аўтарытэту як сумлення гораду. Гэта было надзвычай важна, бо жыццё Гародні на працягу дзесяцігоддзяў пасля падаўлення студзеньскага паўстання 1863 г. вызначалася жорсткай барацьбой расейскага ўраду супраць каталіцкай польскамоўнай эліты. Апошняя паходзіла пераважна з арыстакратычных дамоў гарадзенскіх ваколіцаў і стварала асаблівую культуру сядзібаў, а збяднеўшы, вяла сялянскае жыццё.

Гародня, у якой з 1678 г. адбываўся кожны трэці Сейм Рэчы Паспалітай, паступова ператваралася ў расейскі губернскі горад[3]. Мясцовая каталіцкая буржуазія з прычыны прававых абмежаванняў і дрэннага эканамічнага становішча на пачатку XX ст. амаль не існавала. У той час, як вярхі арыстакратыі шукалі прытулку ў французскай і англійскай культуры, шматлікае новае насельніцтва гораду паступова дапасоўвалася да расейскай рэчаіснасці.

На пачатку XX ст. на гарадзенскіх вуліцах і завулках толькі зрэдку можна было чуць польскае слова. Дамінаваў ідыш габрэйскіх рамеснікаў і гандляроў. На працягу ўсяго XIX ст. габрэі складалі пераважную колькасць гарадскога насельніцтва. Большасць габрэяў жыла

на левым беразе Нёмана, у гістарычным габрэйскім квартале старога гораду, а таксама каля Сяннога рынку. Тыя, хто здолеў дасягнуць эканамічнага дабрабыту, мелі рэзідэнцыі ў двухпавярховых гарадскіх дамах уздоўж цэнтральных артэрыяў гораду: на Рынку, Замкавай і Саборнай вул. Апошняя канчалася каля старажытнай гатычнай Фары, якую пасля студзеньскага паўстання "упрыгожылі" візантыйскімі купаламі і ператварылі ў праваслаўны сабор. Хаця элітарная польская культура і мова для габрэяў старажытнай Літвы ("літвакоў") традыцыйна была пэўным узорам, Ажэшка на працягу свайго жыцця ў горадзе магла назіраць, як падчас індустрыялізацыі адбываецца працэс іх збліжэння з расейскай культурай[4]. У пэўным сэнсе па-польску ў Гародні размаўлялі бадай што толькі старыя габрэі. Руская мова пераважала ў адукацыі, кіраванні, гандлі, а таксама выкарыстоўвалася ў кантактах з сялянамі ваколіцаў, што размаўлялі на гаворках беларускай мовы.

Пашана гарадзенцаў да Элізы Ажэшкі здзіўляе, бо не цяжка заўважыць неадназначнае стаўленне да гораду яе і другога мужа пісьменніцы. Яна на нейкі час прыехала ў Гародню хутка пасля таго, як у 16-гадовым узросце пабралася са старэйшым за сябе на некалькі дзесяцігоддзяў сябрам бацькоў шляхціцам Пятром Ажэшкам. Пазней, калі пасля Студзеньскага паўстання ён быў высланы ў Сібір, яна не толькі развялася з ім, але і адмовілася пасля яго смерці ад маёнткаў, дзе ўжо пачала ўвасабляць свае пазітывісцкія погляды ў "арганічную працу". Як паказаў біёграф Ажэшкі Эдмунд Янкоўскі, адзінай прычынай застацца ў Гародні была прысутнасць тут Станіслава Нагорскага[5]. Адвакат і дарадца Ажэшкі, ён быў жанаты, і да смерці сваёй першай жонкі імітаваў захаванне шлюбу.

Эліза Ажэшка жыла ў Гародні да 1879 г., калі пачала друкавацца і актыўна дзейнічаць як уладальніца кнігарні ў Вільні. Аднак, гэтая ініцыятыва пацярпела няўдачу, бо мясцовы цэнзар пачаў ствараць перашкоды, а польскамоўныя чытачы Вільні і крытыкі з Варшавы не праявілі вялікай цікавасці да творчасці Э.Ажэшкі. Эмансіпацыйныя намеры пісьменніцы не знайшлі падтрымкі сярод шырокіх колаў чытачоў. Пасля вымушанага закрыцця яе кнігарні ў Вільні ў 1882 г. Ажэшка тры гады знаходзілася пад хатнім арыштам ў Гародні. Так, лёс канчаткова звязаў яе з новай радзімай[6].

Правінцыйны горад на Нёмане ў тыя часы ў культурным плане знаходзіўся ў цені Вільні і Пецярбурга, эканамічна ён быў цесна звязаны з чыгункай, наяўнасць якой, аднак, лепш выкарыстоўваў блізкі Беласток.




**Эліза Ажэшка (1841-1910)**

Адчай уласнага становішча ў сваім "Ангродзе" Ажэшка выказвала ў шматлікіх лістах да знаёмых і сяброў. 3 лютага 1889 г. у лісце да Эдварда Паўловіча яна так перадае свае пачуцці: "Гародня падобная да сумнай мёртвай магілы. Трэба тут жыць, каб гэта зразумець. Гаворка не пра тое, што ўсё добрае тут ужо адышло ў нябыт, а пра тое, што яно ўціскаецца так моцна, што ледзьве можа дыхаць. Ці будзе гэта працягвацца да часу пакуль мы не выпусцім дух? У гэтым таямніца будучыні і, мажліва, таямніца нашага існавання на гэтай зямлі. Як здаецца, мы жывем толькі дзеля таго, каб утрымліваць дыханне ў грудзях сваёй Радзімы і пераадольваць смерць да таго моманту, калі з нас спадзе цяжар. Мы як карыятыды, якія трымаюць на ўласных плячах мёртвы і апусцелы будынак, пакуль у ім не пачнецца новае жыццё. Але ці здарыцца гэта калісьці? Я мяркую, што так будзе, таму што свет, які адчуў моц асветы і гуманістычных ідэй, не можа доўга тануць у такой багне, як сённяшняя. Але тое, што мы не перажывём узмацнення рэакцыі, падаецца больш чым верагодным"[7].

Пісьменніца пакутавала не толькі ад палітычнай сітуацыі, але і ад кепскіх умоваў жыцця, апартунізму навакольнага асяроддзя, у прыватнасці, ад пасіўнасці мясцовых палякаў, якія глядзелі на яе пазітывісцкую "працу над падмуркамі" як на барацьбу з паветранымі млынамі. Як вынікала з ліста да Паўловіча, Ажэшка імкнулася захаваць дух патрыятызму і змагалася супраць "цемры". Першае адносілася да Літвы як інтэгральнай часткі колішняй Рэчы Паспалітай[8]. Другое было звязанае з пазітывісцкай ідэяй прагрэсу. Паводле яе, грамадскія крызісы пераадольваюцца ўласнымі намаганнямі праз прагрэс, асвету і дабрачыннасць.

## Дылемы доўгага XIX ст.

Творчая спадчына Ажэшкі дапамагае прасачыць, як наіўныя ідэалы ператвараліся ў светапогляд, і як яна паступова адыходзіла ад тэорыі прагрэсу. Месца яе і расчаравання, і адкрыццяў – гэта заўсёды старажытная Літва, дзе побач з сядзібамі Мількаўшчызна, Людвінава і Панямунь прысутнічала і Гародня. Яна шпацыравала па вуліцах, уздоўж якіх ліліся сцёкавыя воды, наведвала рамеснікаў на Сянным рынку, размаўляла з беднякамі каля драўляных халупаў гарадской ваколіцы. У Гародні ўзнікла ідэя "Мэера Юзэфовіча", вялікага рамана пра супярэчнасці габрэйскай эмансіпацыі ў навакольных мястэчках. Тут яна вяла доўгія размовы з рабінам і вывучала штодзённае жыццё гарадзенскіх габрэяў. У Гародні жылі прататыпы яе апавяданняў "Добрая пані", "З розных асяродкаў", "А... Б... С..." і "Дзюрдзёвы".

Эліза Ажэшка як шляхцянка з дэмакратычнымі перакананнямі выкарыстоўвала этнаграфічныя звесткі не толькі для сваёй прозы. Яна стала грамадзянкай гораду, і для яе аднолькава важным было і захаванне элітарнай польскай культуры, і інтарэсы жабракоў незалежна ад таго, ці яны былі габрэямі, палякамі або беларусамі.

Кульмінацыя яе дзейнасці прыпадае на гады пасля вялікага пажару 1885 г., які знішчыў драўляную частку старога гораду. Ажэшка збірала грошы для беспрытульных гарадзенцаў па ўсёй Польшчы і Літве, а яе варшаўскія сябры выдалі "Анталогію", прысвечаную ахвярам пажару.

Напрыканцы XIX ст. *Шэры двор* ператварыўся ў цэнтр польскай культуры. Тое, што Ажэшка праводзіць заняткі па вывучэнню польскай мове для 12-24 дзяўчатаў і трымае на паддашшы польскую бібліятэку, было агульнавядомым сакрэтам. Дом Ажэшкі быў салонам, куды прыходзілі тыя, хто жадаў абмеркаваць пытанні, якія тычыліся сучаснага становішча Літвы. Дзякуючы сваёй літаратурнай творчасці і сацыяльнай ангажаванасці Эліза Ажэшка, сапраўды, стала сумленнем гораду.

Яе смерць сімвалізавала пэўнае заканчэнне ў Гародні доўгага XIX ст., якое пачалося барацьбой эліты супраць панавання Расейскай дзяржавы і заканчвалася подыхам індустрыялізацыі, што мела спусташальныя ценявыя бакі. Ажэшка ў сваёй творчасці і грамадскай дзейнасці спрабавала знайсці выйсце з тупіковага становішча самых розных сацыяльных групаў насельніцтва, у т.л. габрэяў, рабочых альбо жанчынаў. Аднак, напрыканцы жыцця яна зразумела, што больш



***Шэры двор* Э.Ажэшкі.**



**Пісьменніца ў сваім доме.**

не можа і не жадае быць у струмені падзей. Ажэшка ледзьве адгукнулася на мясцовыя падзеі рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. Яе адносіны да тагачасных сацыялістычных накірункаў былі складанымі, а спробы паўплываць на палітыку сілай свайго аўтарытэту малапаспяховымі. Але ход гісторыі прывёў таксама да ажыўлення нацыянальнага руху. Пісьменніца, прадстаўленая ў 1905 і 1909 гг. на спашуканне Нобелеўскай прэміі, ізноў стала рухавіком мясцовых польскамоўных

грамадскіх ініцыятываў. Пры гэтым было зразумела, што на гэтым этапе польская справа – гэта ўжо не шляхецкая рэспубліка. Тагачасны польскі нацыяналізм спаборнічаў з сіяністкай, літоўскай і беларускай канцэпцыямі, якія глядзелі на свет праз прызму інтарэсаў уласных нацый.

Ужо пры жыцці пісьменніцы яе ўшанаваннем займаліся з вялікім пафасам і прафесіяналізмам. Спачатку гэта былі сябры і калегі, якія, напрыклад, арганізавалі прыём у гонар 25-гадовага юбілею яе літаратурнага дэбюту. Потым да іх далучаліся ўсё новыя і новыя колы, якія спалучалі цікавасць да творчасці Ажэшкі з уласнымі інтарэсамі. Так, таемная жаночая вечарына ў Варшаве ў 1887 г. была прымеркаваная да дня нараджэння Ажэшкі. Гэтым жа было заклапочана і польскае асяроддзе Пецярбурга, якое канцэнтравалася вакол часопіса "Край", дзе Ажэшка друкавалася насуперак варшаўскім плёткам пра яе міфічнае русафільства. Пазней культ пісьменніцы быў перанесены ва ўсё больш шырокія колы грамадскасці, і дзеля арганізацыі святочных мерапрыемстваў выкарыстоўваўся літаральна кожны юбілей. Бязхмурныя вяршыні літаратурнай творчасці распраменілі змрочную Гародню, і ў 1907 г. улады вырашылі надаць ёй званне ганаровага жыхара гораду. Але галасы праціўнікаў усё ж атруцілі афіцыйныя ўрачыстасці, напр., варшаўскія феміністкі папракалі Ажэшку ў здрадзе ідэалаў жаночай эмансіпацыі. Наогул, яе юбілеі напярэдадні Першай сусветнай вайны мелі выразна нацыянальны характар. Яны стваралі рэдкую мажлівасць нагадаць пра захаванне польскай культуры ў гістарычнай Літве[9].

## Прыход XX ст.

Першая сусветная вайна дасягнула Гародні ў верасні 1915 г. і спачатку выклікала вялікую хвалю бежанства. Рускія настаўнікі і служачыя, ваенныя і праваслаўнае духавенства разам з масай людзей "простага звання" эвакуіраваліся ва ўнутраныя губерні Расейскай дзяржавы. Гародню занялі германскія войскі.

Падчас баёў палац колішняга скарбніка Вялікага Княства Літоўскага Антонія Тызенгаўза, які напрыканцы XVIII ст. заснаваў Новы горад, быў разбураны, і новае гарадское кіраўніцтва сабралася на сход у доме Ажэшкі[10]. Фотаздымак гэтага пасяджэння захаваўся. Затое на шматлікіх здымках, якія замаўляліся нямецкімі салдатамі ў мясцовых фатографаў у наступныя гады акупацыі дом Ажэшкі

адсутнічаў[11]. Толькі на некалькіх паштоўках можна было ўбачыць будынак з характэрным франтонам, што было хутчэй выпадкам. Гарадзенскія газеты, якія выдаваліся па-нямецку, па-польску і на ідыш таксама не надавалі ніякага значэння творчасці Ажэшкі.

XX ст. пачалося з вайны. У 1918 г. у Гародні з'явіліся прадстаўнікі ўраду Беларускай Народнай рэспублікі, каб адсюль уплываць на лёс перамоваў у Версалі. Аднак, гэтыя спробы не мелі поспеху па прычыне дамінавання інтарэсаў Расеі, Літвы і Польшчы і слабасці беларускага нацыянальнага руху. Аднак, барацьба за Гародню распачалася. Спачатку фронты праходзілі ў Гародні не столькі па нацыянальнай, колькі па сацыяльнай лініі. У гэты час беларускі рух ў горадзе быў прадстаўлены слаба. У ліпені 1920 г. бальшавікі на некалькі тыдняў захапілі горад, каб восенню 1920 г. саступіць яго войскам Пілсудскага.

## II Рэч Паспалітая: доўгі цень

Разам з стварэннем польскай нацыянальнай дзяржавы непазбежна змянялася і памяць пра патрыятычны рух XIX ст. Тое, што было барацьбой за выжыванне, станавілася арганічнай часткай нацыянальнага наратыву. У Гародні гэтая інтэрпрэтацыя штодзённа мусіла вытрымліваць супраціўленне, бо немагчыма было за некалькі месяцаў сцерці наступствы панавання расейскага самаўладдзя. Многія жыхары гораду, і перш за ўсё габрэі, напачатку дрэнна ладзілі з новай афіцыйнай мовай. Гародня заставалася цэнтрам памежнага рэгіёну, дзе з старажытных часоў адбываўся пераход ад праваслаўя да каталіцызму, а слаба вызначаная нацыянальная прыналежнасць вёсак да польскага ці беларускага боку была абумоўлена іх змешаным характарам і слаба развітай самасвядомасцю. Адназначнасць, якую ў сваім польскім патрыятызме шукала Ажэшка, тут можна было знайсці толькі пры адпаведным выключэнні “іншай праўды”.

І ўсё ж спадчына Ажэшкі ўспрымаецца без гэтай супярэчлівасці. На гэта паўплывалі як моц польскага дыскурсу і адпаведная слабасць беларускага, так і інтэгральная сутнасць твораў самой Ажэшкі. Яна заўсёды спалучала ўласныя нацыянальныя памкненні з навакольнай рэчаіснасцю. Паколькі ў яе творах хаця і маргінальна, але ўсё ж прысутнічалі беларускія сяляне і габрэі з уласцівымі ім моўнымі асаблівасцямі, то прынамсі гэтыя дзве характэрныя для Гародні групы насельніцтва не маглі “скардзіцца” на яе. Пры гэтым з сучаснага пункту гледжання творы Ажэшкі трэба было ацэньваць як

увасабленне прагрэсу, бо ў тагачаснай літаратуры габрэі і беларусы часцей мелі карыкатурны выгляд. Таксама трэба ўлічваць гістарычна-дакументальную вартасць, якую ўжо пры жыцці пісьменніцы мелі яе творы. Яна стварыла багаты літаратурны і мемуарны ландшафт і, такім чынам, паклапацілася пра магчымасць успрыняцця мінулага праз прызму яе твораў.

Рэцэпцыя дзяржаўнага погляду ажыццяўляецца перш за ўсё праз школьныя заняткі і публічныя бібліятэкі, дзе зараз было ўсё тое, што раней забаранялася як польскае. Ужо тады творчасць Ажэшкі належала да канону эпохі г.зв. пазітывізму, дзе яна і надалей павінна была спаборнічаць з Баляславам Прусам і Генрыкам Сянкевічам. Апавяданні і раманы Ажэшкі чыталіся дзецьмі не толькі польскіх жыхароў, чыя ўлада дамінавала зараз у горадзе, але таксама габрэйскімі вучнямі. Хася Беліцкая, якая перажыла трагедыю гарадзенскага гета, узгадвала, што рэгулярна хадзіла ў гарадскую бібліятэку і чытала шматлікія творы Элізы Ажэшкі[12].

У 1920 г. разам з заснаваннем Таварыства сяброў Элізы Ажэшкі атрымаў працяг таксама недзяржаўны, але тым не менш добра арганізаваны культ пісьменніцы. Спачатку мова ішла толькі пра тое, каб распарадзіцца яе спадчынай, выдаць неапублікаваныя творы, сабраць і адрэдагаваць лісты. Аднак, хутка пачалася ажыўленая дыскусія з муніцыпалітэтам і іншымі дзеючымі асобамі пра стварэнне помніка, а ў будучыні і новага тэатральнага будынку, які павінен быў насіць імя пісьменніцы. І вось у 1929 г. быў адкрыты сціплы помнік, створаны Рамуальдам Жэрыхам, які паставіў бюст Ажэшкі на просты канструктывісцкі цокаль з граніту. Падзея суправаджалася гучнымі ўрачыстасцямі і вечарынамі. Месца было добра падабранае: у гарадскім цэнтральным парку, які тады яшчэ насіў назву Швейцарскай даліны і знаходзіўся непасрэдна па суседству з ансамблем тэатра Тызенгаўза.

Пасярэдзіне плошчы Свабоды тады яшчэ стаяла праваслаўная царква Аляксандра Неўскага, узведзеная ў 1872 г. у межах дзяржаўнай праграмы распаўсюду праваслаўя. У адпаведнасці з мерапрыемствамі па паланізацыі праваслаўны сабор на Рынкавай плошчы быў вернуты рымска-каталіцкаму касцёлу, а ў 1938 г. Аляксандранеўская царква была папросту разабраная. Аргументам уладаў было тое, што царква перашкаджае вулічнаму руху. Цікава, як паставілася б да гэтага Ажэшка? Зразумела, што гэтае пытанне ёсць пэўная спекуляцыя… Істотна тое, што гарадскія ўлады клапаціліся, каб горад рабіў

ражанне польскага. Дзеля гэтага былі скасаваныя рускамоўныя назвы вуліц, звязаныя з асобамі імперскага перыяду. Рускамоўныя шыльды з назвамі фірмаў былі поўнасцю зменены на польскамоўныя. У гісторыка-палітычным сэнсе актуалізавалася спадчына вялікага князя літоўскага Вітаўта, таксама як і караля Стэфана Баторыя, якія зрабілі Гародню цэнтрам улады падпарадкаваных ім зямель, абнавілі замак і на далёкіх рубяжах пасяхова змагаліся з войскамі Масквы.

З літаратурнага пункту гледжання ў міжваенны перыяд у Гародні адбывалася мала цікавага. Варта адзначыць толькі трохгадовае прыбыванне Зоф'і Налкоўскай, якая дзякуючы ўласным пошукам літаратурнай верагоднасці і сацыяльнай справядлівасці пакінула прыкметны след у гісторыі гораду. Уражанні, сабраныя пад час дабрачыннай працы ў турме і іншых праблемных з сацыяльнага пункту гледжання месцах, яна апрацавала пасля 1927 г., калі разам з мужам пераехала ў Варшаву. Налкоўская павінна была ведаць пра цесную сувязь Ажэшкі з Гародняй. Для варшаўскай радыкальнай інтэлектуалкі гады, праведзеныя ў Гародні, былі такой жа жорсткай, але і карыснай школай, як і для Ажэшкі. Толькі ў адрозненне ад Ажэшкі яна нават не спрабавала ўвайсці ў мясцовае грамадства, стаць яго часткай. "Нядобрае каханне" належыць да самых значных твораў гэтага перыяду творчасці Налкоўскай. Раман быў напісаны ў 1928 г., калі яна рэтраспектыўна разважала над заганамі Гародні.

Маўчанне Налкоўскай пра Гародню ў параўнанні з вялікай Ажэшкай і адначасова пільная ўвага да гораду ў іх творах сведчаць пра тое, што яны з пункту гледжання сучаснікаў увасаблялі нешта накшталт "душы гораду". Аднак, Налкоўская, як і некалі Ажэшка, свядома заставалася прыхільніцай эмансіпацыі. Гэта, а таксама тое, што яна нядоўга жыла ў Гародні абярнулася тым, што для гарадской грамадскасці яна засталася ў ценю Ажэшкі.

Калі пасля сусветнага эканамічнага крызісу, які аказаў асабліва спусташальны ўплыў на слабаразвітыя паўночна-усходнія раёны II Рэчы Паспалітай, і пастаяннага ўнутрыпалітычнага крызісу пачатку 1930-х гг., сацыяльнае становішча ў Гародні абвастрылася, асобы ўзроўню Ажэшкі тут ужо адсутнічалі. Адпаведна, надпісы "вазок для хрысціянаў" на гарадзенскіх дрожках, заклікі да байкоту ("Не купляйце ў габрэяў!") не выклікалі вострай рэакцыі тыпу памфлетаў, складзеных Ажэшкай ў 1882 і 1905 гг.[13] Яе заклікі бараніць габрэяў, апеляцыя да агульнай гістарычнай спадчыны і імкненне распаўсюджваць вольнасць і асвету належалі да іншай эпохі, калі

польскі нацыяналізм не меў дзяржаўнай падтрымкі, а гарадзенцы не былі расчараваныя паставай уяўных меншасцей, якія ў выпадку Гародні ўсё ж заставаліся большасцю. Такім чынам, нягледзячы на рытуальнае шанаванне пісьменніцы як ганаровай грамадзянкі горада, яе цень не падаў на змрочную эпоху, яна не заўважалася большасцю тагачасных гарадзенцаў.

## Другая сусветная вайна

На працягу пяці гадоў вайны Гародня, якую ведала, любіла і ненавідзела Ажэшка, знікла. Ужо ў першыя дні верасня 1939 г. нямецкія самалёты разбамбілі заходнюю частку горада. Намаляваная на карце ў сакрэтным дадатковым пратаколе пагаднення Молатава-Рыбентропа дэмаркацыйная лінія ў першы час трактавалася вельмі адвольна, таму салдаты Вермахту паклапаціліся пра тое, каб на некалькі дзён нагнаць страху на берагі Нёману. Пасля таго, як яны зніклі, спачатку запанавала атмасфера напружанасці, якая вылівалася ў беспарадкі, падобныя да пагрому, калі польскія салдаты самасудам забівалі габрэйскіх камуністаў, якія падчас маючых неўзабаве пачацца баёў паміж польскімі абаронцамі і савецкімі войскамі змагаліся б на іншым боку. Але ў гарадскіх кварталах, населеных пераважна габрэямі, у сваю чаргу адбываліся напады на хрысціянаў. Пры гэтым Гародня была адзіным горадам на паўночным усходзе Польскай рэспублікі, які ўласнымі сіламі даў адпор савецкаму наступленню.

Супраціўленне было падаўлена толькі 22 верасня фактычна, і Гародня адразу ж была далучана да БССР. Гэта азначала карэннае змяненне існаваўшых сацыяльных структураў. Хаця з дэмаграфічнага пункту гледжання да пачатку высылак вясной 1940 г. грунтоўныя змены не адбыліся, мерапрыемствы савецкага ваеннага камандавання і партыйнага кіраўніцтва былі накіраваны на тое, каб як мага хутчэй уключыць Гародню ў сацыяльныя структуры, створаныя ва ўсходняй частцы БССР. Дзеля гэтага распачаліся рэпрэсіі супраць вялікай часткі насельніцтва. Першымі ахвярамі масавых высылак сталі грамадзяне, якія былі гаспадарчай, адміністратыўнай, палітычнай і духоўнай элітай гораду. Уніфікацыя сацыяльнай прасторы і абмежаванне дзейнасці такіх структураў самакіравання, як габрэйскі кагал, ішла поруч з нівеліроўкай эканамічных стасункаў і пэўным адзяржаўленнем сацыяльнай прасторы. Пры гэтым трэба заўважыць, што саветызацыя не была радыкальнай, і нельга

казаць, што гарадскія структуры змяніліся да непазнавальнасці за гэтыя два гады.

Апошняе было зробленае ўжо нямецкімі акупантамі, якія захапілі Гародню ў чэрвені 1941 г. Хаця рэгіён быў далучаны да Беластоцкай акругі і Германскага Рэйха, палітыка адносна габрэйскага насельніцтва вельмі хутка прыняла характар праследу габрэяў у Польшчы. Праз год пасля стварэння двух гета (лістапад 1941 г.) пачалося знішчэнне іх жыхароў. Сляды апошніх 20 тыс. пасажыраў эшалонаў смерці губляюцца ў лагерах Калбасіна, Трэблінкі і Асвенціма. Гета № 1 у старой частцы гораду і гета № 2 на прадмесці сталі месцамі нямецкіх злачынстваў. Забойства кожнага другога жыхара гораду і штодзённы тэрор, які стаў нормай жыцця астатніх, змянілі Гародню назаўсёды. Зразумела, што ў гэтыя ваенныя гады ўспамін пра Элізу Ажэшка адсунуўся на другі план. Захаваліся звесткі, што яе бюст быў перанесены на каталіцкія могілкі і перажыў там вайну, хоць цокаль помніка быў разбураны нямецкімі салдатамі.

## У савецкім горадзе

Палітыка саветызацыі працягвалася пасля прыходу Чырвонай арміі ў ліпені 1944 г. Сутнасць савецкай палітыкі была ў дасягненні поўнай інтэграцыі Гародні з БССР як неад’емнай часткі Савецкага Саюза ў межах абвешчанага яшчэ ў 1939 г. уз’яднання беларускіх земляў.

Гэтаму павінна была спрыяць таксама міфалагізацыя, якая праявілася ў т. л. у Гародні, дзе знайшлі сляды Кіеўскай Русі ў архітэктуры. Пра гэта казалі на прыкладзе пабудаванай у XII ст. Каложскай царквы. Адбывалася выцясненне польскай і літоўскай гістарычнай спадчыны, увасабленнем якой перастала быць Замкавая гара. Замест гэтага ядром экспазіцыі новага Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея стала развіццё калгаснага будаўніцтва і індустрыялізацыя БССР[14].

Працэсу новай савецкай заваёвы моцна перашкаджаў супраціў польскіх партызанаў на паўночным захадзе БССР. Узброеныя групоўкі, якія складаліся пераважна з салдатаў Арміі Краёвай, ужо з 1943 г. вялі змаганне з савецкімі партызанамі, а пазней з рэгулярным войскам, партыйнымі і савецкімі работнікамі. Адначасна ішла жорсткая барацьба ідэалогій. Большасць каталікоў, якія былі моцна звязаны з польскай нацыянальнай ідэяй, цвёрда верыла, што “Польшча сюды яшчэ вернецца”. Значная частка польскіх сялянаў і гараджанаў

заставалася на сваёй радзіме нават тады, калі было заключана пагадненне пра рэпатрыяцыю мясцовых палякаў у Польшчу, а этнічных беларусаў з Польшчы ў БССР. Аднак, калі людзі пераканаліся, што новая Польшча будзе толькі дзяржавай-сатэлітам СССР, надзея на вызваленне і адраджэнне Гарадзеншчыны згасла.

З 1945 па 1949 г. з Гародні і яе ваколіцаў у Польшчу эмігрыравала больш за 15 тыс. палякаў і габрэяў. Пакідаць Радзіму прымушала памяць пра савецкія рэпрэсіі 1939-1941 гг. і пачатак калектывізацыі. У адрозненні ад прымусовага высялення нямецкага насельніцтва з "ізноў далучаных да Польшчы абласцей" яны мусілі падаваць заяву і даводзіць, што з'яўляюцца грамадзянамі II Рэчы Паспалітай і этнічнымі палякамі альбо габрэямі. Калі ў іх атрымлівалася гэта даказаць і развеяць сумненні "кампетэнтнай камісіі", яны маглі пакінуць Савецкі Саюз.

Фактычна, гэта азначала, перш за ўсё, ад'езд гарадскога насельніцтва, якое не бачыла для сябе ніякіх перспектываў ў СССР, а таксама не прадстаўляла асаблівага інтарэсу для новай сістэмы. Значна менш закранула гэта навакольных сялянаў. Ім цяжэй было сабраць доказы, бо на вёсцы стагоддзямі жылі змешаныя сем'і. Апроч таго, яны былі моцна прывязанымі да свайго кавалку зямлі, а ў якасці працоўнай сілы былі патрэбныя калгасам. Мясцовае кіраванне імкнулася іх затрымаць. Але для нас важна тое, што краіну пакідалі менавіта тыя групы насельніцтва, для якіх Эліза Ажэшка была часткай нацыянальнага або рэгіянальнага канону.

Тым не менш, рашэннем гарадскога Савету скульптура Ажэшкі зноў была ўстаноўлена ў ліпені 1947 г. На старонках "Гарадзенскай праўды" можна было прачытаць, што насуперак ганебным планам "нямецкіх варвараў" помнік быў адноўлены паводле праекту гарадскога архітэктара Кліменкі, які асабіста прасачыў, каб ён цалкам адпавядаў разбуранаму арыгіналу[15]. У чэрвені ў газеце быў апублікаваны фотаздымак дому Э.Ажэшкі, а подпіс пад ім тлумачыў, што гэта дом "польскай пісьменніцы"[16]. Улады свядома пакідалі Элізу Ажэшка як польскае месца памяці ў горадзе, які стаў савецкім. У чэрвені 1949 г у "Гарадзенскай праўдзе" з'явілася публікацыя, аўтар якой рэкамендаваў выдаць збор яе твораў на рускай мове. Пры гэтым ухвалялася "дэмакратычная па духу" творчасць Ажэшкі[17].

Звярталася ўвага, што пісьменніца апісвала нацыянальны, класавы і рэлігійны прыгнёт, што яна паказвала цяжкія ўмовы жыцця ніжэйшых колаў грамадскасці, падкрэслівала лепшыя якасці людзей

з народу, крытычна ацэньвала паместнае дваранства (напр., у рамане “Над Нёманам”), дэманстравала самаізаляцыю габрэйскага мястэчка (напр., раман “Мэер Юзэфовіч”). Таксама звярталася ўвага, што падзеі яе твораў адбываюцца на Гарадзеншчыне, што абавязкова прыцягне ўвагу яе сучасных жыхароў. А канчалася публікацыя традыцыйнай падзякай за вызваленне “вялікага правадыра” Сталіна.

Варта заўважыць, што “вяртанне” Ажэшкі адбылося ў той час, калі ў выніку перасялення працэс маргіналізацыі мясцовых палякаў набліжаўся да завяршэння. Савецкія ідэолагі імкнуліся выкарыстаць элементы польскай спадчыны, але пры гэтым шмат увагі надавалася замацаванню ўяўленняў пра новую Польшчу ў яе новых межах. Таксама як чужы паэт, звязаны з Гарадзеншчынай, у гэты час згадваўся Адам Міцкевіч[18]. Хоць заўсёды падкрэсліваўся “рэвалюцыйны характар” ягоных твораў і “прагрэсіўны светапогляд”.

Наступны момант выкарыстання польскай спадчыны і ўвядзення яе ў новы кантэкст звязаны з вяртаннем Чыгуначнай вуліцы імя пісьменніцы. Пры гэтым узнікла праблема з транслітэрацыяй яе прозвішча на рускую і беларускую мовы. Напачатку, у 1945 – 1948 гг. выкарыстоўвалася польская форма “вуліца Ожэшкова”. Адначасна ўжываўся беларусізаваны варыянт – “вуліца Ажэшкова”[19]. Але з цягам часу перамог рускі варыянт - “улица Ожешко”. Пры гэтым польская форма скланялася па правілах рускай граматыкі – “улица Ожешковой”. Беларускі аналаг (“вуліца Ажэшкі(а)”) з’явіўся значна пазней і на працягу XX ст. скланяўся па-рознаму.

Тое, што новыя гаспадары гораду адразу зразумелі вагу Ажэшкі як “культурнага козыра” ў адносінах з польскім насельніцтвам, пацвярджаюць дакументы. Партыйныя ўлады ўжо ў 1944 г. прынялі рашэнне пра стварэнне музеяў Стэфана Баторыя і Элізы Ажэшкі[20]. Аднак, экспазіцыя ў “доме Ажэшкі” з’явілася толькі ў 1967 г. Раней яе постаць фігуравала выключна ў экспазіцыі Гарадзенскага гісторыка археалагічнага музея, прысвечанай пісьменнікам Беларусі. Аднак, і ў гэтым музеі ў 1949 г. не было ні працаў, ні дакументаў, прысвечаных славутай пісьменніцы[21]. Галоўнай прычынай была адсутнасць супрацоўнікаў з веданнем польскай мовы. Відавочна, што веды пра старую Гародню не былі запатрабаваныя новай уладай.

У наступныя гады дом Элізы Ажэшкі выкарыстоўваўся ў розных мэтах. Між іншым якраз тут знаходзілася бюро гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Тут знайшоў сабе прытулак і Васіль Быкаў. У аўтабіяграфіі “Доўгая дарога дадому” (Мінск, 2004)

ён шмат пісаў пра гэты дом як пэўную скарбніцу інтэлігенцыі, якая магла збірацца тут у цяжкія моманты. Але франтальнае наступленне на Васіля Быкава і яго сяброў Аляксея Карпюка і Барыса Клейна, распачатае ў 1974 г., паказала, што Саюз пісьменнікаў застаецца савецкай установай, а дом Ажэшкі будзе служыць выключна вызначаным партыяй мэтам.

У межах мадэрнізацыі гораду пешаходны тратуар вуліцы Ажэшкі быў пашыраны. Насельніцтва горада павялічвалася, стары горад разрастаўся новабудоўлямі. У сярэдзіне 1950-х гг. улады вырашылі перанесці дом Ажэшкі на некалькі дзесяткаў метраў ўглыб вуліцы. Адпаведна, акрамя захаванага ў арыгінальным выглядзе каміна і некалькіх іншых элементаў гэты дом сёння ўяўляе сабой не больш чым удалую копію арыгіналу.

Толькі пасля перадачы ўсёй справы ў рукі выкладчыкаў Дзяржаўнага педагагічнага інстытута (з 1978 г. Дзяржаўнага універсітэту імя Янкі Купалы) у 1967 г. была распрацавана выстава, прысвечаная Элізе Ажэшка. Гэта быў мадыфікаваны савецкі пункт гледжання на жыццё і творчасць пісьменніцы. Асаблівая ўвага звярталася на яе мясцовае паходжанне, якое ў геаграфічным сэнсе можна было акрэсліць як беларускае; на дабрачынную дзейнасць, а таксама "барацьбу супраць імперыялістычнага прыгнёту"; на кантакты з іншымі "прагрэсіўнымі" пісьменнікамі, сярод якіх быў украінскі паэт Іван Франко; на тое, што Ажэшка як аўтарка клапацілася пра беларускі народ. Дэманстраваліся мясцовыя ўспаміны пра польскую пісьменніцу.

І ўсё ж такі многае супярэчыла савецкаму клішэ. Так, можна было ўбачыць фотаздымак цырымоніі адкрыцця помніка ў гарадскім парку з ягонай тагачаснай назвай "Швейцарская даліна". Былі прадстаўленыя дакументы дабрачыннай дзейнасці пісьменніцы. На фотаздымку яе пахавання можна было ўбачыць усю разнастайнасць даваеннага гораду, прачытаць надпісы на стужках пахавальных вянкоў. Але нельга пераацэньваць гэтую ўяўную адкрытасць. Так, Аляксей Карпюк у лісце да Міхаіла Гарбачова (1987) звяртаў увагу, што і выстава, і памятная дошка каля ўваходу ў дом Ажэшкі існавалі толькі ў беларускамоўным варыянце. Выкарыстанне польскай мовы было забаронена[22]. Можна было даведацца, што выстава прысвечаная польскай пісьменніцы, але гэта зусім не азначала, што палякі Беларусі маюць права згадваць пра яе нацыянальнасць.

У 1929 г. надпіс на помніку Ажэшкі быў зроблены па-польску, а пасля яго аднаўлення ў 1947 г. застаўся толькі росчырк подпісу

пісьменніцы. У сярэдзіне 1950-х гг. да яго дадалі рускі эквівалент "Элизе Ожешко", які быў аддзелены ад подпісу выявай ліста. На паштоўцы 1979 г. з выявай помніку відаць, што рускі надпіс знік, засталіся толькі сляды кірылічных літараў. Дасюль невядома, хто загадаў гэта зрабіць, і калі адбылася замена. Магчыма, што ў кагосьці з кіраўнікоў было разуменне прысутнасці ў горадзе двух моваў, а знікненне рускага надпісу ўказвае на існаванне ў горадзе іншай рэальнасці, якая адрознівалася ад той рускамоўнай, якую навязвала партыйная наменклатура. Цікава было б і далей даследаваць гэтае пытанне. Вядома, што ў 1980-я гг. помнік стаў месцам сустрэчы мясцовых хіпі, якія з павагай і не без іроніі ўзгадвалі "Жалезную лэдзі"[23].

## У часы Перабудовы

Палякі Беларусі (іх колькасць ў Гарадзенскай вобл. складала больш за 25%, а ў горадзе 20%) з канца 1980-х гг. атрымалі пэўную свабоду нацыянальнага жыцця. Афіцэр савецкіх памежных войскаў з вёскі з-пад Гародні Тадэвуш Гавін, які напрыканцы 1980-х гг. заснаваў Саюз палякаў, у аўтабіяграфічных нарысах "Перамогі і паражэнні" паказаў, як пад уплывам "Перабудовы" і дзякуючы ініцыятыве адзінак паступова мяняліся адносіны партыйнага кіраўніцтва да культурнай дзейнасці палякаў, і ўпершыню з'явілася магчымасць адкрыта ўзняць "польскае пытанне". З іншага боку, ён жа прыгадаў адмоўную рэакцыю савецкіх кантралюючых інстанцый, калі падчас свята Усіх святых у 1988 г. яго сям'я малілася ў грамадскім месцы, на магіле Элізы Ажэшкі[24].

Утворанае ў 1988 г. Польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча дзейнічала ў межах савецкай канстытуцыі і абвешчанай тады "Галоснасці". Ягонай мэтай была падтрымка культурнай дзейнасці польскай меншасці. Упершыню пасля Другой сусветнай вайны сталі адкрыта сталі размаўляць пра "польскае пытанне", абмяркоўваць тэмы, звязаныя з праблемамі ў галіне мовы, гісторыі і культуры. Для некаторых прадстаўнікоў старэйшага пакалення гэта было вяртаннем да "старых добрых польскіх часоў", а для малодшых, якія былі выхаваны ўжо ў савецкім духу, распачыналася новая эпоха. Сапраўды, большасць палякаў Гарадзенскай вобл. згубіла сваю мову, а нацыянальныя міфы і традыцыі захаваліся толькі ў асобных сем'ях.

Акрамя магчымасці прыватнай дэманстрацыі ўласнай польскай ідэнтычнасці ўжо можна было праводзіць паўлегальныя

мерапрыемствы. Варта назваць рэфераты пра значэнне Э.Ажэшкі для Гародні, што чыталіся на аддзяленні паланістыкі Дзяржаўнага універсітэту імя Я.Купалы. У чэрвені 1991 г. святкаваліся 150-я ўгодкі нараджэння пісьменніцы. З гэтай народы ў Бернардзінскім касцёле, дзе яна вянчалася, з'явілася ганаровая шыльда яе памяці. Яшчэ адна шыльда была ўрачыста адкрытая ў касцёле в. Каменкі.

У гэты час і ў Польшчы пачалі ўзгадваць пра культурную спадчыну, пакінутую ў Савецкім Саюзе. Моц нацыянальнага пафасу, які вызваляўся пры гэтым, можна назіраць на прыкладзе турыстычнай вандроўкі Барбары Ваховіч, якая ў 1990 г. накіравалася на пошукі Багатыровічаў і высветліла, што ў вёсцы, дзе разгортваліся падзеі рамана "Над Нёманам", яшчэ і сёння існуюць магілы і жывуць сваякі прыдуманых герояў.

Усе гэтыя падзеі для польскай грамадскасці Гародні былі сапраўдным пераломам. Пры гэтым Эліза Ажэшка сталася ўзорам і прыкладам самавызначэння асобы. Зразумела, што яна знаходзілася ў ценю Міцкевіча, што засведчыў ужо выбар ганаровага імя для культурнага таварыства. Але роля гістарычнага натхняльніка гарадзенскага прарыву належала ўсё ж такі не яму.

## У Рэспубліцы Беларусь: нацыяналізацыя памяці?

Пасля абвяшчэння Рэспублікай Беларусь суверэнітэту мала што змянілася. Атрыманне дзяржаўнай самастойнасці не было вынікам змагання беларускага нацыянальнага руху. У большай ступені яно стала наступствам шэрагу узаемазвязаных фактараў, сярод якіх і абвешчанне суверэнітэту ў краінах-сатэлітах СССР, і абарончая пазіцыя кансерватыўнага менскага кіраўніцтва.

У палітыцы памяці можна было заўважыць паступовую беларусізацыю. Аднак, пасля абрання ў 1994 г. прэзідэнтам Аляксандра Лукашэнкі пачалося актыўнае вяртанне да жыцця ідэалагемаў савецкай памяці. Памятная шыльда на "Шэрым двары", які заззяў блакітам, па-ранейшаму ухваляла прагрэсіўнасць "дэмакраткі", а дом пісьменніцы выконваў тыя ж самыя функцыі.

Розніца ў адносінах да Элізы Ажэшкі была толькі ў тым, што з'явілася магчымасць адкрыта казаць пра яе як пра польскую пісьменніцу. Прыкметай гэтага стала змяшчэнне на адкрытай у 1992 г.

каля ўваходу ў “Шэры двор” новай памятнай шыльды з тэкстамі па-беларуску і па-польску[25].

Саюз палякаў Беларусі, які ўзнік на падмурку Польскага культурнага таварыства, стаў самай буйной грамадскай арганізацыяй краіны. Напрыканцы 90-х гг. ён налічваў каля 25 тыс. сяброў. Сярод мерапрыемстваў, якія праводзіў Саюз, былі і тыя, што ажыўлялі цікавасць да творчасці Ажэшкі і мелі практычную накіраванасць. Напрыклад, важную ролю адыгрывалі вандроўкі ў Багатыровічы, якія суправаджаліся адкрыццём турыстычнага “Шляху Ажэшкі”, канферэнцыяй і выставамі.

Для разумення гэтых пераменаў надзвычай важнымі былі як пэўнае разняволенне Беларусі, так і тыя працэсы, якія акрэсліваюць крылатым словам Адраджэнне. Яно непасрэдна датычыла як польскай меншасці, так і беларускай нацыянальнай эліты, якая да абрання прэзідэнтам Лукашэнкі ў 1994 г. актыўна працавала ў гэтым праекце. Апроч таго, істотную ролю адыграла супрацоўніцтва і падтрымка польскай меншасці з боку польскай дзяржавы, а таксама “крэсавых” перасяленцаў, якія сумавалі па згубленай радзіме (таксама як перасяленцы з Сілезіі і Усходняй Прусіі) і рабілі ўсё, што было ў іх моцы, каб падтрымаць польскую культуру. Перш за ўсё трэба назваць Таварыствы прыхільнікаў Вільні і Гародні, якія спрыялі ажыццяўленню многіх польскіх праектаў.

У гэты перыяд узнікалі новыя месцы памяці, звязаныя з Э.Ажэшка. Перш за ўсё маецца на ўвазе невялікі музей у *Шэрым двары* (1996), які і надалей выкарыстоўваўся як бібліятэка і, нягледзячы на афіцыйныя звароты польскай меншасці, так і не быў ёй перададзены. І ўсё ж адкрыццё двух памяшканняў у памяць пра Э.Ажэшка было поспехам гарадзенскіх палякаў, які быў замацаваны пастаяннай выставай, распрацаванай актывісткай Саюза палякаў сп. Ірэнай Эйсмант. Канцэпцыя грунтавалася на выкарыстанні артэфактаў з перыяду жыцця пісьменніцы ў Гародні, а таксама на выкананне копій прадметаў абсталявання салона, вядомых па фотаздымкам.

Зараз беларуская (савецкая па ідэалогіі) і польская нацыянальная канцэпцыі нібыта канкурыруюць паміж сабою ў чытальнай зале. На адным баку, наведвальнік пазнаёміцца з беларускамоўным асвятленнем біяграфіі пісьменніцы, а на іншым – з дапамогай артэфактаў і копій можа паглыбіцца ў тагачасную эпоху. Кнігі, вазоны з кветкамі, ілюстрацыі, карціны і мэбля павінны перадаць атмасферу колішняга

інтэр'еру. Кідаецца ў вочы і тое, што сама сп. Эйсмант з гадамі становіцца ўсё больш падобнай да "Пані Элізы".

Ажэшка і Міцкевічу ўсё яшчэ належыць роля асноўных дзеючых асобаў у нацыянальных праектах. Яны важныя не толькі для палякаў рэгіёну, але таксама для той часткі колішняй Рэчы Паспалітай, якая была міфалагізаванай у якасці г.зв. "крэсаў". Так, з 1998 г. распрацоўваліся маршруты паездак па Літве і Беларусі, якія павінны былі знаёміць турыстаў з польскай спадчынай. Пры гэтым актыўна наведваліся месцы дзейнасці Ажэшкі і Міцкевіча (у выпадку Ажэшкі гэта якраз Гародня), якія набывалі сімвалічны сэнс "бліскучай даўніны". Падобны сэнс прысутнічаў і пры адкрыцці польскай школы ў Гародні, дзе зноў і зноў прыводзілі аргумент, што сыны і дачкі польскага народу павінны чытаць творы паэта і пісьменніцы ў арыгінале, каб ізноў стаць узорнымі палякамі.

Польскія месцы памяці Э.Ажэшкі спалучаюцца з рэгіянальным беларускім наратывам, які прапагандаваўся падчас афіцыйных гарадзенскіх Фестываляў нацыянальных культур у формуле, што культурнае багацце рэгіёну менавіта ў яго разнастайнасці. Апошні тэзіс часткова бярэ пачатак ад савецкага ўяўлення пра роўнасць розных народаў, але зараз ён уведзены ў рэгіянальны кантэкст. Відавочна імкненне мясцовай беларускай інтэлігенцыі да роўнасці народаў і ўмацавання беларускай свядомасці з дапамогай традыцыі іншага гістарычнага наратыву. Гэты праект перажывае крызіс з прыходам да ўлады Лукашэнкі. Асобныя ідэалісты яшчэ сядзяць у музеях, архівах і на факультэтах, але абноўленая грамадская прастора, і магчымасці абмеркавання такіх пытанняў і наратываў у форме дыялогу моцна абмежаваны. У выніку Музей Ажэшкі вядзе ўсё больш маргінальнае існаванне. Апроч мерапрыемстваў і канферэнцый у гонар пісьменніцы тут таксама ўтрымліваецца маленькае аддзяленне польскай школы.

Ці можа ў XXI ст. у Беларусі ўзнікнуць пэўны канон разумення гістарычных падзеяў? Прыклад Ажэшкі дазваляе казаць пра пэўныя магчымасці гэтага. Але відавочна і тое, што кожная эпоха фармавала новую памяць пра яе, а вяртанне нацыянальнага наратыву не прывяло да перамогі Адраджэння.

Сітуацыя напрыканцы XX ст. шмат у чым нагадвала тую, пра якую ў лістах да сяброў з Варшавы пісала Ажэшка ў канцы пазамінулага стагоддзя. У Варшаве зноў не разумеюць палякаў з-над Нёмана і іх складанага становішча, ізноў толькі некалькі прадстаўнікоў мясцовай польскай супольнасці рэальна клапоцяцца пра гістарычную памяць,

а многія выехалі Польшчу. Моцна адчуваюцца наступствы працяглай русіфікацыі. Намаганні польскай грамадскасці, які адлюстраваліся ў стварэнні такіх арганізацыяў як Польская мацеж школьная ды інш., моцна нагадваюць пазітывісцкія заклікі і дзеянні Ажэшкі. Яна сёння нібыта “тры ў адным” – доказ існавання шматкультурнага грамадства, прыклад у барацьбе за Адраджэнне мясцовай польскай грамадскасці і культуры, а таксама голас мінулага, які можа атрымаць самую розную інтэрпрэтацыю. Разам з тым, ёй гарантавана важнае месца ў памяці гарадзенцаў.

Такім чынам, Эліза Ажэшка была важным персанажам розных этапаў культурнага жыцця Гародні на працягу XX ст. Адпаведна, і яе творчасць, і біяграфія атрымлівалі розную інтэрпрэтацыю і дапасоўваліся да пэўных узораў. Дыяпазон быў даволі шырокім – ад савецка-сталінскіх уяўленняў да рэгіянальнага разумення яе творчасці, якое ў сваю чаргу ўяўляла спробу далучэння мясцовай польскай культурнай спадчыны да беларускага нацыянальнага наратыву.

У пачатку XXI ст. гэтыя аспекты ізноў супалі, бо зараз пра розныя памятныя месцы, звязаныя з Ажэшкай, у Гародні клапоцяцца арганізацыі польскай меншасці, мясцовая беларуская інтэлігенцыя і постсавецкая наменклатура. Да гэтых месцаў у першую чаргу належыць дом пісьменніцы і яе помнік, які сёння з’яўляецца адзіным у Гародні знакам памяці, які ўспрымаецца як выразна польскі. Гісторыя зменаў надпісаў на помніку сведчыць пра насцярожаны стасунак мясцовай улады да спадчыны Э.Ажэшкі. Гэта тычыцца і разнастайных варыянтаў назвы вуліцы, якая раней была “вуліцай Ажэшковай”. Да канца XX ст. яна існавала ў беларускай і расейскай версіях. У рэшце рэшт трэба ўзгадаць асобныя найбольш важкія месцы з яе твораў. Перш за ўсё гэта вёска Багатыровічы на беразе Нёмана як галоўная мэта падарожжаў цікаўных да гісторыі культуры польскіх турыстаў, якая, дарэчы, вельмі важная для разумення ідэнтычнасці польскай меншасці ў Беларусі. Мясцовая інтэлігенцыя таксама адносіць гэтае месца да найбольш цікавых у рэгіёне.

Можна сцвярджаць, што Эліза Ажэшка сапраўды была адной для ўсіх. Выключэннем з’яўляюцца хіба толькі нямецкія акупанты і тыя, хто прынцыпова не цікавіўся высокай культурай.

*Пераклад з нямецкай мовы Вольгі Сабалеўскай,*
*рэдагаванне Алеся Смаленчука.*

Заўвагі

[1] Sawicki R. Kronika м. Grodna. 1928, Grodno, s. 21.
[2] Tygodnik Ilustrowany, 1910, №. 23, 4.6.1910.
[3] Адзіны агляд гісторыі Гародні таго часу, да якога можна звярнуцца, гэта кніга Швед В.В., Гостев А.П. Кронон. Летопись города на Немане (116-1990). Гродно, 1993, яшчэ ўтрымлівае выразна савецкую ноту. Стан даследаванняў, зробленых на Беларусі ў адносна поўным выглядзе адлюстраваны ў кнізе: Жебрун, Я.М. (и др.): Память Гродно. Историко-документальная хроника города Гродно. Минск, 1999.
[4] Адзінае падрабязнае апісанне разнастайнасці і напружанасці жыцця ў габрэйскім асяроддзі знаходзіцца ў кнізе: Соболевская О., Гончаров В. Евреи Гродненщины. Жизнь до Катастрофы. Донецк, 2005.
[5] Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. S. 129-138.
[6] Апісанне гэтай дзейнасці і праблемаў, якія пры гэтым узнікалі, можна знайсці ў кнізе: Romanowski A. Pozytiwizm na Litwie. Polskie życie kulturalne na ziemiach litewsko/białorusko/inflanckich w latach 1864 – 1904. Kraków, 2003.
[7] Orzeszkowa E. Listy zebrane, t. XII, Wrocław 1971, s. 137.
[8] Да асноўных перакананняў Ажэшкі належала вера ў непарыўную сувязь лёсу літоўцаў і палякаў. У гэтым яна была тыповым прадстаўніком мясцовых палякаў, згодна з паняццем, якое ўжываў Алесь Смалянчук. Гл.: Смалянчук А. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 - люты 1917 г. СПб. 2004.
[9] Гэты крытычны погляд супярэчыць практыцы многіх гарадзенскіх даследаванняў, аўтары якіх імкнуцца пазбегнуць нацыянальнай адназначнасці ў апісаннях гэтых падзеяў. Напр., гл.: Мусіенка С. Пісьменніца з Прынёманскага краю // Память Гродно. Историко-документальная хроника города Гродно. Минск, 1999, с. 245 – 251.
[10] Тут аўтар памыляецца. Першае паседжанне адбылося ў будынку гарадскога магістрата (сучасная вул. Савецкая).
[11] Большасць здымкаў гораду на пачатку XX ст. знаходзілася ў нямецкіх сямейных альбомах. Калекцыянеры (напр., Фелікс Варашыльскі з Гамбургу) сабралі з іх фонд, які складаецца больш чым з 1 тыс. паштовак. Паглядзець іх можна на сайце www.way.to/grodno
[12] Інтэрв'ю з Хасяй Беліцкай у кібуцы Левахот Хабашан,

праведзенае 4.12.2004.
[13] Orzeszkowa E. O Żydach i kwestii żydowskiej. Warszawa, 1913.
[14] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (ДАГВ). Фонд 1269, воп. 1, адз.з 1 (31).
[15] Гродненская правда от 31 августа 1947 г.
[16] Гродненская правда от 20 июня 1947 г.
[17] Гродненская правда от 1 июня 1949 г.
[18] Гродненская правда от 25 декабря 1948 г.
[19] ДАГВ. Фонд 372, воп. 1, адз.з. 2.
[20] Дзяржаўны архіў грамадскіх арганізацый Гродзенскай вобл. Пратакол №. 4 ад 17 жніўня 1944 г.
[21] ДАГВ. Фонд 1269, воп. 1, адз.з. 5 (31).
[22] Аляксей Карпюк. Ліст да Михаила Гарбачова, 5 верасня 1987 г. // Gawin T. Zwycięstwa i porażki. Białystok, 2003, S. 54-56.
[23] Інтэрв'ю з Андрэям Пачобутам у Гародні 12 красавіка 2005 г.
[24] Gawin T. Zwycięstwa i porażki, S. 76.
[25] Ibidem. S. 226.

**Алесь Радзюк (Гродна)**

# Смяротныя пакаранні ў Горадні ў 1863 – 1864 гг.

У 1863 – 1865 гг. на тэрыторыі, падпарадкаванай віленскаму генерал-губернатару, згодна з афіцыйнымі дадзенымі смяротнаму пакаранню былі падвергнуты 180 асобаў, якія ў рознай ступені прымалі ўдзел ці аказвалі садзейнічанне паўстанцам. З іх 44 асобы былі павешаныя і расстраляныя на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Аналіз статыстыкі і супастаўленне яе з геаграфічнай картай Беларусі дае цікавую інфармацыю для разважанняў. *A priori,* здавалася б, што ў адпаведнасці са ступенню актыўнасці паўстанцкага руху, Горадня павінна быць у ліку лідэраў сярод населеных пунктаў Беларусі па колькасці праведзеных смяротных экзекуцый. Аднак, у гэтай сумнай намінацыі лідзіруюць Магілёў (5) і Мінск (4). Яшчэ ў чатырох уездных гарадах былі пакараныя па тры асобы[1]. Аналіз прычынаў падобнага размеркавання смяротных пакаранняў не адносіцца да задач гэтага артыкула. Прадметам даследавання ў дадзеным выпадку з'яўляюцца смяротныя экзекуцыі ў Горадні ў 1863 – 1864 гг.

У вызначаны прамежак часу ў Горадні былі расстраляныя 2 асобы – селянін Дамянік Талінскі і былы жаўнер Восіп Урбановіч.

Што датычыць першага з іх, то на сённяшні дзень вядомы толькі адзін дакумент, а менавіта тэлеграма гарадзенскага губернатара І. Скварцова адрасаваная віленскаму генерал-губернатару М. Мураўёву. Змест яе, як і большасці крыніц падобнага тыпу, досыць лаканічны. Прыводзім яе тут цалкам:

*Вільня. Генерал-губернатару. Селянін Дамянік Талінскі за ўдзел у павешанні некалькіх асобаў па канфірмацыі Вашай расстраляны сёння а дзесятай гадзіне раніцы ў горадзе Гродна. Генерал-маёр Скварцоў*[2].

Дата выканання прысуду адсутнічае. З дадатковых крыніцаў


Виленск. Генерал-Губернатору.

Крестьянин Доминик Толинский за участие в повешении нескольких лиц, по конфирмации ~~приговору военного~~ Вашей, расстрелян сегодня в 10 час. утра, в городе Гродно.

Генерал-Майор Скворцов

**Запіска пра пакаранне смерцю ў Горадні.**

вядома, што пакаранне Д. Талінскага адбылося 11 кастрычніка (па новым стылі) 1863 г.

Куды больш "пашчасціла" ў гэтым плане другой ахвяры. Адносна выканання смяротнага прысуду Восіпу Урбановічу ўдалося выявіць дзве крыніцы, якія дапаўняюць адна другую, даючы магчымасць верыфікаваць і параўнаць інфармацыю.

Першая з іх паходзіць з канцылярыі гарадзенскага губернатара. Гэта ваенна-судовая справа В. Урбановіча. З яе вынікае, што шараговы Капорскага палка Восіп Урбановіч, 41 года, "*з'яўляючыся конюхам […] палка ў м. Пшавішках(?) Марыямпальскага уезду Аўгустоўскай губ. 28 чэрвеня 1863 г. […] накіраваўся ў цэйхгаўз і патрабаваў сябе стрэльбу […] на выпадак нападу мяцежнікаў […] Ён у той жа дзень уцёк* (разам са стрэльбай – А.Р.) *[…] далучыўся да шайкі мяцежнікаў пад кіраўніцтвам Калыскі, дзе прыняў прысягу […] Пераходзячы з гэтай шайкі ў іншую, неаднаразова прымаў удзел у сутычках з войскамі і падчас адной з іх у канцы верасня схоплены ў палон са зброяй у руках*"[3].

Мусіць адбылося гэта на тэрыторыі Гарадзенскай губ., і таму В. Урбановіч быў дастаўлены ў Горадню. Тут яго чакала традыцыйная ў падобных выпадках працэдура следча-судовых мерапрыемстваў, якая ўключала ў сябе наступныя этапы: разгляд яго справы Гарадзенскай ваенна-следчай камісіяй, перадачу справы на рашэнне губернатару І. Скварцову, далейшае

справаводства ў Гарадзенскай ваенна-следчай камісіі, перасылка справы ў Віленскі часовы палявы аўдытарыят і, нарэшце, перадача яе на канфірмацыю М. Мураўёву.

У канкрэтным выпадку з В. Урбановічам звяртае на сябе ўвагу факт, што Ваенна-следчая камісія хоць і вынесла смяротны вердыкт, але разам з тым, звярнулася да генерал-губернатара з просьбай "*аб змякчэнні яму, Урбановічу пакарання па абсалютнай яго разумовай няразвітасці*"[4]. Гэтую ініцыятыву падтрымаў нават І. Скварцоў. Але Міхаіл Мураўёў літасці не ведаў.

Паводле рапарта губернатара, "*канфірмацыя камандуючага войскамі Віленскай вайсковай акругі над шараговым […] Восіпам Урбановічам, асуджаным да смяротнага пакарання праз расстрэл, мною сёння была прыведзена да выканання ў горадзе Гродна, за Скідзельскай заставай 14 чысла* (стары стыль – А.Р.) *гэтага месяца* (сакавіка – А.Р.) *а 10-й гадзіне раніцы пры вялікім зграмаджэнні народу. 14-га ж чысла а шостай гадзіне раніцы да Урбановіча быў дапушчаны ксёндз Шварц, які суправаджаў яго да месца пакарання. Канфірмацыя злачынцы зачытана была […] Пры расстрэле знаходзіліся войскі: 2 роты ад Стараінгермаландскага пяхотнага палка, 2 роты ад Гродзенскага батальёна ўнутранай варты, эскадрон уланскага […] палка і ўзвод 3-й сотні Данскога казацкага палка. Пры здзяйсненні пакарання прысутнічалі акрамя мяне паліцмайстар горада Гродна палкоўнік Зміеў і ўездны спраўнік Магдзенка […] Атабраныя ў Урбановіча рэчы і ўласна яго 2 руб. 80 кап. пры гэтым прадстаўляю Вашаму Высокаправасхадзіцельству*"[5].

Іншай крыніцай, якая ўтрымлівае апісанне гэтай падзеі, з'яўляюцца ўспаміны Івана Мітрапольскага, якія былі надрукаваны ў 1895 г. у "Рускім архіве". У 1863 – 1864 гг. малады вайсковы лекар І. Мітрапольскі выконваў функцыі ардынатара ў гарадзенскім вайсковым шпіталі. Адпаведна службоваму абавязку ён быў вымушаны прысутнічаць на экзекуцыі. Яго апісанне дадзенай працэдуры дапаўняе і пашырае тую інфармацыю, што ўтрымліваецца ў афіцыйных дакументах. Вытрымкі з успамінаў І. Мітрапольскага, якія падаюцца ніжэй, прадстаўлены на мове арыгінала. У некаторых месцах, якія тычыцца аналізу асабістых перажыванняў аўтара, яны скарочаны:

*Между тем замирение края, направленное твердой рукою, скоро завершилось, так что в Гродне не стало заметно и следов мятежа. Он уступил свое место Фемиде. Судьбе угодно было, чтобы в самых грозных функциях последней я принял участие. Мне пришлось ex officio*

*присутствовать при смертной казни политическаго преступника. Предстояло разстреляние солдата-поляка, перебежавшаго к повстанцам и взятаго нашими в плен. Накануне казни, не получивши наряда присутствовать на этой церемонии, я лег спать спокойно, радуясь, что начальство, не забывавшее меня всякими неприятными поручениями, на этот раз смиловалось надо мною. Но я горько ошибся. Часа в 4 ночи меня разбудил деньщик. Оказалось, что ко мне пакет от главнаго врача. Я, конечно, тотчас же понял, в чем дело, и выругался, как умел. Дело в том, что ранее, по поводу назначения меня на экзекуцию шпицрутенами, я имел горячее объяснение с своим начальством и объявил, что впредь не буду исполнять никаких подобных обязанностей, ко мне, заваленному делом, не относящихся. Поэтому и приняты были меры, чтобы я не мог увильнуть от поручения, от котораго мои товарищи предусмотрительно себя оградили: кто подал рапорт о болезни, кто нашел заступников и ходатаев т.п. Поэтому-то и разочли припереть меня так, чтобы мне не увернуться. До казни оставалось всего часа два. Подача рапорта о болезни ни к чему бы не повела, потому что могло последовать освидетельствование меня, к чему, как я узнал потом, и приняты были заблаговременно меры. Лгать и притворяться к тому же я не был способен. Таким образом, мне оставалось одно из двух: или исполнить предписание, или подвергнуться наказанию по суду. Так как, по церемониалу смертной казни, в нем обязан, неизвестно для чего, участвовать врач, то моя неявка могла быть причиной многих глупых случайностей, за которыя мне пришлось бы отвечать. Делать нечего; видел, как бьют шпицрутенами, посмотрю и как убивают. Когда выходил из комнаты чиновный фельдшер, принесший мне пакет, я увидел в передней солдата, который его сопровождал. У ворот были еще люди; след., на меня вели что-то в роде облавы: запаслись свидетелями.*

*Когда принесли мне бумагу, начинало уже разсветать; ложиться спать было некогда. Чтобы убить как нибудь часа полтора оставшагося времени, я принялся за чай и стал философствовать […]*

*Размышления мои оборвал денщик докладом, что солдаты уже пришли к острогу, который был виден из ворот моей квартиры. Площадь, на которую выходил острог, была полна народом. Я видел хмурые злобныя лица поляков, слезы на глазах полек; слышал слова и возгласы на польском, непонятном для меня, языке, но понятные по своей интонации. Все это казалось мне естественною, приличною обстановкою картины. Зато мне показалась противною безучастная, глупо-любопытная толпа евреев и евреек, назойливо лезшая к тюремным воротам.*

*Они скоро отворились, и я увидел осужденнаго. Бледный, с мутными, безжизненными глазами, невзрачный, низенькаго роста, поддерживаемый солдатом, он, казалось, весь замер, не сознавая, что с ним происходит, и двигался машинально. Раздалась команда. Осужденнаго окружили солдаты. Около него появился ксендз с крестом и книгою в руках, и кортеж двинулся. Пользуясь своим положением участника церемонии, я поместился возможно ближе к ксендзу, шедшему рука об руку с осужденным. Мы шли спорым солдатским шагом, следовательно довольно скоро. Осужденный, по-видимому, ничего не видевший пред собою, часто оступался. Оступался и ксендз, то читавший по книге, то обращавшийся со словами к осужденному. И чтение, и слова ксендза были скоры и возбужденны, как и ускорен его шаг, очевидно, с трудом поспевавший за солдатским. Но все время довольно длинного пути лицо осужденнаго оставалось прикрытым, как бы маскою тупаго оцепенения. Я слышал ясно голос ксендза, но не понимал его польскаго языка […]*

*Показался столб, и пред ним вырытая яма. Раздалась команда, взяли на караул, прочли приговор и приступили к последнему туалету осужденнаго. Я подошел в это время к командующему церемонией штаб-офицеру и спросил его, какая здесь моя обязанность? «Когда умрет, посмотрите, жив ли?» Уже по этому ответу можно видеть, хорошо ли чувствовал себя офицер.*

*Вот осужденному надели его саван. Вот ксендз еще что-то говорил ему. Подносит к губам его крест, лицо несчастнаго остается по-прежнему окаменелым с мутными глазами. Мне страстно захотелось, чтобы лицо это оживилось каким бы то ни было чувством, чтобы человек этот произнес какое-либо слово, хотя бы проклятие нам; но он не раскрыл рта.*

*Пока привязывали осужденнаго и завязывали ему глаза, я стоял почти рядом с ним и не догадался отойти, когда зарокотал барабан и вышли вперед двенадцать рядовых с унтер-офицером, так что командир крикнул мне: доктор, отойдите! Я сделал несколько шагов в сторону и взглянул на вышедших солдат, но на лицах их не прочел ничего, кроме служебнаго старания, покрытаго суровою строгостью. Подан знак, грянули, как один, двенадцать выстрелов, и привязанный к столбу человек, дрогнув, кажется, каждым мускулом своего тела, склонил голову. Я подошел к нему, поднял кверху повязку и взглянул на побледневшее, с закрытыми глазами, лицо, по которому пробегали еще мелкия судороги. И лицо это осталось в памяти моей до настоящаго времени.*

*Закрыв его снова повязкою, я подошел к офицеру медленными шагами, потому что ноги мои плохо меня слушались, приложил руку к козырьку и отрапортовал: «Мертв!» Это ли слово само себе, тон ли, которым оно было произнесено, а может быть и вид мой, выражавший глубокое нравственное потрясение, заставили офицера вздрогнуть и отвернуться от меня.*

*Исполнив свою обязанность (смысла и надобности которой не понимал), я поплелся домой, перегоняемый толпами зрителей, спешивших в город с окончившагося позорища, и нес с собою лицо казненнаго. Это лицо не покидало меня несколько суток, отняло сон и аппетит и мучило меня, но не страхом или жалостию, а тем чувством, которое появилось тогда, когда я шел с осужденным на место казни.*

*Тяжелая гродненская роль моя кончилась. В скором времени я получил перевод в Москву, куда и уехал в ноябре 1864 года, унося с собою неизгладимыя впечатления*[6].

У заключэнні хацелася б яшчэ раз звярнуцца да архіўнай крыніцы, каб знайсці адказ на пытанне пра лёс цела расстралянага пасля выканання экзекуцыі. Як паведамляецца ў гэтым дакуменце:

"*Цела Урбановіча перададзена зямлі на месцы пакарання, а 10-й гадзіне ўвечары ў той жа дзень па распараджэнні паліцмайстра перавезена ў суседні лес […]*"[7]. Можна меркаваць, што падобным чынам улады паступалі з пакаранымі паўстанцамі і ў іншых выпадках.

Такім чынам, прыведзеныя апісанні выканання смяротных прысудаў у Горадні падчас паўстання 1863 – 1864 гг. раскрываюць механізм падрыхтоўкі і ажыццяўлення экзекуцыі, адлюстроўваюць публічны характар гэтай працэдуры, дакладна вызначаюць месца яе правядзення. Апошняе падаецца важным і з прычыны неабходнасці мемарыялізацыі мясцінаў нашага горада, якія звязаны з падзеямі паўстання.

<u>Заўвагі</u>

[1] Studnicki W. Rok 1863. Wyroki śmierci. Wilno. S. 118a-121b.
[2] Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. КП 2649
[3] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 34, ад.з. 859, арк. 46.
[4] Тамсама. Арк. 30.
[5] Тамсама. Арк. 39.
[6] Митропольский И. А. Повстанье в Гродне в 1863-1864 гг. (Из воспоминаний врача) // Русский архив, 1895, кн. 1, вып. 1, с. 152.
[7] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 34, ад.з. 859, арк. 39.

**Алесь Кайрыс (Гродна)**

# Злавіць Каліноўскага...

Быў пачатак кастрычніка 1862 г. Каля 5 гадзін апоўдні ў вёсцы Шайпякі[1] на ваўкавыскім паштовым тракце з'явілася брычка, запрэжаная парай коней. Акрамя фурмана ў брычцы сядзеў пасажыр, апрануты ў пакрытае сукном аўчыннае футра з вялікім чорным каўнерам. На галаве – фуражка з зорачкай Грамадзянскага ведамства. Росту сярэдняга, брунет, з чорнымі вусамі, гадоў каля трыццаці шасці. Так апісалі знешні выгляд Вікенція Канстанціна Каліноўскага відавочцы гэтай падзеі сяляне Марцін Мікуцын, Антон Агіевіч і Міхал Лукашэвіч у размове з прыставам 2 стану Агаціем Калсяпекіным. Сяляне былі выкліканы на размову для высвятлення знешняга выгляду фурмана і пасажыра, якія раскідвалі скруткі з газетай «Мужыцкая праўда». Высветлілася, што сведкі былі непісьменныя, і, падабраўшы скруткі, пачалі звяртацца «к грамотным своим собратьям прочитывать». Напрыканцы гутаркі відавочцы пагадзіліся апазнаць пасажыра, калі яго ім прадставяць[2].

Прыстаў адразу ж звярнуўся ў Ружанскую паштовую станцыю, каб даведацца, хто наймаў фурманку 7 кастрычніка. Паводле запісу ў кнізе, ім аказаўся «Дворянин Викентий Калиновский». Прыставам быў напісаны рапарт з паметкаю «Секретно» ваеннаму губернатару горада Гродна і гродзенскаму грамадзянскаму губернатару генерал-маёру Івану Уладзіміравічу фон Галеру. Аб гэтай падзеі Галер паведаміў віленскаму генерал-губернатару, які, прачытаўшы «брошюру», адразу загадаў знайсці і затрымаць распаўсюдніка[3].

7 лістапада таго ж года следчы капітан Віт паведаміў гродзенскаму губернатару, што родная вёска Каліноўскага – Якушоўка – знаходзіцца пад сакрэтным наглядам. Але ні ў вёсцы, ні нават ва ўсім уездзе Каліноўскі не быў заўважаны. Нават пачалі хадзіць чуткі нібыта *«он уже пойман… и следует-ли за поимкою Калиновского продолжать по уезду наблюдать»*. Пачалася блытаніна з імем і прозвішчам пасажыра брычкі. У справе з'яўляецца новы фігурант ксёндз Ігнацій Казлоўскі з Вяліка-Бераставіцкага касцёла, знаёмы Каліноўскага[4]. 9 лістапада Ігнацій Казлоўскі паведаміў Віту, што імя яго сябра не Вікенцій, а Канстанцін. Казлоўскі і далей блытаў

следчых, паведамляючы, што ў той дзень ён разам з Каліноўскім ехалі ў Гродна, але даехаў Канстанцін толькі да Індуры, дзе і застаўся[5].

Следчыя ў тупіку: прыстаў сцвярджае, што трэба лавіць Вікенція Каліноўскага, ксёндз гаворыць, што Каліноўскага завуць не Вікенціем, а Канстанцінам. Урэшце рэшт, Віту паведамляе гродзенскага губернатара, што гэта не Каліноўскі раскідваў скруткі, а нейкі іншы чалавек[6].

16 красавіка 1863 г. у вёсцы Шайпякі ізноў з'яўляецца паштовая брычка. Ізноў невядомы чалавек раскідвае скруткі. Гэта былі аркушыкі з "Мужыцкай праўдай №3". Справа аб "Брошюрах возмутительного содержания" была адноўлена[7]. Аднак грунтоўны пошук Каліноўскага пачаўся толькі ў верасні 1863 г., калі з Вільні ў Гродна тэлеграфам ідуць зашыфраваныя лісты ад самога генерал-губернатара "графа-вешальніка" Мураўёва:

*Гродно*
*Начальнику Губернии*
*Разыскать и выслать сюда арестованным №39*
*Щ х у п х л м б л м о ф у х ш ч п м ш п*
*Ц ш м ж х г х о ц н м сделав у него обыск*
*Он уроженец гродненской губернии с ы с ф п м ц ш*
*Н г ф у х г ц ч м л х г ф ч б р л о м*
*Г м г ф до Июня б х п х г ф о ф о ц с*
*Р ш х*
*Генерал Муравьёв*[8]

Амаль няма сумніву, што ў гэтых шыфроўках патрабавалася весці пошук менавіта Каліноўскага, бо 16 верасня распачалася г.зв. справа аб затрыманні доктара Кайнеўскага, доктара Хамовіча і доктара Заблоцкага[9]. Паколькі былі дасланыя тры зашыфраваныя лісты, то, атрымліваецца, што на кожнага падазраванага прыходзіўся асобны ліст.

Таго ж дня быў праведзеныператрус у доктара права Хамовіча. Яго дапытвалі. Прыйшоў загад даведацца, ці не ён з'яўляецца камісарам Гродзенскай губ., а затым тэрмінова выслаць у Вільню[10]. Хутка высветлілася, што затрыманы быў не Хамовічам, а Канстанцінам Кайноўскім (Хайноўскім), які не меў дачынення ні да рэвалюцыйнай арганізацыі, ні да паўстання. Можна меркаваць, што следчыя бралі ў распрацоўку ўсіх людзей, якія былі знешне ці прозвішчам падобныя


Телеграфъ въ Гродно

Сентября мѣсяца 1863 года.

Изъ Вильно Телеграмма №142

| Счетъ словъ. | Подана. | | | | Получена. | | | | Служебныя отмѣтки. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | число. | часъ. | мин. | попол. | число. | часъ. | мин. | попол. | |
| 25 112 63 | 27 | 6 | 45 | ид | 27 | 8 | 30 | ид | |

Гродно.

Губернатору.

Генералъ Муравьевъ

**Шыфроўка М.Мураўёва да гродзенскіх улад у справе затрымання Каліноўскага.**

на Каліноўскага. Магчыма, што доктар Кайноўскі (Хайноўскі) быў адпушчаны, бо, на дадзены момант не знойдзена звестак, каб ён праходзіў па крымінальнай справе за ўдзел у паўстанні.

Таксама ў гэты час актыўна шукалі доктара Эразма Заблоцкага, які, па меркаванню Следчай камісіі, павінен быў ведаць, хто з'яўляецца камісарам Гродзенскай губ. Ён быў арыштаваны 27 верасня[11]. Падчасператрусу следчыя знайшлі толькі забароненыя кнігі. Сярод іх была кніга "*Замечания по сочинению о неотъемленных истинах польского народа*", якая з'ўлялася "*предосудительною*".

Амаль праз месяц, 22 кастрычніка Следчая віленская камісія загадала гродзенскаму губернатару выслаць у Вільню двух арыштаваных

“Каліноўскіх”: “*В бытность в Вильно Вы объяснили, что в Гродно содержатся под орестом уже двое Калиновских. Главный начальник края приказал отнестись к Вам и просить: выслать в Вильно, порознь, под строгим надзором, обоих арестованных в Гродно Калиновских, для распоряжения: не окажется ли кто из них тем, который нужен по делам этой комиссии. Следственная комиссия … обязывается присовокупить, что Калиновские, если их здесь не признают, немедленно будут к Вам возвращены*”[12].

Гэтымі двума “Каліноўскімі” былі доктар Эразм Заблоцкі і згаданы Канстанцін Хамовіч ці Кайноўскі (Хайноўскі). 25 кастрычніка 1863 г. пачаўся працэс перасылкі затрыманых у Вільню. Кожнага падазраванага ў Вільню суправаджаў жандар, якому ўлада давала спецыяльны білет: “*Представителю сего рядовому Гродненской жандарм-команды Ивану Зеленцову следовавшему из г. Гродно в г. Вильно для сопровождения политического арестанта, благоволять как военные так и гражданские начальства во время следования его туда и обратно не делать никаких препятствий и в случае надобности оказывать ему законное содействие. В чём за подписом моим и приложением казенной печати удостоверяется*”.[13] 28 кастрычніка Канстанціна Кайноўскага (Хайноўскага) этапіравалі назад у Гродна. Следчыя хутка страцілі да яго цікавасць.

Пакуль дапытвалі Заблоцкага, у справе ўсплыў яшчэ адзін фігурант – студэнт Санкт-Пецярбурскага ўніверсітэту Станіслаў Аржэшка, які, нібыта, з’яўляўся кур’ерам рэвалюцыйнай арганізацыі[14]. Следчыя даведаліся аб гэтым падчас допыту Заблоцкага. Магчыма, у Заблоцкага былі знойдзены лісты, перададзеныя яму Аржэшкам. 16 лістапада гродзенскія следчыя патрабавалі даставіць яго ў Гродна. Цікава, што Аржэшка быў затрыманы яшчэ ў жніўні 1863 г. Ён быў арыштаваны ў Бельску і дастаўлены ў Беласток. 23 жніўня студэнт быў адпраўлены ў Гродна і часова змешчаны ў Гродзенскім астрозе, а 24 жніўня быў адасланы пад канвоем жандара Каляды ў Вільню, дзе і ўтрымліваўся. Пры ім былі знойдзены лісты, якія давалі следчым падставу меркаваць, што Аржэшка з’яўляецца пасрэднікам паміж Каліноўскім і камісарам Гродзенскай губ.: “*Упомянутый молодой человек, получавший при отправлении в Гродно, письмо от Калиновского, адресованное из исключительного отдела на Литве Коммисару Гродненской губернии для доставление чрез доктора Заблоцкого – есть студент Санкт-Пецербуржского университета Станислав Оржешко*”[15].

Але ў той час студэнт моцна захварэў і знаходзіўся ў ваенным шпіталі святога Якава. Пасля выздараўлення яго павінны былі этапіраваць у Гродна. У выніку і тут следства мала чаго дасягнула. Хаця быў затрыманы Эразм Заблоцкі, паўстанцкі камісар Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, але ён адмаўляўся даваць паказанні і супрацоўнічаць са следствам. А сапраўдны Канстанцін Каліноўскі і надалей быў на свабодзе.

Такім чынам, ужо з кастрычніка 1862 г. следчыя органы спрабавалі злавіць Каліноўскага. Перыядычна праводзіліся сапраўдныя "хапуны". Падчас гэтага пацярпела шмат нявінных грамадзянаў, такіх як той жа Канстанцін Кайноўскі (Хайноўскі).

16 лістапада з Бельску паведамілі, што Кійноўскага "*не обнаружено*". 28 лістапада з Ваўкавыска паведамілі, што там няма Хамовіча. З 18 па 24 студзеня з Сакулкі рапартавалі, што ні Каліноўскага, ні Хамовіча там няма[16].

Гэтыя факты яшчэ раз пацвярджаюць, што Кастусь Каліноўскі з'яўляўся цудоўным канспіратарам. Следчая камісія да самага канца не ведала, хто ж з'яўляецца кіраўніком паўстання, і каго трэба шукаць: Кайноўскага, Кійноўскага, Хамовіча ці Каліноўскага?..

Кропка над "і" была пастаўлена толькі тады, калі сам Кастусь Каліноўскі, арыштаваны 28 студзеня 1864 г., пачаў даваць паказанні.

Заўвагі

[1] Зараз в. Шэйпічы Касаўскага раёну Брэсцкай вобл.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (НГАБ у Гродне). Ф. 3, воп. 3. адз. зах. 6. Арк. 1.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама. Арк. 14.

[5] Тамсама. Арк. 6.

[6] Тамсама. Арк. 15.

[7] Тамсама. Арк. 16.

[8] Дадзены шыфр з'яўляецца дыграфным (цэлае слова замянялася дзвюма літарамі), і для яго расшыфроўкі патрэбен ключ. На жаль, гэтыя ключы незвычайна цяжка знайсці. А без іх расшыфроўка немагчымая. Мажліва, што Рускі біграмны ключ №304 ці генерал-губернатарскі ключ. Ім карысталіся тыя генерал-губернатары, у мясцовасці якіх знаходзіўся тэлеграф (Пецярбург, Масква, Кіеў, Адэса, Рыга, Гельсінгфорс, Варшава,

Вільня і з 1863 г. Тыфліс). Акрамя генерал-губернатараў экземпляр ключа быў у ваеннага міністра, міністра ўнутраных справаў і шэфа жандараў. Таксама гэта мог быць і Рускі славарны ключ №333 на 300 славарных велічынь «*для сношений Варшавского военного генерал–губернатора с шестью военными начальниками в Царстве Польском*».

[9] НГАБ у Гродне. Ф. 3, воп. 3. адз. зах. 6. Арк. 17.

[10] Тамсама. Арк. 19.

[11] Тамсама. Арк. 23.

[12] Тамсама. Арк. 29.

[13] Тамсама. Арк. 34.

[14] Тамсама. Арк. 44.

[15] Тамсама. Ф. 1, воп. 34, адз. зах. 638. Арк. 4.

[16] Тамсама. Ф. 3, воп. 3, адз. зах. 6. Арк. 48, 49, 50, 54.

**Федор Игнатович (Гродно)**

# Аптека провизора Ивана Адамовича и восстание 1863 г.

В январе 2013 г. исполнилось 150 лет со дня начала восстания в Польше, Литве и Беларуси против Российской империи. Как известно, на современной территории Беларуси национально-освободительное движение получило более активное развитие в ее западной части[1]. Здесь ранее, чем на Востоке, были сформированы нелегальные организации, повстанческие комитеты и органы управления. В Гродненской губ., которая стала одним из центров повстанческого движения, значительную роль играл Константин Семенович (Кастусь) Калиновский (1838-1864). Осенью 1861 г. по его инициативе начала действовать Гродненская нелегальная организация.

В том же году Кастусь Калиновский вошел в состав Комитета движения (с 1862 г. – Литовский провинциальные комитет), руководившего подготовкой восстания в Литве и Беларуси. Особое внимание уделялось Гродненской губ., которую он неоднократно посещал. Здесь, как ранее нами было установлено, его единомышленниками и соратниками стало около 50 врачей и фельдшеров. Из их числа занимали руководящие посты в повстанческой организации врачи: Целестин Цехановский и Болеслав Заблоцкий (Гродно), В.Г.Симанович и В.А. Вильчевский (Слоним), М.О. Глиндзич и С.О. Понсе де Сандон (Волковыск) и др. Кроме того, в их числе было немало врачей и фельдшеров, которые непосредственно оказывали медицинскую помощь в партизанских отрядах.

Гродненский генерал-губернатор И.В.Галлер не ошибался, когда доносил виленскому генерал-губернатору В.И.Назимову: «По собранным мною сведениям оказалось, что большая часть агентов революционного комитета состоит из докторов, которые по роду занятий могут переезжать свободно с места на место и таким образом скрывать, что они состоят в тайной революционной организации»[2].

Однако, участие в восстании фармацевтических работников пока еще недостаточно исследовано. Появилось лишь несколько

публикаций польских исследователей[3]. Что касается Беларуси и Гродненской губ., то изучению этой проблемы не уделяется достаточного внимания, хотя сохранилось немало ценных архивных документов и литературных источников[4]. Особого внимания заслуживает выявление и анализ материалов, отражающих ход восстания и причастность к нему аптечных специалистов.

Как известно, после начала восстания Литовский провинциальный комитет, в котором руководящую роль играл К.Калиновский, объявил себя *Временным правительством Литвы и Беларуси*. Стали создаваться руководящие органы нелегально действующей администрации. При этом губернии были переименованы в воеводства, уезды – в поветы. Их возглавляли комиссары, гражданские и военные начальники.

В марте 1863 г. приказом из Варшавы *Временное правительство* было распущено. Был образован *Отдел управления провинциями Литвы* во главе с руководителем группировки «белых» в Беларуси и Литве Якубом Гейштером.

К.С. Калиновский был назначен комиссаром Гродненского воеводства. Возвратившись в Гродно, он в своей деятельности стал уделять внимание не только военным действиям, но и медико-лекарственному обеспечению повстанческих отрядов. В изданной инструкции он потребовал от поветовых комиссаров: «Прилагать старания к тому, чтобы при каждом отряде был хирург и имелись инструменты и медикаменты»[5].

Готовность принять участие в восстании проявили и фармацевтические работники. Они старались помогать больным и раненым повстанцам. Однако, сделать это было не так просто, поскольку аптеки имелись только в Гродно и в нескольких уездных городах губернии, деятельность их контролировалась. Но все же находились аптекари и их помощники, которые снабжали повстанческие отряды инструментами, медикаментами и перевязочными материалами. За это подверглись репрессиям аптекарь К. Диясюкевич и фельдшер М. Юдко (Гродно), провизоры А. Волевич и К.Ю. Рыжикевич (Слоним), З. Колосовский и Погаровский (Волковыск), А. Мурзынович (Щучин), аптекарский ученик В. Галецкий (Кобрин) и др. Некоторые были сосланы в Сибирь.

Наиболее активно оказывали помощь повстанцам гродненские фармацевтические работники. Накануне восстания в Гродно



**Аптека и Фарный костёл на рисунке второй половины XIX века.**



**Провизор Иван Адамович.**

имелось 3 аптеки, владельцами которых были провизоры Иван Осипович Адамович, Б.М. Кондратович и Г. Нестерович. В их штате имелись еще помощники аптекарей и аптекарские ученики. Этого количества аптек и персонала было недостаточно для обслуживания населения. Только в 1887 г. была открыта четвертая аптека (филиал) в Занеманском форштадте. Из них наиболее крупной и популярной была бывшая иезуитская аптека, которая действовала с 1687 г. Однако, в начале XIX в. она приостановила свою работу.

Провизору И.О.Адамовичу (1803-1870) удалось ее восстановить в 1837 г. Он окончил Виленский университет (1830) и стал известен не только в Гродно, но и за его пределами как высококвалифицированный провизор, исследователь Друскеникских минеральных вод и местных лекарственных растений. Время находилось также для общественной и благотворительной деятельности. Около 20 лет он без заработной платы исполнял обязанности вначале внештатного, затем штатного фармацевта Врачебной управы Губернского правления. За бесплатную помощь лекарствами беднякам и обездоленным

ему неоднократно объявлялась «признательность начальства». Иван Адамович пользовался большим уважением среди населения[6].

В ходе восстания Кастусь Калиновский и его соратники принимали меры по активизации формирования партизанских отрядов из числа местных добровольцев. По разработанному ими плану в марте – апреле 1863 г. каждый уезд должен был создать отряд численностью 100 – 150 человек. Это касалось и Гродно, который был переполнен российскими войсками и жандармами.

Первая попытка организации повстанческого отряда в городе и окрестностях предпринята в феврале. Это установил врач Гродненского военного госпиталя И.А.Митропольский, которому пришлось совершить служебную поездку за пределы города для оказания медицинской помощи. Он также зафиксировал вблизи м. Озеры формирующийся повстанческий отряд, который, по его мнению, не был полностью укомплектован[7].

Ситуация в Гродненском повете резко изменилась, когда в окрестностях м. Поречье стал дислоцироваться отряд под командованием Людвика Нарбута, прибывший из Лидского повета. По плану он должен был напасть на Гродно, но был малочисленным и нуждался в пополнении.

Группа городской молодежи приняла решение в ночь со 2 на 3 марта 1863 г. (по новому стилю) захватить на железнодорожном вокзале поезд и отправиться в Поречье, чтобы присоединиться к отряду. Планировалось также пополнить его оружием и боеприпасами, чтобы действовать в окрестностях Гродно[8].

Организаторами готовящегося побега были бухгалтер Гродненской строительной и дорожной комиссии и он же воеводский комиссар Эразм Заблоцкий, отставной российский капитан и начальник железнодорожной станции Л.Ф.Кульчицкий и, возможно, повстанческий начальник города Целестин Цехановский, частнопрактикующий врач.

Добровольцы должны были покинуть город в 10 часов вечера 2 марта 1863 г. Однако, реализовать намеченный план полностью не удалось, так как о готовящемся побеге стало известно городской полиции. По ее сведениям в ту ночь на железнодорожной станции должна была собраться группа молодежи в количестве около 100 человек. Пользуясь темнотой, полиция смогла окружить уже подготовленный к отправке состав и арестовать большинство участников

побега. При этом не обошлось без перестрелки, были раненые. Л.Ф. Кульчицкий и с ним 6 или 7 человек в суматохе смогли покинуть станцию на паровозе[9].

Полиции удалось арестовать 62 человека. Все они были привлечены к ответственности. В их числе оказались и ученики гродненских аптек Владимир Бортцицкий, Станислав Розвадовский, Иван Эйслер, Станислав Куровский, Викентий Артишкевич и Андрей Дмитриев. Часть из них попала в руки полиции при облаве, некоторых арестовали за то, что не ночевали дома или в аптеке[10].

Это были в основном подростки из аптеки Г. Нестеровича, что не было случайностью. С 1836 г. ею владел врач Л. Дзичковский, выходец из дворян Гродненской губернии. Он также, по-видимому, работал врачом в Ковно и возможно, как ковенский воевода, поддерживал связи с К.С. Калиновским. Арендовал аптеку у Г. Нестеровича провизор Л. Калиновский. Видимо не случайно его конспиративная квартира и аптека находились в одном доме, принадлежащем Фуксу (ул. Доминиканская, 9).

По приказу Гродненского губернатора И.В.Галлера была создана Военно-следственная комиссия. Началось расследование, которое продолжалось до мая. Сохранившиеся архивные документы исследованы пока еще недостаточно[11]. При арестах полицией было конфисковано 32 единицы оружия и 28 единиц разных вещей и предметов. В их числе оказалась «деревянная коробка» с предметами медицинского назначения.

Следственная комиссия изучила ее содержимое. Был обнаружен большой запас разного рода медицинских препаратов, а также две колоды игральных карт и напечатанные на бумаге молитвы. По распоряжении главы Комиссии «медикаменты, найденные на железной дороге, в деревянной коробке» были доставлены на экспертизу в Гродненский военный госпиталь.

Освидетельствование их было проведено 22 марта 1863 г. младшим ординатором госпиталя А.В.Подкопаевым и управляющим аптекой госпиталя Бергом в присутствии членов Комиссии[12]. В коробке найден значительный запас лекарств (14 наименований), необходимых для оказания первоначальной помощи. Содержание лекарственных веществ в упаковках колебалось от нескольких драхм (3,73 г) до унций (29,8 г) и фунтов (409,5 г). Семь из них были признаны сильнодействующими, которые по закону должны были отпускаться только по рецепту врача.

Кроме того, в коробке также имелись весы и ложечки для расфасовки лекарств на малые порции и дозы. К ним прилагались мелкие пустые склянки, капсулы и бумажные пакеты для порошков. Вместе с лекарствами это была, фактически, небольшая походная аптека, которой врачи и фельдшера могли успешно пользоваться в полевых условиях. На коробке и отдельных флаконах с лекарствами имелись надписи «Аптека Адамовича» на польском языке.

Это не могло не вызвать у членов Комиссии подозрения, что повстанцы, скорее всего, именно в этой аптеке смогли получить лекарства. Срочно была проведена проверка ее деятельности. Пришлось привлечь к дознанию ее владельца Ивана Адамовича, но без составления протокола. Предъявленное ему обвинение было отвергнуто как безосновательное, так как аптека находилась в «арендном содержании у аптекаря Адольфа Шмидта»[13]. Он имел 28 лет. В Гродно приехал из польского города Плоцка вместе с женой и проживал в одной из комнат при аптеке. Полиция не добилась от него признания связи с повстанцами и оказания им помощи лекарствами.

По приказу губернатора 20 марта 1863 г. полиция доставила провизора Адольфа Шмидта на допрос в Военно-следственную комиссию. Доказательством его вины могла стать подобранная на вокзале коробка с лекарствами. Ее содержимое предъявлялось ему частями. Вначале были показаны лекарства, на которых не имелось надписей с названием аптеки. При осмотре их он заявил, что не знает из какой аптеки они взяты. А.Шмидт также утверждал, что в управляемой им аптеке используется посуда не таких размеров, а имеющиеся надписи на них неизвестно, кем сделаны. Однако, когда было показано несколько флаконов с этикетками «Аптека Адамовича», обвиняемому после долгих колебаний пришлось дать признательное показание. Он сознался, что действительно лекарства эти «были изготовлены в запас» и отпущены им самим из своей аптеки. Надписи на склянках сделаны его рукой. Но при этом А.Шмидт упорно скрывал, кому именно они были отпущены: «...какому-то будто бы незнакомому лицу», якобы для лечения крестьян в своем поместье[14].

Своим «запирательством» А.И.Шмидт навлек подозрение в том, что заранее знал о готовящихся «беспорядках» либо сам в них участвовал, и ему известно кому были отпущены лекарства. Комиссия приняла решение подвергнуть его аресту «впредь до расследования сего обстоятельства».

Одновременно велись поиски новых доказательств его вины. 26 марта поступило сообщение из Сувалковского губернского



**Страницы следственного дела Адольфа Шмидта.**

жандармского управления о том, что он принимал участие в «беспорядках», происходивших в 1861 г. в г. Плоцке. За это он был привлечен к административной ответственности и до 24 марта 1862 г. находился под надзором полиции. После освобождения от ответственности за ним продолжалось секретное наблюдение полиция[15]. Это, по-видимому, было одной из причин его переезда в Гродно.

Продолжая расследование, Военно-следственная комиссия признала необходимым провести дополнительную экспертизу коробки и содержащихся в ней лекарств. 4 апреля 1863 г. она была повторна доставлена в военный госпиталь для выяснения, какие требования действующего законодательства нарушены управляющим аптекой А.И. Шмидтом, и какая ответственность может последовать за этим.

Вышеупомянутые эксперты констатировали, что в коробке, оказались многие лекарства, которых аптекарь Шмидт не имел права продавать без рецепта доктора. Однако, поскольку это обстоятельство не имеет общей связи с делом, производимым о политическом преступнике, то следует представить акт на решение губернатора[16].

Так как это нарушение относилось к компетенции гражданских, а не военных властей, то 16 апреля по предписанию губернатора А.И.Шмидт был освобожден из тюрьмы под поручительство двух «благонадежных лиц» и под строгий надзор полиции, с подпиской о невыезде из города[17]. Однако, по распоряжению полиции уже 28 мая 1863 г. он снова был задержан и доставлен в Военно-следственную комиссию. Далеко идти под конвоем ему не пришлось, так как она находилась на 2 этаже руководимой им аптеки[18].

Несмотря на многократные допросы и длительное тюремное заключение, провизор А.И.Шмидт не терял мужества. Обвинение в поддержании связи с повстанцами, а также в обеспечении их лекарствами он не признал. Своей виной считал только то, что без рецепта врача изготовил сильнодействующие лекарства и не запомнил личности того, кому их отпустил.

28 сентября 1863 г. Адольф Шмидт по конфирмации командующего войсками Виленского военного округа был лишен всех прав и имущества. 10 октября 1863 г. он был отнесен к 4-й категории участников восстания. Вина его подтверждалась в основном косвенными уликами. Во-первых, на гродненской железнодорожной станции была найдена коробка с лекарствами, полученная повстанцами из управляемой им аптеки, во-вторых, для оправдания своей вины давал уклончивые показания.

При отсутствии прямых доказательств виновности, что отмечено в приговоре, А.И. Шмидта приговорили к ссылке в Сибирь. 27 октября 1863 г. он был отправлен в Томскую губ. для дальнейшего проживания под надзором полиции[19]. Его жена сумела продать принадлежавшую им мебель и последовала за мужем.

Несмотря на многолетние поиски, новых данных о дальнейшей жизни и деятельности А.И. Шмидта пока выявить не удалось. И.О.Адамович и его аптека, несмотря на коснувшиеся их репрессии, продолжали действовать.

Участник восстания С.О.Розвадовский получил в Московском университете высшее образование и стал провизором. С 1887 г. именно он был арендатором этой аптеки, принадлежавшей уже Гродненской лютеранской общине. С 1905 г. ею руководил провизор Э.И. Стемпневский. Они следовали традициям гуманизма и благотворительности.

Заўвагі

[1] Смирнов А.Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. М.: АН СССР, 1963. – 342 с.
[2] ЦГИА Литвы. Ф. 378, воп. 1863 по, адз.з. 548, арк. 7.
[3] Borzęcki K. Powstanie styczniowe i udział w nim farmaceutów // Farm. Pol. 1963, XI, 1-2, s. 1-17; Sokołowicz W. Farmaceuci w powstaniu 1863 roku // Wiad. Farm. 1931, LIII, 13, s. 162-164; 14, s. 178-180; 15, s. 192-194; 16, s. 208-210; 17, s. 220-221.
[4] Игнатович Ф.И. Медицинское и лекарственное обеспечение участников восстания 1863 года в Северо-Западном регионе Беларуси // Мінулае Гродзеншчыны: вучэбна-метадычны дапаможнік для настаўнікаў. Гродна, 2004, с. 13-22.
[5] Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988, с. 71.
[6] Игнатович Ф.И. Провизор И.О. Адамович, его профессиональная и благотворительная деятельность в Гродно // Журнал ГрГМУ. 2010, с. 108-110.
[7] Митропольский И. А. Повстанье в Гродне в 1863-1864 гг. (Из воспоминаний врача) // Руский архив, 1895, кн. 1, вып. 1, с. 149.
[8] НИА РБ в Гродно. Ф. 3, оп. 1, ед.хр. 22, л. 4, 32, 34.
[9] Там же. Ед.хр. 32, л. 57.
[10] Тамже.
[11] Швед В.В. Губернскі Гродна. Баранавічы, 2003, с. 81-88.
[12] НИА РБ в Гродно. Ф. 1, оп. 34, ед.хр. 231, л. 117, 154.
[13] Там же. Л. 117.
[14] Там же. Л. 117 об.
[15] Там же. Л. 155 об.
[16] Там же. Л. 153.
[17] Там же. Ф. 3, оп. 1, ед.хр. 26, л. 131.
[18] Там же. Ф. 1, оп. 34, ед.хр. 231, л. 231, 235.
[19] Им же. Л. 281, 332.

**Алесь Крой, Іван Буднік,**
**Уладзімір Хільмановіч (усе Гродна)**

# Шляхамі паўстанцаў 1863 – 1864 гг.

## Памятныя месцы, знакі і магілы паўстанцаў 1863 г. на Гарадзеншчыне

**Баруны (Ашмянскі р-н)**

1 верасня 1863 г. каля мястэчка адбыўся бой паміж паўстанцамі і расійскім войскам.

**Відэйшы (Ашмянскі р-н)**

21 кастрычніка 1863 г. адбылася сутычка паўстанцаў з царскім войскам.

**Даўкшышкі (Ашмянскі р-н)**

22 лютага 1863 г. каля вёскі адбылася сутычка паміж паўстанцамі на чале з Фэліксам Віславухам і Станіславам Бухавецкім і расійскім войскам.

**Жупраны (Ашмянскі р-н)**

Магіла і помнік Францішку Багушэвічу – класіку беларускай літаратуры і ўдзельніку паўстання. У касцёле мемарыяльная дошка.

**Клявіца (Ашмянскі р-н)**

15 верасня 1863 г. у мясцовым лесе адбыўся бой паміж паўстанцкім атрадам Густава Чаховіча (каля 100 чал.) і расійскімі жаўнерамі.

**Кватары (Бераставіцкі р-н)**

Уладальнік маёнтку Антон Гліндзіч за ўдзел у паўстанні быў арыштаваны і памёр у 1864 г. у Ваўкавыскай турме.

**Ківанцы (Воранаўскі р-н)**

18 красавіка 1863 г. адбыўся бой паўстанцкага атраду на чале з ксяндзом Антонам Мацкевічам і расійскім войскам.

**Нача (Воранаўскі р-н)**

Памятны знак у гонар паўстанцаў 1863 г. (усталяваны каля касцёлу ў 1988 г.).

**Радунь (Воранаўскі р-н)**

Паблізу месца пахавання паўстанцаў 1863 г.

**Азёры, Святое Балота (Гарадзенскі р-н)**

22 красавіка 1863 г. каля мястэчка адбыўся бой паміж паўстанцкім атрадам Аляксандра Лянкевіча і расійскім войскам. На месцы лагера і бітвы быў пасаджаны малады дубок.

На Азёрскіх могілках установлены 5 крыжоў у памяць пахаваных паўстанцаў

**Віцькі (Гарадзенскі р-н)**

Непадалёк вёскі знаходзіцца г.зв. "Канюхоўскі роў", месца пахавання пасечаных казакамі паўстанцаў 1863 г. з Пескаўскага атраду.

**Гродна**

Мемарыяльная шыльда на будынку чыгуначнага вакзалу

На старых каталіцкіх могілках пахаваная Эліза Ажэшка (6.6.1841-18.5.1910), польска-беларуская пісьменніца, удзельніца паўстання.

Будынак былога гатэлю Севярына Ромэра, дзе адбываліся сустрэчы членаў Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Будынак былой мужчынскай гімназіі, навучэнцы якой актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні.

**Гожа (Гарадзенскі р-н)**

Маёнтак Станіслава Сільвестровіча, паўстанцкага цывільнага начальніка Гарадзенскага павета, пасля ваяводскага начальніка.

**Кадыш (Гарадзенскі р-н)**

22 траўня 1863 г. адбыўся пераможны бой паўстанцкіх атрадаў з расійскімі войскамі. Брацкая магіла паўстанцаў з крыжом-помнікам.

**Навасёлкі (Гарадзенскі р-н)**

Маёнтак-сядзіба члена Гарадзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Уладзіслава Спірыдовіча.

**Панюкі (Гарадзенскі р-н)**

Маёнтак вайсковага начальніка Гарадзенскага павету, камандзіра паўстанцкага атраду Аляксандра Лянкевіча (псеўд. “Ляндар”).

**Парэчча (Гарадзенскі р-н)**

Жыхары вёскі бралі актыўны ўдзел у паўстанні 1863 г., змагаліся ў атрадах Л.Нарбута і А.Лянкевіча. У канцы чэрвеня 1863 г. на чыгуначнай станцыі адбыўся бой.

**Пескі (Гарадзенскі р-н)**

Вёска, што знаходзілася на левым беразе Нёмана насупраць в. Коматава каля в. Віцькі. Была знішчана. У 1863 г. у Песках дзейнічаў паўстанцкі атрад, які быў разбіты.

**Эйсманты (Надтабольскія) (Гарадзенскі р-н)**

За ўдзел у паўстанні пакараны высылкай у Расію 8 сямей мясцовых жыхароў.

**Явар (Дзятлаўскі р-н)**

Каля вёскі знаходзіцца месца пахавання загінуўшых паўстанцаў.

**Гаўя (Іўеўскі р-н)**

Нарадзіўся Уладзіслаў Брахоцкі (1810-1896), грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1863 г. Пасля ссылкі да смерці жыў у Вераскаве (Наваградзкі р-н).

**Расолішкі (Іўеўскі р-н)**

3 чэрвеня 1863 г. каля вёскі адбыўся бой паміж паўстанцкім атрадам Зыгмунта Мінейкі і расійскім войскам. Паўстанцы пацярпелі паразу, а Мінейка быў арыштаваны.

**Вавёрка (Лідскі р-н)**

Мясцовы ксёндз Раймунд Зямацкі за чытанне ў касцёле Маніфесту паўстання быў расстраляны 24 траўня 1863 г. у Вільні.

**Кір’янаўцы (Лідскі р-н)**

Жыў памешчык Альберт Ласковіч, удзельнік паўстання. Ён быў расстраляны 5 чэрвеня 1863 г.

**Ліда**

Жыў Баляслаў Калышка (26.7.1837-28.5.1863), адзін з кіраўнікоў паўстання. Родам з маёнтку Навіцкішкі Лідзкага пав. Быў павешаны ў Вільні.

Жыў Юльян Лясноўскі, удзельнік паўстання. Быў павешаны ў Вільні.

Жыла Валерыя Цехановіч (1841-1933), удзельніца паўстання 1863 г. Пражыла 92 гады, пахаваная ў Лідзе. На магіле захаваўся помнік.

**Лунна (Мастоўскі р-н)**

Каталіцкая капліца каля касцёла. На могілках знаходзіцца помнік Яну Каменскаму, цывільнаму паўстанцкаму начальніку Гарадзенскага павету.

**Мінявічы (Мастоўскі р-н)**

Крыж-помнік на магіле 40 паўстанцаў. Удзельнікамі паўстання былі ўладальнік маёнтку Ян (Іван) Каменскі, сяляне Алесь Карась і Максім Барэйка.

**Пацавічы (Мастоўскі р-н)**

У ваколіцах вёскі ў лесе знаходзіцца помнік паўстанцам 1863 г.

**Правыя Масты (Мастоўскі р-н)**

Уладальнік маёнтку Міхайлоўка Лавіцкі быў актыўным удзельнікам паўстання. Помнік паўстанцам не захаваўся.

**Рагозніца (Мастоўскі р-н)**

Сын уладальнікаў Рагозніцы Шабаньскіх у 1863 г. загінуў у паўстанні.

**Нянькава (Наваградскі р-н)**

Жыў Уладзіслаў Дыбоўскі (18.4.1838-27.7.1910, удзельнік паўстання. Вядомы заолаг, батанік, палеантолаг, спецыяліст па мінералогіі, фальклярыст. Жыў у вёсцы з 1878 – да пачатку 1900-х гг. Сядзіба знішчаная ў Другую сусветную вайну. Пахаваны на мясцовых могілках.

**Сянно (Наваградскі раён)**

Нарадзіўся Валер’ян Вільчэўскі (14.04.1835-16.05.1916), лекар у атрадзе Францішка Юндзіла ў Слонімскім пав.

Нарадзіўся Адам Пуслоўскі, удзельнік паўстання. Паблізу Сянна родавы пахавальны склеп і помнік-крыж.

**Львоўшчына (Слонімскі р-н)**

18 ліпеня 1863 г. каля вёскі атрады паўстанцаў Ізідора Лукашэвіча (псеўд. “Галоска”) і Вітольда Міладоўскага далі бой расійскім войскам. Паўстанцы страцілі забітымі 7 чалавек, у тым ліку Лукашэвіча.

**Мілавіды (Слонімскі р-н, цяпер Баранавіцкі р-н)**

22 мая 1863 г. каля вёскі адбылася самая вялікая бітва на

тэрыторыі Беларусі паміж паўстанцамі пад камандаваннем Аляксандра Лянкевіча і расійскім войскам. Паспяхова вялі бой каля 1000 паўстанцаў супраць казакаў і жаўнераў Стараінгерманландскага палка з артылерыяй.

**Кушляны (Смаргонскі р-н)**

Сядзіба Францішка Багушэвіча (жыў з 1898 г. да смерці ў 1900 г.). У 1749 г. сядзібу набыў прапрадзед паэта А. Багушэвіч. На тэрыторыі сядзібы дом, парк з пладовым садам, драўляная альтанка з назвай “Распятая воля”, зробленая Багушэвічам у памяць ахвяраў паўстання 1863 г.

Паблізу сядзібы камень Мацея Бурачка, устаноўлены сялянамі ў гонар паэта ў пачатку XX ст.

Парк і сад Маркоўскага, удзельніка паўстання.

Парк Ясевіча, удзельніка паўстання.

**Солы (Смаргонскі р-н)**

3 лютага 1863 г. адбыўся бой паміж паўстанцамі і расійскім войскам.

**Тупальшчына (Смаргонскі р-н)**

Нарадзіўся Юльян Бакшанскі (7.12.1824-4.4.1863), удзельнік вызвольнага руху, кіраўнік паўстанцкага атраду, публіцыст.

**Свіслач**

Магіла і помнік старэйшаму брату Кастуся Віктару Каліноўскаму (нар. у вёсцы Мастаўляны на Беласточчыне, 21.4.1833-6.11.1862). Вядомы археограф, адзін з ідэолагаў нацыянальна-вызвольнага руху. Памёр у Якушоўцы.

Помнік Рамуальду Траўгуту (1928 г., адноўлены ў 1989 г., скульптар Міхал Анціпін).

Помнік Кастусю Каліноўскаму (скульптар Заір Азгур).

**Якушоўка (Свіслацкі р-н)**

Быў фальварак Каліноўскіх, якія яны набылі ў 1849 г.

Жыў Кастусь Каліноўскі (з 1849 г., з 1847 г. вучыўся ў Свіслацкай гімназіі).

24 кастрычніка 1999 г. падчас Дня памяці паўстанцаў 1863 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнага крыжа.

**Дэмбрава (Шчучынскі р-н)**

Радзіма знакамітага мастака і ўдзельніка паўстання Казіміра Альхімовіча.

**Жалудок (Шчучынскі р-н)**

Служыў вікарыем у касцёле **Станіслаў Ішора**, які быў расстраляны ў Вільні 24 траўня 1863 г. за чытанне Маніфесту ў касцёле.

Радзіма ваяводскага вайсковага начальніка Валерыя Урублеўскага.

**Ішчална (Шчучынскі р-н)**

Служыў ксяндзом **Адам Фалькоўскі**, які быў расстраляны ў Лідзе 10 чэрвеня 1863 г. за чытанне вернікам паўстанцкага Маніфесту.

**Новы Двор (Шчучынскі р-н)**

11 красавіка 1863 г. каля вёскі адбылася бітва паміж паўстанцкім атрадам Людвіка Нарбута і расійскім войскам.

**Шчукі (Шчучынскі р-н)**

Вёска за падтрымку паўстання была спалена расійскімі карнікамі 12 ліпеня 1863 г., а яе жыхары (16 сем'яў) высланыя ў розныя губерні Расіі.

## Веламаршрут па гарадзенскіх слядах паўстання 1863 г.: ад чыгуначнага вакзала да Крыжа на вул Грандзіцкай.

- Мемарыяльная шыльда на будынку чыгуначнага вакзалу (часова знятая). У Гародні былі тры месцы збору паўстанцаў: а) На чыгуначнай станцыі, ад 100 да 150 чалавек (новапабудаваны вакзал відаць з'явіўся пазней, яго маляваў Н. Орда недзе ў 1864-1868 гг.) на чале з начальнікам чыгуначнай станцыі Лявонам Кульчыцкім; б) У арцельным доме в.Капліца, каля чыгункі; в) На Брыгіцкім мосце праз чыгунку.
- Былы дом Абрэмбскіх (вул. Ажэшкі, 19). Гаспадар належаў да буйных землеўласнікаў. За ўдзел у паўстанні быў высланы ў Сібір. Абрэмбскія былі суседзямі і сябравалі з Элізай Ажэшка.
- Дом Элізы Ажэшкі (вул.Ажэшкі, 17).
- Помнік Э. Ажэшка (за мостам праз Гараднічанку).
- Вуліца Элізы Ажэшкі.
- Месца Губернатарскага палаца (пл. Тызэнгаўза). У 30-я гг.

XIX ст. тут была рэзідэнцыя губернатара М.М.Мураўёўва (“Вешальніка”). Падчас паўстання па яго загаду былі спаленыя вёскі **Явараўка** пад Беластокам, **Ібяны** ў Ковенскай губ., **Шчукі** ў Гродзенскім пав., шляхецкія ваколіцы **Сяргейчыкі, Штукіны**, мяст. **Семяцічы**.

- Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г.Гродна (пл. Тызэнгаўза, 2). Былы дом адміністратара Гарадніцы часоў Антонія Тызэнгаўза. У архіве захоўваюцца ўнікальныя справы, звязаныя з падзеямі 1863 – 1864 гг.
- Пл. Тызэнгаўза, насупраць аблвыканкама. Месца, дзе знаходзіліся дамы Урублеўскіх і збіраліся кіраўнікі Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Тут жыў сакратар паўстанцаў Зыгмунт Урублеўскі.
- Былы дом маршалка шляхты Гродзенскага павета Севярына Ромэра (вул. Савецкая, 23). Тут адбываліся сустрэчы сяброў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Дом наведваў Кастусь Каліноўскі. Напалеон Орда пазней адлюстраваў яго на сваіх малюнках. С.Ромэра саслалі ў Томскую губ., а маёмасць канфіскавалі.
- Былы прытулак для жабракоў пры кляштары Св.Духа (вул. Савецкая,14). Працаўнікоў прытулку абвінавацілі ў дапамозе паўстанцам і канфіскавалі будынак. Сёння тут знаходзіцца выканкам Ленінскага раёну горада.
- Былы дом Фукса, дзе бываў К.Каліноўскі (вул. Савецкая, 7). Тут адбываліся патаемныя сустрэчы кіраўнікоў арганізацыі на кватэры сакратара паўстанцкага цывільнага начальніка горада Ільдэфонса Мілевіча
- Будынак былой мужчынскай гімназіі (вул. Савецкая, 6). Яе навучэнцы актыўна ўдзельнічалі ў паўстанні. Тут, каля гімназіі (звесткі С.Дразда) прадстаўнік Варшаўскага ўраду абвінаваціў К.Каліноўскага ў “літоўскім сепаратызме”. Пасля гэтага К. Каліноўскі загадаў выгнаць з Беларусі агентаў Варшаўскага камітэта, а В.Урублеўскі адмовіўся выконваць іх распараджэнні. Пазней улада перайшла да “белых”. Але тым не менш адзінства ў дзеяннях паўстанцаў Беларуска-Літоўскага краю і Польшчы захавалася.
- Пляцоўка каля будынка Абласнога савету прафсаюзаў (вул. Савецкая, 4). Больш 20 гадоў назад кіраўніцтва горада

тагачаснай БССР прыняло рашэнне аб ушанаванні памяці правадыра паўстання К. Каліноўскага шляхам устаноўкі помніка. Пляцоўка разглядалася як верагоднае месца яго-най устаноўкі.

- Будынак былога кляштара кармелітаў (вул. Маставая, 37). У часы паўстання належаў вайскоўцам. Тут утрымліваліся крымінальнікі, пераведзеныя з перапоўненай арыштаванымі паўстанцамі гродзенскай турмы, і, магчыма, сваякі паўстанцаў
- "Заезжы дом (двор)" на вул. Маставой (каля было кляштара кармелітаў). Тут К.Каліноўскі сустракаўся з Станіславам Сангінам і Ігнатам Геніушам (Геніюшам). Геніуш быў прызначаны на пасаду кіраўніка ваяводскага бюро.
- Кляштар францысканцаў (вул. Агародная, 2). Расійскія ўлады арганізавалі тут турму для арыштаваных святароў, якіх падазравалі ў падтрымцы паўстання.
- Бернардзінскі касцёл (вул. Парыжскай камуны, 1). Тут адбылося вянчанне Элізы Паўлоўскай з Пятром Ажэшкам.
- Чыгуначны мост праз Нёман (вул. Падольная). У паўстанні прымаў удзел адзін з кіраўнікоў будоўлі моста С. Шпольц. Гэта стала прычынай часовай затрымкі з будаўніцтвам мосту для першай чыгункі ў Беларусі. Удзел у паўстанні прымалі і іншыя будаўнікі чыгункі.
- Фарныя каталіцкія могілкі (вул. Падольная, Прыгарадная). Тут пахаваныя пісьменніца і ўдзельніца паўстання Эліза Ажэшка (6.06.1841-18.05.1910), яе муж таксама ўдзельнік паўстання Станіслаў Нагорскі, яе маці Відацкая з Каменскіх, яе брат Ян Відацкі.
- Панямонь (на поўдзень ад вул. Белуша). Былая загарадная рэзідэнцыя апошняга караля Польскага і вялікага князя Літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пазней, у 1862-1864 гг. гродзенскім павятовым маршалкам быў князь Аляксандр Друцкі-Любецкі, а в.Панямонь валодала княгіня Друцкая-Любецкая. Да яе прыязджалі Эліза Ажэшка, Францішак Багушэвіч, М.Карловіч.
- Месца былога Брыгіцкага мосту праз чыгунку (вул. К. Маркса, Будзёнага). Тут быў зборны пункт аднаго з паўстанцкіх атрадаў.

- Фарны касцёл (Савецкая плошча, 4). 2 лістапада 1894 г. тут адбылося вянчанне Элізы Ажэшкі з Станіславам Нагорскім. У касцёле ўсталяваная шыльда братам Урублеўскім. Зыгмунд Урублеўскі пасля сібірскай ссылкі стане знакамітым прафесарам у Кракаве (першы здабыў вадкі кісларод і вадкі азот).
- Дворык паміж “Фарай” і аптэкай (Савецкая плошча, 4). На другім паверсе была падпольная канцылярыя.
- Фарная аптэка (Савецкая плошча, 4). У 1863 г. яе арандаваў Адольф Шмідт, які дапамагаў паўстанцам лекамі. Высланы ў Томскую губ.
- Гродзенская турма (вул.Кірава, 1). Была перапоўненая падчас паўстання.
- Інтэрнат гімназіі Прушынскага (вул.Кірава, 1). Тут, сярод гімназістаў узнік праект захопу цягніка і выезду па чыгунцы да станцыі Парэчча дзеля далучэння да атрада Людвіка Нарбута. Зараз частка турэмнага будынку.
- Дом на вул. Васілька, дзе верагодна нейкі час жыла Эліза Ажэшка (вул. Васілька, 18). Паэт Міхась Васілёк жыў у доме № 15, які пазней знеслі.
- Вуліца Кастуся Каліноўскага. Названая ў гонар аднаго з кіраўнікоў паўстання.
- Вуліца Валерыя Урублеўскага. Правеў каля 60 баёў з расійскімі атрадамі, быў паранены. Генерал Парыжскай камуны (пахаваны ў Парыжы на могілках Пэр-Лашэз).
- Вуліца Яна Дамброўскага. Польскі, расійскі і французскі рэвалюцыянер, адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве, генерал Парыжскай камуны, падчас якой загінуў.
- Вуліца Грандзіцкая. Вялікі драўляны крыж пры ўездзе ў былую вёску. Магчыма, менавіта на гэтым месцы ў 1862 г. былі знойдзеныя газеты “Мужыцкая праўда”, пакінутыя Кастусём Каліноўскім або Валерыем Урублеўскім. Паводле А.Цыхуна, у Грандзічах знайшлі № 2 газеты ў жніўні 1862 г. Яе распаўсюджваў селянін Антон Яроцкі. Паводле С. Дразда, грандзіцкі парабак Мікалай Таўрэль знайшоў “Мужыцкую праўду” каля статуі св. Яна пры дарозе з боку Гродна.

**Вячаслаў Швед (Гродна)**

# Гродзенскія адрасы паўстанцаў 1863 – 1864 гг.

Гэты спіс быў складзены па паказаннях паўстанцаў у Гродзенскай і Віленскай следчых камісіях па палітычных справах (асабліва Э.Заблоцкага, Ю.Стравінскага)[1], а таксама па іншых крыніцах і літаратуры, указаных у спасылках.

Спіс утрымлівае адрасы, звязаныя з кіраўнікамі гродзенскай цывільнай і вайсковай ваяводскай рэвалюцыйнай арганізацыі, камандзірамі паўстанцкіх атрадаў, удзельнікамі выступлення 14 сакавіка 1863 г. на чыгуначнай станцыі Гродна.

**Аптэка Адамовіча** (сёння Савецкая пл., 4).

Яе арандатар гродзенскі аптэкар Адольф Шмідт быў удзельнікам выступлення 14 сакавіка 1863 г.

**Аптэка Дзічкоўскага** (пазней аптэкай кіраваў правізар Л.Каліноўскі. Сучасны адрас – вул. Савецкая, 5, 7).

Аптэкарскі вучань Станіслаў Адамавіч Куроўскі таксама быў удзельнікам выступлення 14 сакавіка 1863 г.

**Гатэль Ромэра (**вул. Савецкая, 23**)** на вул. Дамініканскай.

У красавіку ці маі (па новаму стылю) 1863 г. там адбыўся сход сяброў Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі па раскладцы падаткаў на памешчыкаў пад кіраўніцтвам Станіслава Солтана. Солтан, Камінскі, Багатка, князь Чацвярцінскі, Э. Заблоцкі спачатку сабраліся ў пакоі Юндзіла, які тут жыў. Юндзіл здаў сабраныя 3000 руб. срэбрам ваяводскаму касіру Багатцы. Мілевіч сходзіў у сваю кватэру і прынёс 10-ы нумар газеты "Рух". Потым снедалі ў іншым пакоі. За сталом сядзелі акрамя вышэй названых Мілевіч, Каліноўскі, Ромер, Рэдых, Вайсятыч, Дашкевіч, Сільвестровіч. Прачыталі інструкцыі сяброў арганізацыі і 10-ы нумар газеты "Рух"[2].

**Гімназія** (вул. Савецкая, 6).

Тут вучыліся сябры Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі:



**Дамініканская (цяпер Савецкая) вуліца з гатэлем Ромера, дзе збіраліся паўстанцы. Малюнак Н.Орды, 1860-я гг.**

- Уладзіслаў Аляксандравіч Бріере дэ Мартэре, перапісчык у рэвалюцыйным ваяводскім бюро І. Геніўша;
- Уладзіслаў Людвігавіч Жалкоўскі, рэвалюцыйны начальнік Гродна пасля Ю. Руткоўскага;
- Баляслаў Карлавіч Заблоцкі, камісар Гродзенскага ваяводства пасля арышту брата Эразма;
- Эразм Карлавіч Заблоцкі, камісар Гродзенскага ваяводства;
- Сабеслаў Восіпавіч Пансэт дэ Сандон, рэвалюцыйны начальнік Ваўкавыскага пав. пасля Гліндзіча;
- Юзаф Юзафавіч Руткоўскі, начальнік Гродна пасля арышту Цеханоўскага (30.07.1863 г.);
- Сігізмунд Казіміравіч Урублеўскі, перапісчык пры начальніку Гродзенскага пав. Сільверстовічу, з чэрвеня 1863 г. пры ваяводскім начальніку;

14 сакавіка 1863 г. узброеныя гродзенскія гімназісты (да следства прыцягнутыя 25 чал.) на чале з начальнікам станцыі Л. Кульчыцкім няўдала спрабавалі выехаць на цягніку на станцыю Парэчча, дзе іх чакаў Баляслаў Нарбут для таго, каб адвесці іх у атрад брата Людвіка (прозвішчы гімназістаў глядзі ніжэй[3]).

Месца працы настаўніка польскай мовы Станіслава Максіміліянавіча Навакоўскага, які агітаваў гімназістаў да ўдзелу ў паўстанні і быў арыштаваны пасля 14 сакавіка 1863 г.

**Гродзенскае губернскае праўленне** (Дварцовая пл., 2. Сучасны адрас – пл. А.Тызэнгаўза, 2).

Месца службы наступных удзельнікаў паўстання:

- Адам Целесфоравіч Баяроўскі, памочнік начальніка Гродзенскага пав. Я. Каменскага;
- Эразм Карлавіч Заблоцкі, бухгалтар Будаўнічай і дарожнай камісіі, камісар Гродзенскага ваяводства;
- Баляслаў Якубавіч Ізбіцкі, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;
- Канстанцін Іванавіч Савашкевіч, агент рэвалюцыйнага начальніка Гродна Э. Заблоцкага;
- Юзафат Людвікавіч Сержпутоўскі, рэферэнт касы (касір) Сакольскага пав.;
- Сільвестр Вікенцевіч Хамічэўскі, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;
- Адольф Андрэевіч Шыдлоўскі, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;

**Гродзенская казённая палата** (вул. Ажэшкі, 3, палац К.Максімовіча)

Месца службы наступных удзельнікаў паўстання:

- Ігнацы Ігнацьевіч Геніўш, начальнік Гродзенскага рэвалюцыйнага бюро;
- Адольф Іванавіч Талочка, памочнік ваяводскага начальніка Э. Заблоцкага;
- Эдвард Ксавер'евіч Чачот, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;
- Захарый Купрыянавіч Ягалкоўскі, акруговы начальнік Слонімскага пав.

**Гродзенская палата грамадзянскага суда** (у 1880 г. вул. Сянная, дом Каўфмана, 15). Будынак не захаваўся.

Месца службы наступных удзельнікаў паўстання:

- Юліян Баяроўскі, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;

- Адольф Сцяпанавіч Белакоз, начальнік Беластока;
- Эдвард Керсноўскі, камандзір партызанскага атрада;
- Пётр Пятровіч Пакубята, азёрскі акруговы начальнік у Гродзенскім пав.;
- Юзаф Юзафавіч Руткоўскі, начальнік Гродна пасля 30.07.1863 г.;
- Франц Уладзіслававіч Юндзіл, паўстанцкі начальнік Слонімскага пав.

**Гродзенская палата дзяржаўных маёмасцяў** (у 1880 г. вул. Сянная, дом Каўфмана, 15). Будынак не захаваўся.

Месца службы наступных удзельнікаў паўстання:

- Людамір (Любамір) Абрэмскі, касір рэвалюцыйнай арганізацыі Гродзенскага ваяводства;
- Міхаіл Высоцкі, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;
- Антоній Янавіч Галконд, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;
- Ян Мацэевіч Казімерскі, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.;
- Рамуальд Сінкевіч, у яго шафе знайшлі 37 асобнікаў "Мужыцкай праўды" (№№ 3 і 5).

**Гродзенская палата крымінальнага суда** (у 1880 г. вул. Сянная, дом Каўфмана, 15). Будынак не захаваўся.

Месца службы наступных удзельнікаў паўстання:

- Ігнацы Яцакавіч Ляскоўскі, парафіяльны начальнік Ваўкавыскага пав.;
- Юзафат Людвікавіч Сержпутоўскі, рэферэнт касы (касір) Сакольскага пав.;
- Людвіг Ксавер'евіч Чачот, удзельнік выступлення 14 сакавіка 1863 г.

**Гродзенскі акруговы шпіталь** (вул. Э.Ажэшкі, 9)

Месца службы Іосіфа Іванавіча Маркевіча, зборшчыка падаткаў у Гродзенскім пав.

**Гродзенскі дваранскі дэпутацкі сход** (вул. Савецкая, 19)

Месца службы наступных удзельнікаў паўстання:

